ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛіМ

# ЛІТАРАТУРА МАСТАЦТВА

6 ЖНІЎНЯ 1993г №31 (3701) Кошт 10 руб.





Свае думкі і эмоцыі мастак Мікола Бушчык выказвае сімвалічнымі вобразамі і своеасаблівым каларытам. Фарбы на ягоных палотнах то гучныя, як арган, то сціплыя і павольныя, нібы жалейка.

Творы Міколы Бушчыка можна сустрэць у галерэях Саюза мастакоў і Міністэрства культуры, у прыватных зборах. Яны экспанаваліся ў Францыі, Германіі, Італіі, Югаславіі, Фінляндыі, іншых краінах. Гэтымі днямі, напрыклад, некалькі работ Бушчыка экспануюцца на дабрачыннай выставе ў Боне, а грошы ад іх продажу пойдуць на аздараўленне беларускіх дзяцей.

Мікола Бушчык — сябра суполкі «Няміга-17». Выставы гэтага творчага аб'яднання неаднойчы ладзіліся ў Дзяржаўным мастацкім музеі Беларусі.

*Фота Дзмітрыя ЛУПАЧА*

Кола дзён

***Жнівень пачаўся для нас традыцыйным павышэннем цэнаў. Чарговым і неапошнім — сціпла каментуюць гэты факт featured рознага рангу чыноўнікі. Заўважце, раней, апраўдваючыся, яны казалі — апошняе, сёння, супакойваючы нас, — чарговае. Маўляў, радуйцеся цяперашнім нізкім цэнам у параўнанні з заўтрашнімі высокімі... «Выхад на сусветныя цэны» і «пераход на рынкавыя рэйкі» з дапамогай «шокавай тэрапіі», распачаты яшчэ камуністамі ў былым СССР, бясконца зацягнуўся ў незалежнай Беларусі. «Тэрапія» ператварылася ў хранічную хваробу нашай эканомікі. Мы патроху прывыкаем жыць ва ўмовах звышінфляцыі і навучыліся ўжо ў дзень зарплаты траціць грошы, пакуль яны не абясцэніліся.***

## НАВІНА ТЫДНЯ

Падпісанне дагавора аб эканамічным саюзе паміж Украінай, Расіяй і Беларуссю запланавана на сярэдзіну верасня гэтага года. У рамках дагавора будзе падпісана каля 35 пагадненняў ва ўсіх сферах эканомікі, уключаючы банкаўскую, знешнеэканамічную і мытную дзейнасць, распрацоўка якіх зараз працягваецца. Інфармацыя пра гэта патрапіла ў беларускія газеты з Кіева, ад віцэ-прэм'ера Украіны В.Ландзіка. Дзе адбудзецца падпісанне дагавора пакуль не паведамляецца. Можа, зноў у Белавежскай пушчы?

## ЦЫТАТА ТЫДНЯ

«Ва ўмовах, калі 26 ліпеня Расія ў аднабаковым плане пачала праводзіць грашовую рэформу, нават учарашнія праціўнікі нацыянальнай валюты сёння бачаць, што з эканамічнай ямы Беларусь не выйдзе ні сёння, ні заўтра, не ўвёўшы свае грошы і ўнутраную манаполію на іх. Быць у адзінай рублёвай прасторы для кіруючых колаў знешне прывабна, бо безадказна. Затое народу трэба плаціць даніну таму, хто друкуе грошы і эмісуе іх. Гаварыць у такой сітуацыі аб эфектыўнай манетарнай і фіскальнай палітыцы проста смешна. Без самастойнай грашова-крэдытнай і фінансавай палітыкі няма дзяржаўнасці».

*/З артыкула «Калі не зараз, то калі» доктара эканамічных навук У.Кулажанкі, «Звязда», 5 жніўня/*

## ВІЗІТ ТЫДНЯ

Беларусь наведала дэлегацыя Усекітайскага Сходу нацыянальных прадстаўнікоў. У Кітаі, па словах гасцей, паспяхова ажыццяўляюцца рэформы на шляху да стварэння «Сацыялістычнай рынкавай эканомікі» і нам, беларусам, ёсць чаму ў іх павучыцца.

## СУСТРЭЧА ТЫДНЯ

Станіслаў Шушкевіч напярэдадні адыходу на адпачынак сустрэўся з лідэрамі трох дэмакратычных арганізацый Беларусі: Аб'яднанай дэмакратычнай партыі, Беларускай сялянскай партыі і Руху за дэмакратычныя рэформы на Беларусі. Гаворка ішла пра магчымасці супрацоўніцтва дэмакратычных сіл краіны. Першы крок да аб'яднання дэмакратаў зроблены, якім будзе працяг?

## ПРЫЗНАЧЭННЕ ТЫДНЯ

Пастановай Саўміна Рэспублікі Беларусь былы Старшыня Прэзідыума ВС БССР, былы старшыня камісіі па нацыянальных адносінах і нацыянальнай палітыцы ВС СССР, нядаўні старшыня камітэта геадэзіі пры Саўміне Рэспублікі Беларусь Г.С.Таразевіч прызначаны першым намеснікам міністра замежных спраў рэспублікі. Прызначэнне гэтае не стала сенсацыйным...

## АДМЕТНАСЦЬ ТЫДНЯ

З пачатку лістапада самалёты грамадзянскай авіяцыі Беларусі будуць лятаць пад сваім нацыянальным сцягам і сваёй нацыянальнай сімволікай. Аб'яднанне «Белавіл» прайшло неабходную рэгістрацыю ў міжнародных арганізацыях грамадзянскай авіяцыі. Прыкметаў нашае незалежнасці большае.

## «ПЕРАДАЧА» ТЫДНЯ

У панядзелак, 2 жніўня, Беларускае тэлебачанне арганізавала «сустрэчу для нас» з прэзідэнтам фірмы «Калінка» В.Кавалевічам, які, рыхтуючыся да халоднай зімы, праявіў ініцыятыву і ўжо набыў для рабочых свайго прадпрыемства дзесятак «буржуек». Цікава было паслухаць ягоныя развагі пра «Белую Россию», пра тое, што сёння важней: «колбаса или белорусский язык», пра тое, што Беларусі тэрмінова трэба ўваходзіць у склад Расіі і г.д. Дзякуй калегам з нацыянальнай тэлерадыёкампаніі, яны, самі не жадаючы таго, цудоўна паказалі якога тыпу і інтэлектуальнага ўзроўню людзі кіруюць эканомікай сёння.

## КУР'ЁЗ ТЫДНЯ

У крамах Полацка з'явіўся новы напой, якому мясцовыя вынаходнікі не прыдумалі пакуль што назвы. Бо гэта — голая газіраваная вада. Голая таму, што на кансервавым заводзе скончыліся запасы цукру і сіропаў. «Навінка» хоць і каштуе даражэй за мінеральную ваду, карыстаецца небывалым попытам у палачан. У гэтай ідэі ў сённяшніх умовах, нам здаецца, вялікая будучыня.

Кола дзён

З нагоды

# ЧУЖОЕ ВОЙСКА НА НАШАЙ ЗЯМЛІ

Кажуць, нібыта дэтанатарам сацыяльнага выбуху, у выніку якога ў Польшчы змяніўся сацыяльны лад, стаў спектакль, пастаўлены па славутым творы Міцкевіча «Дзяды». Дзякуючы арыгінальнай рэжысёрскай трактоўцы і натхнёнай сцэнічнай працы артыстаў, класіка набыла сучаснае гучанне, паэтава слова — прарочы сэнс. Трагічнае асэнсаванне мінуўшчыны спарадзіла акцыі пратэсту.

Я не схільны пераацэньваць уплыў мастацтва на грамадства; таму, на маю думку, гэта — легенда. Але легенды ўзнікаюць не ў паветры, і гэтая таксама мае пад сабою грунт. Да гонару польскай інтэлігенцыі трэба адзначыць, што многія творцы — мастакі, пісьменнікі, людзі тэатра — адкрыта выступалі супраць камунізму, за дэмакратыю, спрыялі сваёй творчасцю набліжэнню прагрэсіўных сацыяльных змен.

Да гонару інтэлігенцыі беларускай, такія людзі былі і ёсць і на нашай зямлі. Гэта не легенда, але факт: нацыянальна-дэмакратычная рэвалюцыя, у выніку якой БССР трасфармавалася ў Рэспубліку Беларусь, мае пачаткам, так бы мовіць, публікацыю ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва» артыкула Зянона Пазняка «Курапаты — дарога смерці». Гэта быў 1988 год. Праўда аб сталіншчыне, аб бальшавізме ўскалыхнула грамадства. Улады разгубіліся. Сказаць, што Курапатаў не было? Але ж у Пазняка «жалезная» аргументацыя. Адзінае, чаго дамагліся тагачасныя кіраўнікі БССР, гэта ў шмат разоў зменшыць, сфальсіфікаваць у афіцыйных дакументах лічбу ахвяр. Пазняк гаворыць пра паўмільёна забітых у Курапатах, улада - пра трыццаць тысяч.

Я памятаю той першы на Беларусі за шмат гадоў /дзесяцігоддзяў!/ масавы несанкцыянаваны мітынг. У Курапатах, у чэрвені 1988 года. Зразумела, што гаварылі выступаючыя пра ахвяры, якія панесла нацыя ў выніку сталінскіх рэпрэсій. Прыводзіліся жахлівыя факты, называліся жахлівыя лічбы. Але мне чамусьці запала ў памяць выступленне, так бы мовіць, не па тэме. Чалавек сталага ўзросту, гадоў мо пад пяцьдзесят альбо крыху болей, гаварыў доўга і не надта ўцямна пра сваю сям»ю; пра апошнюю вайну; пра тое, што нехта з яго сваякоў загінуў на фронце, пра цяжкі пасляваенны час, пра не вельмі ўсталяваны свой сённяшні побыт. А потым, пасля доўгай паўзы, без усялякай сувязі з папярэднім аповядам, ён нечакана сказаў: «У шэсцьдзесят восьмым годзе я быў у Чэхаславакіі акупантам. Але я не страляў!» Сказаў і аддаў мікрафон наступнаму выступоўцу.

Вось дзеля гэтых слоў ён і прыйшоў на мітынг. Дваццаць гадоў хадзіў чалавек з усведамленнем свайго граху і ведаў, як пакаяцца. Трэба мець мужнасць сказаць самому сабе: «Я злачынец» тады, калі дзяржава называе цябе героем, «воином-интернационалистом».

Я прыгадаў гэта сёння, бо днямі спаўняецца 25 год, як Савецкая Армія і войскі іншых краін Варшаўскага пакту спынілі чэхаславацкую «адлігу» - «Пражскую вясну». Для Савецкай дзяржавы гэта была не першая такога роду акцыя. 40 год назад /таксама «юбілей»!/, у 1953 годзе савецкімі танкамі ў Берліне былі падаўлены стыхійныя, але мірныя выступленні рабочых супраць камуністычнай улады. У 1956 годзе ледзь не рухнуў сацыялізм у Венгрыі. Яго падтрымалі таксама савецкія штыкі. Былі і іншыя «інтэрнацыяналісцкія» акцыі меншага маштабу і меншага палітычнага рэзанансу. Але 1968 неяк выбіваецца з гэтага шэрагу. Менавіта акупацыя Чэхаславакіі пакінула асабліва балючы след у нашай гістарычнай памяці, шрам на нашым сумленні. Можа, таму, што ў 1953 і 1956 гадах у Берліне і Будапешце «парадак наводзілі» савецкія людзі ваеннага пакалення. Уся савецкая перадваенная рэчаіснасць /прымусовая калектывізацыя і індустрыялізацыя/, вайна і пасляваенная сталіншчына /дэпартацыі цэлых народаў, супрацьстаянне былым саюзнікам па антыгітлераўскай кааліцыі, мілітарысцкі псіхоз на хвалі Перамогі/ прывучылі людзей да думкі, што гвалт — самы хуткі і эфектыўны сродак для вырашэння якой бы ні было праблемы.

У 1968 годзе людзі былі ўжо іншымі. Хай не ўсё грамадства, але многія ўсведамлялі, што Савецкі Саюз не мае права на ісціну ў апошняй інстанцыі, што нельга жыць у свеце і ігнараваць сусветную грамадскую думку і правы народаў на самавызначэнне.

Разумелі гэта /у асноўным на эмацыянальным, а не на аналітычным узроўні/ і многія «воіны-інтэрнацыяналісты». Недзе, здаецца, на пачатку 70-х гадоў я меў гутарку са знаёмцам, якому давялося служыць у Чэхаславакіі. Мяне цікавіла, як да нашых /савецкіх салдат/ ставяцца чэхі. «А табе б спадабалася, каб пад Мінскам стаяла чэшская армія?» — «Не.» — «Дык чаго пытаешся?»

Сёння, у 25-гадовы «юбілей» акупацыі Чэхаславакіі, мы ў нейкай ступені маем у сваёй краіне аналаг сітуацыі 1968 года. На нашай зямлі «на законных падставах» стаіць чужое войска. Нагадаю, адразу пасля ўступлення Савецкай Арміі ў Прагу ў Маскве быў падпісаны дагавор паміж Чэхаславакіяй і СССР «Аб часовым размяшчэнні савецкіх войск на тэрыторыі Чэхаславакіі». Маем такі дагавор з Расіяй і мы...

Ідэалагічным абгрунтаваннем акупацыі была так званая «дактрына Брэжнева», сэнс якой у тым, што кожная сацыялістычная дзяржава мае, акрамя абавязкаў перад уласным народам, яшчэ і абавязкі перад сусветным рэвалюцыйным рухам. А, значыць, гэты самы «сусветны рух» у асобе Савецкага Саюза мае права лезці ў справы суверэнных краін.

Сёння эмісары з Масквы і маскоўская крэатура на Беларусі даводзяць нам, што кожны славянскі народ мае абавязкі перад славянскім светам, а цэнтр славянства — Масква.

Савецкі Саюз у Чэхаславакіі меў апору ў людзях, чые асабістыя інтарэсы не супадалі з агульнанацыянальнымі. Тое можна сказаць і пра сацыяльную базу расейшчыны на Беларусі — былая партнаменклатура, афіцэры-адстаўнікі адпаведнага кшталту «праваслаўная» моладзь.

«Часовая прысутнасць» савецкіх войск у Чэхаславакіі цягнулася больш за 20 год. На Беларусі расейскае войска таксама не спяшаецца пакаваць клункі. А нейкі ветэран-пенсіянер тым часам у газеце «Мы и время» /N 29/ піша:

«Лучше уж быть в союзе с плохой Ельцинской Россией, чем терпеть рвущихся к власти национал-радикалов из БНФ.

Без крепкой силы, военной, нам невозможно дать им крепко по рукам.

Сейчас политику и действия нужно строить так,чтобы и через 100 лет БНФ и его потомки не смогли бы нас повести по литовскому пути, оторвать от братской России».

Калі б палітыку вызначалі гэтыя людзі, 100-гадовая прысутнасць чужой арміі на нашай зямлі была б нам гарантавана. А дзе чужое войска, там і чужая ўлада, там і да Курапатаў недалёка.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**



# УЗНАГАРОДА ЖЫВАПІСЦУ

Вядомы жывапісец, лаўрэат прэмій, носьбіт ганаровых званняў Леанід Шчамялёў узнагароджаны медалём імя Ф.Скарыны. Так адзначана ягонае наданне ў культуру нашай краіны. Узнагароду ўручыў міністр культуры Я.Вайтовіч, прысутнічалі пры гэтым намеснік Старшыні Саўміна М.Дзямчук і міністр інфармацыі А.Бутэвіч.

Фестывалі

# «СВЯТА ДЗЯЦІНСТВА» Ў ВІЦЕБСКУ

Цёплы ўспамін пакінула ў віцяблян «Свята дзяцінства», падчас якога адбыўся песенны фэст з удзелам узорных харавых калектываў з Мінска, Віцебска, Наваполацка, Баранавічаў, Даўгаўпілса. Канцэрты праходзілі ў тэатры імя Я.Коласа, у круглай зале Палаца прафсаюзаў, у летнім амфітэатры.

Слухачоў прываблівала разнастайнасць манеры выканаўцаў, цікавы рэпертуар. Былі і абавязковыя для выканання творы: «Магутны Божа» М.Равенскага на словы Н.Арсенневай, «Ave Maria» Д.Качыні, «Зорка Венера» Л.Рак-Міхайлоўскага на вершы М.Багдановіча, песня «О, Беларусь, мая шыпшына» М.Куліковіча-Шчаглова на словы У.Дубоўкі. Гучалі таксама хоры фальклорнага кірунку, музыка сучасных аўтараў... Словам, адбылося сапраўднае свята песні, і свята для саміх дзяцей.



*Выступае хор Мінскага музычнага ліцэя.*

Асабліва ўразіў канцэрт у зале тэатра імя Я.Коласа, калі ў адной праграме ўдзельнічалі ўсе 10 харавых калектываў, якія спявалі надзвычай захоплена і натхнёна, бо ў зале былі пераважна таксама ўдзельнікі дзіцячых хораў — а больш удзячнай публікі не знайсці. Зала падтрымлівала выканаўцаў і воплескамі, і спевамі. Дзеці ўбачылі сэнс іхняй часам не вельмі цікавай і не надта лёгкай працы на рэпетыцыях, у класе.



*На сцэне — ансамбль «Зорка» Віцебскага Палаца прафсаюзаў.*

«Свята дзяцінства» ў Віцебску дало магчымасць сабрацца цікавым харавым калектывам з Беларусі ды Латвіі, дало магчымасць сустрэцца іхнім кіраўнікам, абмеркаваць прафесійныя праблемы, абмяняцца думкамі пра стан харавых спраў, зазірнуць у перспектыву. Удзельнікі гэтага музычнага фэсту былі вельмі й вельмі ўдзячныя ягоным арганізатарам — Упраўленню культуры Віцебскага аблвыканкама, аддзелу культуры і аддзелу народнай адукацыі Віцебскага гарвыканкама, якія аказаліся й асноўнымі «фінансістамі». А ініцыятыва свята зыходзіла ад кіраўніка ўзорнага дзіцячага хору школы мастацтваў Віталя Раўзы, падтрыманага гарадскім аддзелам культуры. Добрых слоў заслужылі і спонсары: аддзяленне СП «Дыялог», Віцебскае ўпраўленне ашчадбанка Беларусі, малое прадпрыемства «Мантажнік-І», Віцебскі камбінат шоўкавых тканін.

Безумоўна, мэта свята была дасягнута: яно аб'яднала харавыя калектывы і абудзіла надзею ў людзях. Бо калі спяваюць дзеці, гэта значыць, што яшчэ не канец свету, ёсць перспектыва для далейшага развіцця культуры, ёсць сілы ў грамадстве, гатовыя падтрымаць такія святы — значыць, ёсць клопат пра будучыню падрастаючага пакалення.

**У.ПРАВІЛАЎ**

*Фота М.ШМЕРЛІНГА*

# ЗДАНІ АПОШНЯЙ ІМПЕРЫІ

***Вяртанне! Якое радаснае і светлае слова, колькі надзей і мар можа быць звязана з ім! Вяртанне блуднага сына, вяртанне ва ўлонне царквы, вяртанне на кругі свае і г.д.***

***Пакінем, аднак, філосафам і багасловам агульнае тлумачэнне гэтай з'явы, а звернемся толькі да прыватнай, набіўшай аскоміну тэмы — вяртанне на палітычную арэну камуністаў Беларусі. Феномен гэтага вяртання не вельмі складаны, прычыны яго ляжаць на паверхні: застарэлая «камуністычная хвароба», што ўелася ва ўсе поры масавай свядомасці, настальгія па «добрых часах» застою і дрымоты на фоне цяжкасцей сённяшняга жыцця, вялікая колькасць камуністычных і пракамуністычных дзеячаў на ўсіх узроўнях улады.***

Многія могуць запярэчыць — у прававой дзяржаве маюць права на існаванне ўсе палітычныя партыі і рухі, якія дзенічаюць у рамках канстытуцыі. Але трэба разабрацца ў самой сутнасці камунізму і суадносінах яго з канстытуцыйнымі нормамі.

Камуністычныя ідэі, акцэнтаваныя Марксам і Энгельсам, сталі палітычна важкімі напрыканцы XIX ст., калі пачалі ў пэўнай меры ўздзейнічаць на грамадскае жыццё Еўропы. Аднак, толькі на пачатку XX ст. узнікла першая сапраўды камуністычная арганізацыя /камуністычная ў сучасным разуменні/, якая адышла ўлева ад традыцыйнай сацыял-дэмакратыі, праклаўшы самастойны палітычны шлях. Першым камуністам-практыкам без ваганняў можна назваць Леніна, які меў шматлікіх ідэйных нашчадкаў і прыхільнікаў. Бальшавікі-ленінцы былі пачаткоўцамі ў гэтай няўдзячнай справе, але з цягам часу з'явіліся і іншыя камуністычныя плыні — трацкістаў, сталіністаў, мааістаў і г.д. Якія ж рысы вылучаюць іх з шэрагу іншых партый і рухаў? Сакральнымі, ці абавязковымі, можна назваць наступныя. Першае: прызнанне класавай барацьбы як галоўнага рухавіка гісторыі, а пралетарыяту як «магільшчыка» «апошняга» эксплуататарскага класа. Другое: шляхам дасягнення пастаўленай мэты з'яўляецца гвалтоўны захоп палітычнай улады, увядзенне дыктатуры пралетарыяту і разбурэнне існуючай эканамічнай сістэмы з наступнай заменай яе на больш «прагрэсіўную». Трэцяе: канчатковай мэтай маецца на ўвазе стварэнне ідэальнага, а дакладней міфічнага грамадства агульнай дабрадзейнасці, нешта кшталту Эдэмскага саду ці царства вечнай справядлівасці на зямлі. Апошняя ідэя мае старадаўнюю гісторыю, і камуністы былі не першымі, хто імкнуўся да бяскласавага неэксплуататарскага грамадства. Але менавіта ў гэтым месцы камуністычнае вучэнне было найбольш слабым і непераканаўчым, а зрэшты — проста утапічным. Парадаксальна, аднак, відавочныя сёння заганы дзесяцігоддзямі кампенсаваліся псіхалагічным гіпнатызмам міфа аб «светлай будучыні» на свядомасць «працоўных мас». Усё ж большую практычную цікавасць маюць першыя пастулаты камуністаў, якія і зараз для сяго-таго не страцілі сваёй прывабнасці.

Гістарычны вопыт XX ст. сведчыць аб памылковасці гэтых аксіём. Класавая барацьба не адзіны і не заўжды галоўны рухавік грамадскага развіцця. Нацыянальныя, рэлігійныя, інфармацыйныя ды іншыя дачыненні ў пэўных месцах і часах адыгрываюць у гісторыі не меншую ролю, чым існаванне класаў. Да таго ж вопыт заходніх краін паказаў, што класавыя бойкі — не адзіны спосаб суіснавання, ёсць больш плённыя шляхі развіцця грамадства: пошук сацыяльнай згоды, кампрамісаў і супрацоўніцтва. Эфектыўнасць такога развіцця відавочна сёння і ў камуністычным і ў капіталістычным лагерах. Што тычыцца самога капіталізму, то, як эканамічна-палітычная сістэма, ён аказаўся вельмі жыццяздольны, і не толькі ў канцы XIX, але і к пачатку XXI ст. не вычарпаў сваіх магчымасцей. Больш таго, ён усё больш выяўляе здольнасці да мадэрнізацыі і самаразвіцця, выкарыстоўваючы ідэі сацыялістычнага паходжання і відазмяняючыся ў розных нацыянальных умовах. І яшчэ адна даволі цікавая заканамернасць: змены эканамічных фармацый адбываліся не пад напорам аднаго з прыгнечаных класаў /не рабы знішчылі рабаўладанне і не сяляне — феадалізм/, а па прычынах больш глыбокіх, закладзеных у нетрах саміх грамадстваў. Такія змены адбываліся паступова, эвалюцыйна, не за адзін тыдзень ці год і нават не за адну рэвалюцыю. Паскараць /а не штучна «ствараць»/ гэты працэс маглі палітычныя сілы «вышэйшага класа» наступнай фармацыі, але ў любым выпадку такое «паскарэнне» ў эканоміцы расцягвалася на дзесяцігоддзі, а то і больш працяглы тэрмін. Прэтэнзіі ж пралетарыяту на ролю «вышэйшага класа» новай фармацыі аказаліся не больш чым намаганнямі малапісьменнага чалавека зрабіць малапісьменным увесь свет. Такім чынам, можна заключыць, што навуковае абгрунтаванне непазбежнага прыходу камунізму мела значныя цяжкасці ды стратэгічныя пралікі, і нават з пункту гледжання «гістарычнай праўды» ідэі марксізму-ленінізму пацярпелі сапраўдны крах. Хаця правільней было б карыстацца не прапагандысцкім выразам бальшавікоў — «праўда», а больш нейтральным і дакладным тэрмінам — гістарычная ісціна. Дык вось з такога пункту гледжання пацярпела крах у першую чаргу ленінская палітычная сістэма, заснаваная на антыдэмакратычнасці і гвалце, што дасягнулі ступеняў масавага тэрору і генацыду. Што тычыцца Марксавай тэорыі прыбавачнай вартасці і класавага грамадства, то яна назаўжды застанецца ў гісторыі як вялікае адкрыццё грамадазнаўчай навукі XIX ст. і наўрад ці хто ўсур'ёз можа гэта аспрэчваць.

*(Працяг на стар.4)*

# У СЯДЗІБЕ БНФ

***25 ліпеня, напярэдадні Дня Незалежнасці, у сядзібе /штаб-кватэры/ БНФ адбылося чарговае пасяджэнне Сойма. Эканамічная сітуацыя і расклад палітычных сіл на Беларусі, дачыненні нашай краіны з бліжэйшымі суседзямі і далёкім замежжам — вось кола пытанняў, якія абмяркоўваліся на Сойме.***

Старшыня БНФ З.Пазняк у сваёй прамове адзначыў, што галоўную небяспеку для суверэнітэту Беларусі ўяўляе прысутнасць на яе тэрыторыі расейскіх войскаў. Бо дастаткова глянуць на карту, каб пераканацца, што ўзброеныя канфлікты і поўнамаштабныя грамадзянскія войны адбываюцца там, дзе на тэрыторыі краін, якія ўтварыліся пасля распаду СССР, захавалася расейская ваенная прысутнасць. Малдова, Грузія, Азербайджан... Не хацелася б, каб у гэты спіс увайшла і Беларусь. Небяспеку павялічвае наяўнасць у нашай краіне расейскай «пятай калоны», якая нават не хавае сваёй нянавісці да незалежнай Беларусі, і дзейнасць на Беларусі расейскай разведкі. Кіраўніцтву краіны нават у галаву не прыходзіць наладзіць хоць нейкі кантроль у галіне стратэгічнай інфармацыі, пакласці канец расейскаму «беспределу».

Так званы «Славянскі эканамічны саюз», утвораны прэм'ерамі Расеі, Украіны і Беларусі, разглядаецца ўрадам Беларусі як крок да новага СССР. На думку З.Пазняка, урадам Беларусі на 1995 год запланаваны эканамічны крызіс. Менавіта на гэты тэрмін і менавіта запланаваны. Бо ў 1995 яны пойдуць у адстаўку і, седзячы на нарабаваных капіталах, будуць даводзіць грамадству, «як добра было пры Кебічу». А выводзіць краіну з крызісу давядзецца ўраду дэмакратаў.

У.Заблоцкі звярнуў увагу на тое, што ніякай эканамічнай рэформы ў Беларусі не праводзіцца. Урад займаецца размеркаваннем і пераразмеркаваннем сродкаў паміж «сваімі». І, як пры «развитом социализме», добры работнік зноў вымушаны дзяліцца з лайдаком. Ураду падкантрольны дырэктарскі корпус, апошнія незалежныя кіраўнікі прадпрыемстваў падвяргаюцца шантажу і ўціску. Урад прымушае людзей красці замест таго, каб мець прыбытак на законнай аснове.

Пра асобныя аспекты вайсковай праблемы на Беларусі гаварыў Ю.Хадыка. Камуністы ніколі не адмовяцца ад прынцыпу класавай барацьбы і класавых прывілей, адзначыў ён. Сёння ж бальшавізм шчыльна змыкаецца з расейскім шавінізмам, эксплуатуе ідэі панславізму, уздымае вэрхал вакол «карэнных інтарэсаў Расейскай дзяржавы». У міжнароднай палітыцы /гаворка ідзе пра стасункі Расеі з блізкім замежжам/ бальшавізм праяўляецца ў супрацьпраўнай абароне правоў часткі насельніцтва /так званых «русскоязычных»/ у сумежных краінах. Уявіце сабе сітуацыю, што Расея стала б патрабаваць ад ЗША ўвядзення руска-ангельскага дзяржаўнага двухмоўя альбо рускай нацыянальнай аўтаноміі на Брайтан-Біч? Альбо «казакі», што зараз шчыруюць у Прыднястроўі, з'явіліся б у Парыжы, каб «абараняць» і правы тамтэйшых «русскоязычных»? Ці каб Чарнаморскі флот з'явіўся ля берагоў Ізраіля, патрабуючы іўрыт-рускага двухмоўя? Абсурд! Але гэты абсурд — рэальнасць на прасторы былога СССР.

«У расейскага арла дзве галавы. Пакуль яны сварацца паміж сабою, яны не могуць здзяўбсці суседзяў супольна. Мы павінны паспець умацаваць сваю дзяржаву, пакуль гэтыя галовы не прыйшлі да згоды», — закончыў сваё выступленне Ю.Хадыка.

Прамова В.Вячоркі мела назоў «Беларусь — Балтыя — краіны СНД». Толькі бліжэйшыя суседзі Расеі ведаюць, што такое «расейскі маятнік», сказаў ён. Сёння Расея адкацілася на Усход, сёння яна перажывае «смутны час». Але калі дзяржава зноў трывала стане на ногі, яна рушыць на Захад. Праз Беларусь... У гэтым няма сумніву, дастаткова паслухаць геапалітычныя развагі маршала Шапашнікава.

Здаецца, і на Захадзе гэта пачынаюць разумець, пра што сведчыць рэакцыя ААН на расейскую заяву наконт статуса горада Севастопаля.

Магчымы шлях Беларусі ў Еўропу бачыцца прамоўцу такім: Балтыйска-Чарнаморская Садружнасць, скарыстанне ў сваіх інтарэсах канкурэнцыі Захаду і Расеі; потым — праз удзел у сістэме Еўропа-2 /посткамуністычныя краіны/ выйсце на агульнаеўрапейскую інтэграцыю.

Былі яшчэ выступы па гэтых тэмах, абмяркоўваліся арганізацыйныя пытанні і стратэгія фронту ва ўмовах эканамічнага крызісу, пагрозы страты заваёў нацыянальна-дэмакратычнай рэвалюцыі, спроб усталявання камуністычнай дыктатуры.

Соймам прыняты адпаведныя рэзалюцыі.

27 ліпеня, у Дзень Незалежнасці, кіраўніцтва БНФ і сябры парламенцкай апазіцыі мелі сустрэчу з актывістамі фронту і дэмакратычнай прэсай.

**П.В.**

З пошты "ЛіМа"

# «КАЛІ САВЕЦКАЯ ЎЛАДА МАЕ ЎЛАДУ...»

*Ліст, што даслаў нам з Гомеля сп.Жалезнякоў, не адкрывае ніякай «Амерыкі» адносна становішча нашай мовы ў краіне, дакладней, у сферах дачыненняў грамадзяніна і дзяржавы; больш таго, — лубачную сітуацыю, што апісана аўтарам, можна смела прымяніць для характарыстыкі ўсяе краіны ў глабальным маштабе — у галінах і гандлю, і побытавых паслуг, транспарту і г.д. Але ліст сп.Жалезнякова, прынамсі, чытаецца ўжо не як чарговы «ўсхліп» абражанай асобы, а трохі інакш... як, хутчэй, гратэскная рэакцыя «свядомага» грамадзяніна на «дзяржаўную» сітуацыю: калі грамадзяне і дзяржслужачыя між сабой не могуць «талерантнічаць», дык сітуацыя дасылаецца на разгляд уладзе... Мае месца, такім чынам, эксперымент /з боку грамадзяніна/. Самае цікавае тут, на наш погляд, чым скончыцца гэты эксперымент: працягам гратэску ці яго заканчэннем. Вынікі будуць сведчыць, адпаведна, пра гратэскны альбо ўжо адэкватны характар самое ўлады... «ЛіМ» друкуе копію ліста. Арыгінал сп.Жалезнякоў накіраваў старшыні Гомельскага гарсавета сп.С.Гальдадзе.*

23 ліпеня 1993 г. я звярнуўся на беларускай мове ў штучны аддзел крамы N 1, што па вул. Юбілейная г.Гомеля, каб набыць пару карабкоў запалак. На маё запытанне гандлярка спачатку перапытала мяне, а потым, вяртаючы грошы, сказала: «Я ни панимаю Вас! Гаварыце на нармальнам языке!» Нават калі з чаргі ёй падказалі, што мне патрэбна, яна шпурнула мне грошы са словамі: «Я ни хачу панимаць этава языка». Пэўна, я б так і не атрымаў сваіх запалак, каб не падтрымка людзей у чарзе. /Дзякуй ім/. Калі я спытаў яе прозвішча, атрымаў адказ: «Я Вас ни панимаю! Я — руская. И ни хачу порцить свой язык. Идитя куда хатитя и разгаварывайця на сваём языке».

Таму звяртаюся да кіраўніцтва горада: куды ж мне ісці, ці ехаць, каб я мог размаўляць на сваёй роднай мове? Каб нейкія гандляры ДЗЯРЖАЎНАГА гандлю, куды ўкладзены і мае грошы, на МАЁЙ зямлі, на зямлі МАІХ бацькоў не абражалі маёй мовы. Дзе ж гэтая зямля? Дзе мой дом, у якім розныя асімілянты, якія не валодаюць ні беларускай, ні рускай мовамі, ці мігранты будуць паважаць мову гаспадароў?

Я заўсёды быў за спакой і памяркоўнасць, заўсёды выступаў супраць усялякіх гвалтоўных высяленняў і высыланняў, супраць збройнага процістаяння. Я крыху разумею тых, хто воляю лёсу не авалодаў, ці забыў беларускую мову і хто, прынамсі, услых, не выказваецца супраць яе. Але пасля такога агрэсіўнага непрыняцця ДЗЯРЖАЎНАЙ мовы...

Маюць яны рацыю, ці не — гэта пытанне спрэчнае. А вось тое, што такія людзі не маюць ні маральнага, ні, здаецца, юрыдычнага права працаваць у дзяржаўнай установе, ці прадпрыемстве Рэспублікі Беларусь, тым больш у гандлі — рэч бясспрэчная.

Прашу разгледзець маю заяву і, калі савецкая ўлада мае ўладу, прыняць адпаведныя меры згодна з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Паэтычным радком

# ЦІ МАЕМ ТВАР СВОЙ, БЕЛАРУСЫ?

**Ці маем твар свой,
беларусы,
Ці маем гонар свой які?
Чаму трасуцца нашы вусы,
Як чуцен вокрык з-за ракі?**

**Ці корміць нас хто сваім
хлебам,
Ці здзейсніў з нас хто цяжкі
грэх,
Ці пакараны, можа, небам,
Каб выстаўляць сябе
на смех?**

**Ці дух нам вольнасці нямілы,
Ці прагнем мы зямлі чужой,
Ці мы згубілі свае сілы,
Прыбіты вечнаю бядой?**

**Бо намі вечна панукаюць,
Не цэняць нашу дабрату,
Нас ціха ў вугал заганяюць,
Нахабна мову адымаюць,
Праз нашу боязь, прастату.**

**Нас прывучылі да чужога,
Яно пакрыла нас іржой,
У нас няма свайго, святога,
Нам дараванага ад Бога,
І веры ў нас няма сваёй.**

**Дык што, хай правяць
янычары
І пагражаюць кулаком?
І будзем несці іх цяжары,
К зямлі сагнуўшыся
круком?**

**Ці маем твар свой,
беларусы,
Ці маем гонар свой які,
Чаму трасуцца нашы вусы?
Каго баімся, мужыкі?**

**Іван ЯКУБОВІЧ**
*г.Гародня*

# ЦЯПЕР Я ЖЫВУ НА ПОЛАЦКАЙ

Сённяшні стан нашага грамадства можа не хваляваць толькі абыякавых людзей. На маю думку, сёння ідзе моцная патаемная барацьба за спыненне працэсаў Адраджэння, якія хоць і марудна, але ідуць на Беларусі. І не апошнюю ролю ў гэтай барацьбе іграе наш Саўмін і падначаленыя яму сродкі масавай інфармацыі. Цудоўна разумеючы, што адным з галоўных накірункаў Адраджэння з'яўляецца сапраўднае, а не на паперы, наданне беларускай мове ролі дзяржаўнай, супрацоўнікі Саўміна робяць усё, каб гэтага не дапусціць. Фактаў далёка шукаць не трэба. Дастаткова было паглядзець 21 чэрвеня ТВ перадачу «Пазіцыя ўрада». Ні адзін з прысутных на перадачы чыноўнікаў не карыстаўся дзяржаўнай мовай. Таму, дальбог, не хочацца называць такі Саўмін беларускім словам «урад».

Многа хвалебнага сродкі масавай інфармацыі сказалі аб першым беларускім фестывалі песні і паэзіі «Маладзечна-93». Але ці быў ён беларускім? Давайце паразважаем. Старшыня журы Віктар Вуячыч выступае на адкрыцці беларускага фестывалю на расейскай мове. Ён што, толькі спяваць умее пабеларуску? А ці можа ацаніць беларускую песню Андрэй Разін. Няўжо ён такі вялікі знаўца яе? Тэлебачанне паказала нам «Каралеўскае паляванне» з Маладзечна. І што мы ўбачылі? Амаль усе беларускія артысты не карыстаюцца дзяржаўнай мовай, забыўся на яе і мэр Маладзечна Г.Карпенка. Вось вам і беларускі фестываль.

Тэлебачанне паказала два адборачныя туры конкурсу маладых палітыкаў «Залатая дзесятка». Я маю падставы сказаць «дзякуй» толькі Віктару Басаку. Малайчына! Ён адзіны з шасці канкурсантаў карыстаўся дзяржаўнай мовай, як і ўся яго група падтрымкі. Такім палітыкам я магу даверыць лёс дзяржавы Беларусь. Астатнім параіў бы перад тым, як змагацца за месца ў структурах улады, вывучыць дзяржаўную мову. Гэта патрэбна зрабіць і ўсяму журы. Зразумейце ў рэшце рэшт, што Беларуссю павінны кіраваць БЕЛАРУСЫ. І гэта не абмежаванне нейчых правоў, а элементарнае патрабаванне дзяржаўнага будаўніцтва.

З 1 верасня 1993 года павінны запрацаваць артыкулы 11, 27, 28, 29, 31, 32, 33 Закона аб мовах. А гэта выклікае ўжо сёння адкрыты пратэст. Напрыклад, сакратарка нашага кіраўніка адмовілася ісці на курсы па вывучэнні беларускай мовы. Адна з нашых супрацоўніц заявіла: «Я никогда не буду разговаривать по-белорусски, а со мной разговаривайте по-русски». І такіх прыкладаў мноства. Хутка гэтыя людзі будуць крычаць, што іх прыцясняюць, як да іх падобныя крычалі і крычаць у Прыбалтыцы. А за гэтымі ж крыкамі — простае гультайства і нізкі духоўны ўзровень.

Я звяртаюся да ўсіх свядомых людзей: не зважайце на такіх, смела ідзіце па шляху Адраджэння! Гісторыя дала унікальны шанц адрадзіцца беларусам як нацыі, заняць сваё пачэснае месца ў свеце. Выкарыстаем жа яго!

**Мікола ЛІННІК,**
**радыёінжынер**
*г.п.Радашковічы*

**P.S. З задавальненнем паведамляю вам, шаноўныя лімаўцы, свой новы адрас. Не, я нікуды не пераехаў. Проста, рашэннем сесіі Радашковіцкага пасялковага Савета вернуты гістарычныя назвы чатыром вуліцам, у тым ліку і маёй. Цяпер я жыву на Полацкай.**

**М.Л.**

# ЗДАНІ АПОШНЯЙ ІМПЕРЫІ

*(Пачатак на стар.3)*

Аспрэчваць можна толькі пэўныя вывады, зробленыя як самім Марксам, так і яго паслядоўнікамі, асабліва камуністамі ленінскага кшталту, якія механічна перанеслі Марксавы высновы ў XX ст., узмацніўшы і абсалютызаваўшы суб'ектыўна-прымусовы бок камуністычнай дактрыны. Магчыма, цяжка назваць Маркса і Энгельса «бацькамі чырвонага генацыду», але тэзіс аб класавай барацьбе і дыктатуры пралетарыяту быў тым зярняткам, з якога выспелі плады бальшавіцкага тэрору.

Агульнавядома, што камуністаў і камуністычныя рэжымы розных часоў і народаў аб'ядноўваюць такія рысы, як нецярпімасць да ідэйных ворагаў і да роднасных, але канкуруючых палітычных плыняў, схільнасць да гвалтоўных, нецывілізаваных метадаў барацьбы, яўная ці прыхаваная падтрымка экстрэмізму, боязь вольнага дэмакратычнага руху. Таму можна зазначыць, што людзям, якія называюць сябе камуністамі /г.зн. прызнаюць усе пастулаты і традыцыі марксізму-ленінізму/, цяжка будзе прыжыцца ў прававой дзяржаве, якую яны машуць на мэце разбурыць ці заваяваць праз дыктатуру пралетарыяту. Паколькі мірным канстытуцыйным шляхам, без знешняй экспансіі ці ўнутранага тэрору зрабіць гэта немагчыма, то законнасць існавання камуністычнай партыі выклікае вялікія сумненні. Калі нават тэарэтычна ўявіць сабе негвалтоўны, натуральны прыход камуністаў да ўлады, то ануляванне прыватнай уласнасці /на сродкі вытворчасці/, іх галоўны эканамічны пастулат, і наступныя гаспадарчыя эксперыменты немінуча прывядуць да вядомых вынікаў.

Такім чынам, існаванне кампартыі, нават у такіх талерантных умовах, як на Беларусі, не мае ні канстытуцыйнага абгрунтавання, ні гістарычнай мэтазгоднасці, ні палітычнай перспектывы. Тыя ж, хто выступае сёння пад абстрактнымі лозунгамі «сацыяльнай справядлівасці», «агульнай роўнасці», «інтэрнацыянальнага братэрства», «палітычнага адзінства» і г.д., наўрад ці могуць называцца сапраўднымі камуністамі, бо гэтае імя нясе канкрэтны гістарычны змест і мае ясна акрэсленыя палітычныя, эканамічныя ды ідэйныя рысы. Людзі ж, аб якіх ідзе гаворка, у лепшым выпадку могуць належаць да розных плыняў ліберальнага ці сацыялдэмакратычнага руху, а ў большасці сваёй — да разгубленых экс-камуністаў, што прыбіліся пакуль што да пэўнага партыйнага берагу. Час росквіту камуністычных партый мінуў і належыць нашай гісторыі. У кожнай эпохі былі свае палітычныя сімвалы, легенды і міфы, і сёння чакаць вяртання бальшавізму можна амаль з такім жа поспехам, як раялістаў, якабінцаў ці банапартыстаў. Магчыма, калісьці ў камуністаў з'явяцца ідэйныя нашчадкі, ды гэта будуць ужо іншыя часы, іншыя канцэпцыі, іншыя людзі і, што самае істотнае — іншыя краіны. Беларусь, на маю думку, аддала занадта вялікую даніну гэтаму малаху, каб зноў паддацца на ягоныя спакусы. Каб гэты прагноз пачаў здзейсніцца сёння, не трэба маўчаць, трэба настойліва даводзіць да людзей нашу сапраўдную гісторыю. Тым больш гэта тычыцца маладога пакалення. Я б не хацеў, каб мой сын рос пад воклічам «да здравствует великий...», «пусть вечно живет...», «к борьбе за дело...», ды іншымі савецкімі «зіг-хайлямі». Я б не хацеў, каб ён зведаў жахі класавай нянавісці, генетычнага страху ды іншых камуністычных комплексаў, на якія па сённяшні дзень пакутуе наша грамадства. Я б хацеў, каб мае ўнукі ведалі аб гэтым з падручнікаў па гісторыі, жылі вольна, мірна і прыгожа і не сціскалі кулакі пры слове капіталіст ці камуніст. Зрэшты, быць ці не быць камуністам — прыватная справа кожнага грамадзяніна Рэспублікі Беларусь. Аднак вопыт развітых краін сведчыць, што ў вольным дэмакратычным грамадстве колькасць людзей, што імкнуцца да «светлай будучыні» і маюць намер сілком заганяць у яе ўсіх нежадаючых, даволі невялікая. Сапраўды, у нармальным грамадстве, у здаровай нацыі не могуць перамагчы дзівакі ці маньякі, гатовыя дзеля сваіх навуковападобных хімераў ці проста звычайных паранояў скруціць галаву палове чалавецтва. Так што ёсць над чым падумаць нашым камуністам ці тым, хто яшчэ па інерцыі лічыць сябе ім. Мне здаецца, што зараз нам патрэбны больш за ўсё здаровы сэнс, рэалізм і незалежнасць уласных меркаванняў, пошук выгод і прыярытэтаў, якія б сталі грунтам самастойнага беларускага ўсталявання.

А што тычыцца вяртання камуністаў, то — няма бяды без дабра. Іх з'яўленне ў грамадскім спектры Беларусі значна ажывіць крыху прытухшае полымя палітычнай барацьбы. Зноў будзе больш справы ў Пазняка і лідэраў апазіцыі, якія, акрамя сваіх шматлікіх функцый, вымушаны яшчэ цягнуць нялёгкі крыж «беларускіх антыкамуністаў». І гэта добра, бо ў адкрытай барацьбе ідэй, партый, лідэраў ствараюцца сапраўдныя нацыянальна-дэмакратычныя каштоўнасці, выяўляюцца кірункі далейшага дзяржаўнага развіцця.

**Васіль АЎРАМЕНКА**
*г.Магілёў*

***Што ёсць ерась для чалавека, не скаванага рамкамі хрысціянскіх дагматаў і канфесій увогуле? /Заўважце, мы не кажам пра атэіста, — той не прызнае ні Бога звонку, ні Бога ў душы/. Відавочна, у паняцці свецкім, з агульначалавечага пункту погляду ерасі не існуе. Калі з Усявышнім можна размаўляць сам-насам, то чаму з ім нельга кантактавацца публічна ці нават спрачацца?***

***Іншая справа, што нашыя чалавечыя законы і правілы наўрад ці прымальныя для той Вышэйшай Сілы, чыё існаванне мы ў большасці сваёй прызнаём. Вельмі верагодна, што яна — над імі. Але гэта ўжо чыста гіпатэтычнае дапушчэнне. А таму вядомую запаведзь «Не судзіце, дык не судзімыя будзеце» з аднолькавым правам можна адрасаваць як аўтару эсэ, так і лімаўскім чытачам.***

З якой такой патрэбы Ты раптам усхапіўся да працы, каб зрабіць прамень, верас, пчалу, мяне?..

Я кленчу перад Табой і схіляю да масніц галаву перад Тваёй кемлівасцю. З нічога, з абсалютнага Нічога, з сусветнага гвалту абсмактанай пустэчы ўзбіцца на ідэю Нечага, на ідэю Формы — гэта... Калі я скажу, што гэта — геніяльна, мне першаму будзе няёмка за ўбоства чалавечае мовы.

Са зместам, пагодзімся, ужо было значна прасцей, а што да тэхналогіі, то, мяркуючы па Тэксце, за выняткам апошняга акта тварэння, праблем увогуле не было.

Валянцін АКУДОВІЧ

# ДЫЯЛОГІ З БОГАМ



## ФРАГМЕНТЫ

Патыліца да патыліцы, ды так шчыльна, што куды ні абярнуся, Ён заўсёды за спіной.

Шалеючы, мармычу скрозь зубы:

— Цябе няма.

І адразу адчуваю хрыбтом цяжар нябёсаў, і сэрцу робіцца млосна.

Хай сабе.

Цябе няма. На каменных скрыжалях Майсей высек не дамову з Табой, а першую літаратурную містыфікацыю. Ён затлуміў нам галаву універсальнай метафарай, і ніхто не даўмеўся запытацца Майсея: а дзе гэта Бог вывучыў чытанку?

Цябе самога пытацца дарэмна. Ты — маўчыш. Твой схарон у бязмоўі. Ты — толькі падстава для дыялога...

Чалавеку няма з кім гаварыць, ён страшэнна адзінокі. Ён спрабуе пазбавіцца адзіноты, прамаўляючы словы да жанчыны, дзяцей, людства, але гэтыя словы стамляюць рэхам.

І тады ён змаўкае і застаецца сам-насам. Цяпер яму няма з кім нават маўчаць, акрамя Цябе. Затое Тваё маўклівасці яму хопіць назаўсёды.

Ты — выбаўленне адзіноты.

Але Ты і самая вусцішная адзінота, якую толькі можна ўявіць.

І таму я пытаюся: можа, Ты выдумаў мяне адно каб самому ўнікнуць нуды? Можа, сапраўды Ты мяне вымавіў, каб было каму гаварыць з Табой?

Ты — жорсткі і панылы Шыхрыяр, які нудзіцца праз тысячагоддзі і не мае сну ні днём, ні ўначы...

— Ты і на гэта маўчыш?..

Я зважаю, што калі Ты — Слова, то ў кожным маім пытанні Твой адказ.

Я зважаю, што Ты — толькі Слова і таму нязлосна пакепліваю з хітрыкаў Іаана /«На пачатку было Слова, і Слова было ў Бога, і Богам было Слова» /. Калі Слова было наперадзе Бога, то ўжо аніяк Яно ў Яго не магло быць, адно — наадварот.

Мяне не вабяць антынамічныя формулы накшталт «Бог знаходзіцца ва ўсім і па-за ўсім».* Іаана таксама не вабілі, і ў наступным сказе ён паспрабаваў выкруціцца з алагізму /«Яно было ў Бога спрадвеку» /. Апошнім выкрунтасам Іаан канчаткова заблытаў і сябе, і астатніх. А так добра пачынаў: «На пачатку было Слова... і Богам было Слова».

Слова, што тут казаць — Бог. Цуд маўлення — найвялікшы з магчымых на гэтай скрані быцця. У параўнанні з ім нішто нават само стварэнне свету. Не вымаўлены і праз маўленне не ўсвядомлены суплёт існага — нешта настолькі жахлівае, што не мае /і не можа мець/ роўнажахлівага слова... Узнікаюць і гінуць галактыкі, запальваюцца і згасаюць сонцы, плывуць над снягамі аблокі, туляцца ў пушчах звяры, а ў карчах рыбы... І ўсяго гэтага дзіва ніхто не заўважае, не трымае ў памяці, не беражэ да наступнага дня. І хаця свішча вецер, трушчацца камяні, рыкае звер, але вусцішная цішыня няўцямнасці пануе ўсюдна.

Усё ёсць і нічога няма. Жудаснае відовішча.

Як быццам я яшчэ не нарадзіўся, а ўжо памёр. І ўсе так, усё так — дазвання.

Што існае без Слова? Сказаць — нішто, значыць нічога не сказаць.

Натуральна, Слова — Бог. Яно перастварыла вусцішную фантасмагорыю ў ветлую рэальнасць, і калі што абагаўляць, то нішто іншае, як Слова. Назваўшы існае — існым, яно выявіла яго наяўнасць для некага другога.

Пакуль сусвет быў адно сам для сябе, яго не было. Усё, што ёсць, ёсць толькі таму, што яно ёсць для некага. Адам, надаўшы істотам і рэчам імёны, вызваліў іх з вязніцы саміх сябе. І ўсё, што было — сталася Словам, а што не сталася Словам — таго не знайсці.

Кожны раз, прамаўляючы нешта, мы прамаўляем Тваё імя. Лаянка і мальба, споведзь і хлусня, патаемная думка і енк — усё Ты.

Забі — Ты. Злітуйся — Ты. Мы — Ты. Я — Ты.

Ты — Слова, персаніфікаванае ў слове Бог.

Ты — абагаўленне магчымасці гаварыць, ведаць, разумець — жыць.

Паўторанае за тысячагоддзі безліч разоў Тваё імя зацвярдзела ад дотыкаў вуснаў, а рэха матэрыялізавала прастору Твайго бытавання.

Вызначаючы лёсы людзей, народаў і ўсяго людства, слова Бог само мацавалася чалавечай моцай, збіралася чалавечымі высілкамі ў магутную дзейсную волю,

а пасля ўкрыжавання Ісуса яно яшчэ набыло важкасць маральнага абсалюту.

Ты — толькі імя Слова.

Але з чаго тады цяжар нябёсаў і млосна на сэрцы?

Ты — слова Бог. Гэта напэўна. Аднак...

Аднак, што было да Слова? Ці ведае хто адказ на гэтае пытанне, ці ведаеш адказ на гэтае пытанне Ты?

Магчыма, я дарэмна пакепліваў з Іаана? Магчыма, Ты сапраўды быў «спрадвеку»? Але хіба Ты быў Богам, пакуль не стварыў прамень, верас, пчалу, мяне? Хіба Ты быў Богам, пакуль прывіднай зданню блукаў у суцэльнай цемрадзі бязмежжа ці недзе ў кутку Нічога, згарнуўшыся ў Нішто, няўцямна скуголіў, як засунутае ў мех шчанё?

І калі мы ўсе знікнем, што застанецца ад Цябе? Кволае трымценне спарахнелага шматка Нішто ў ацвілым кутку Нічога?..

— Маўчыш? Маўчы!

Урэшце, адзінае, што я хацеў бы пачуць ад Цябе — гэта:

— Чаму?

І, можа:

— Навошта?

Але навошта Табе ўсё гэта было патрэбна?

— Скажы!

Можа, табе абрыдла быць Нікім і Ты вырашыў, што лепей памерці аднойчы і назаўсёды, чым доўжыць яшчэ невядома колькі дурную бясконцасць панылага існавання?..

І Ты памёр у чалавеку, як памірае скінутае з сяйва ў глебу зерне.

Адам убачыў Цябе ўжо старым, задаволеным сабой, але, па боскай меры, нямоглым. І гэты вобраз спрацаванага ціхамірнага дзеда на прызбе — адзіны ўспамін пра Цябе, які досыць выразна перадаваўся потым праз пакаленні.

Пэўна, пачынаў Ты работу маладым і дужым, аднак, мабыць, не разлічыў моцы свайго духу і Адама ўжо давялося ляпіць рукамі з кавалка гліны, адно пахукаўшы трохі на пальцы. А Еве і хукання не засталося. Як парастак прышчапляюць да галінкі, так прышчапіў Ты рабрыну Адама да дрэва жыцця.

Дарэчы, чаму гэта мы Цябе ўхваляем, чаму гэта Табе дзячым за жыццё? Нідзе няма нават згадкі на тое, што, ствараючы Адама і Еву, Ты меў намер растыражаваць іх да бясконцасці. Каб мы ўваходзілі ў Тваю задуму, то як зор на небе Ты нарабіў бы людзей на зямлі. Але Ты палічыў, што даволі і гэтых двух. І вымыў рукі...

А калі б Ева не аслухалася Цябе?..

І па сёння сярод хмызоў Эдэма бадзяліся б толькі два голыя чалавекі, лыпалі вачыма, пазяхалі раз-пораз і, казычучы адзін другога пад пахамі, па-дурному рагаталі, гэтым рогатам акрэсліваючы ўвесь змест быцця.

Не Табе, а ім, саступіўшым у грэх, трэба дзячыць за тое, што мы ёсць, не Табе, а ім я абавязаны магчымасцю быць, баляваць з сябрамі, цягацца па высокіх гарах у салодкім прадчуванні вяртання да радзімы. І не Табе, а ім я буду некалі дзякаваць за магчымасць пазбавіцца назаўсёды той бясконцай мітрэнгі, якую мы называем жыццём.

Не Ты, Грэх — наш бацька.

І усе мы ягоныя дзеці.

Гэта так.

Застаецца пачуць адказ на пытанне:

— Чаму Ты дазволіў граху быць?

Адно не кажы, што Ева с а м а зрабіла тое, што зрабіла. Смешна слухаць: без Тваё волі і па-за Тваім веданнем здарылася самая вялікая падзея ў гісторыі людства...

Яно з'явілася.

Але якраз на гэтае пытанне, нават аказаўшыся, Ты, пэўна, ніколі не адкажаш. Бо наш грэх — Твой сорам. А можа, і нешта горшае, пра што далей...

— А Ты пярэч.

У нейкі момант Ты зразумеў, што Твая праца, лічы, была марнай. Што, зрэшты, нічога не змянілася ў параўнанні з тым, калі не было нічога. Мігцяць зоры, гайдаецца Зямля, сноўдаюць па ёй розныя істоты, але нідзе нічога не адбываецца. Быццё быццам ёсць і яго няма. Яно здарылася аднойчы, а цяпер толькі прысутнічае ў прасторы, як прысутнічае ў гасцёўні карціна на ўспамін пра пэўны акт творчасці.

Хаця параўнанне з карцінай, бадай, не зусім дакладнае. Лепей згадаем тэатр, дзе Ты рэжысёр і глядач у адной асобе.

Напачатку Цябе ўсё бавіла: і велічныя дэкарацыі, і жвавыя статысты, і вабная гераіня побач з цнатлівым героем у багатым інтэр'еры з размаітай квецені /«І гэта хараша», — раз-пораз паўтараў Ты./

Але колькі можна глядзець буколіку, у якой ніколі нічога не адбываецца?

Некалі Табе ўсё гэта абрыдла. Зусім верагодна, што калі б у Цябе яшчэ заставалася моц жыццядайнага духу, Ты пабурыў бы гэты свет і зладзіў штокольвек іншае, каб наноў спазнаць асалоду творчага здзяйснення. Аднак ад той першапачатковай моцы, пэўна, ўжо амаль нічога не заставалася. І Ты аднойчы падумаў, што зусім неабавязкова ўсё перарабляць ад пачатку, даволі будзе, калі з гэтымі лянотнымі, ні да чаго не здатнымі стварэннямі нешта здарыцца.

З імі ўвесь час нешта павінна здарацца! Тады статычнасць быцця зрушыцца са свайго пастамента, і яно само закруціцца ў шалёнай віхуры перамен.

Цяпер Табе заставалася вынайсці тое, што потым будзе вечна рухаць жорны дзеі.

Твая прыдумка з гледзішча чалавечае маралі была жахлівай! Аднак нават жагнаючыся Тваёй жорсткасці, давядзецца пагадзіцца, што нічога роўнавялікага потым ні Ты, ні хто іншы не змог вынайсці.

Новая канцэпцыя жыцця прадугледжвала замену пануючай у Эдэме «тэорыі бесканфліктнасці» на абвальную трагедыю.

Гэта сёння мы, выгадаваныя бядой, успрымаем трагедыю, як апалае лісце ўвосень — з абыякавым сумам...

А я ўяўляю тагачасную сітуацыю, дзе ўсё кагадзе было створана і ніхто не ведаў, што значыць загінуць; не схавацца ў кустах на хвіліну, а знікнуць назаўсёды. Больш за тое — ніхто нават не здагадваўся, што гэта ў прынцыпе магчыма...

З жыцця прыдумаць смерць, як з нічога — форму...

Гэтыя дзве Тваё ідэі і прадвызначылі ўсе наступствы. Мы займелі тое, што маем і, відаць, ужо будзем мець заўсёды, пакуль будзем нешта мець.

Пэўна, калі ідэя смерці прыйшла Табе да галавы, Ты закрычаў нешта падобнае да: «ай да Пушкин, ай да сукин сын...»

Узяў рыдлёўку і пасадзіў на самым бачным месцы Эдэма дрэва ведання і ліха.

А каб прыспешыць падзеі, падбухторыў гада.

Ва ўсім гэтым, абы-як, наспех зnative злепленым сцэнарыі выгнання Адама і Евы з жыцця ў смерць мяне засмучае не слабая драматургія, а кволая годнасць —

Твая.

Ты ўсведамляў, ш т о робіш, і таму не адважыўся без хаця б уяўнай прычыны адчыніць браму і сказаць як ёсць:

— Ідзіце адсюль. Жывіце, пладзіцеся і памірайце.

У Цябе не хапіла мужнасці ўзваліць на сябе адказнасць за ўтворанае Табой і Ты вырашыў перакласці яе на плечы першалюдзей, абвінаваціўшы іх у непаслухмянасці.

Ты не толькі стварыў першую трагедыю, Ты першы выканаў ролю зламысніка пад маскай справядлівага суддзі.

Нездарма актораў яшчэ і па сёння называюць ліцадзеямі.

— Я не магу Цябе мераць сваёй чалавечай мерай? Але чаму?

Калі Ты важыш мяне на вагах дабрыні і зламыснасці, калі этычныя законы, законы чалавечае маральнасці, зразумелыя мне, як і кожнаму, — крытэрый, каб патрапіць у Тваё Гаспадарства, то, натуральна, і я ад Цябе магу і павінен патрабаваць маральнае дасканаласці і падпарадкавання этычнаму закону ў стасунках са мной і кім заўгодна іншым. Інакш, выбачай, атрымліваецца лухта, «двайная бухгалтэрыя». Мне — этычны імператыў, Табе — крывавая сваволя. Я мушу даравацць сваім ворагам «семіжды сем», а Ты

(Працяг на стар. 12)

* *Псеўда-Дыянісій Арэапагіт.*

Сярод кніг

# ЧУЙНАСЦЬ ДА СЛОВА — СВАЙГО І ЧУЖОГА

Як правіла, у рэцэнзента найбольш цяжкасцяў тады, калі трэба да ведама чытачоў даносіць агульнае ўяўленне пра аўтара, ягоныя схільнасці, магчымасці, здабыткі. Але гэтым разам у нас такой праблемы не ўзнікае. І «вузкія» спецыялісты, і самыя шырокія колы аматараў прыгожага пісьменства някепска ведаюць Вячаслава Рагойшу, які ўжо каля трыццаці гадоў бярэ чынны ўдзел у літаратурным і навукова-асветным працэсах рэспублікі, займаючыся тэорыяй і гісторыяй літаратуры, праблемамі сувязяў, маючы прыкметны плён у архіўназбіральніцкай і бібліяграфічнай справах, а таксама ў краязнаўстве, мастацкім перакладзе.

«І адгукнецца слова ў слове...» — новая яго кніга, не зусім шараговая сярод больш як паўтара дзесятка выдадзеных раней. Калі быць дакладным, трэба адзначыць, што яна выяўляе ўсе інтарэсы і памкненні, пра якія згадвалася, аднак у іншай праекцыі. Вось гэта і ўспрымаецца нязвыкла, асабліва тымі, хто ведае Вячаслава Пятровіча як бестароннага, чыста акадэмічнага даследчыка. Яно, можа, і сапраўды Рагойшава стыхія — больш-менш упарадкаваная сістэма каштоўнасцей з надзейнай шкалою. Гэта, прынамсі, пераважала і было ўдзячнейшым на сталы занятак. Аднак хіба ж магчыма — калі не пад дэвізам «Есть упоение в бою..!», дык пад уплывам спецыфікі нашага асяроддзя — заставацца ўбаку ад задач так званай бягучай крытыкі? Так ці інакш літаратуразнаўцу-прафесіяналу мусова было выступаць у ролях сувязіста, рэгуліроўшчыка, стрэлачніка пры тым, што называюць рухомай эстэтыкай і літаратурна-творчым працэсам.

Як паказвае гэты зборнік літаратурна-крытычных артыкулаў, эсэ, дыялогаў, В.Рагойша не ўхіляўся ад такіх задач, а выконваў іх прафесійна і сумленна. Вядома, кожны з твораў, што ўвайшлі ў кнігу, перадусім трэба разглядаць як рэч у сабе, г.зн. у адпаведнасці з канкрэтнымі перадумовамі напісання і заканамернасцямі функцыянавання. Але не менш істотна ўлічваць, што, вось так сабраныя, яны ўтвараюць своеасаблівую мазаіку літаратурнага жыцця Беларусі за пэўны, немалы, перыяд. Тут не лішне падкрэсліць: без дзяжурных пералікаў, самамэтнай рэгістрацыі з'яў, свядомага рэтушавання. У сувязі з апошнім кідаецца ў вочы наяўнасць спасылак на Маркса, Леніна. Здавалася б, падпарадкоўваючыся тэндэнцыям апошняга часу, іх лепш было выкасаваць. А з другога боку, ці варта лакіраваць тую эпоху, прыхарошваць і папраўляць заднім розумам сябе, калі аўтарытэты ўспрымаў гэтаксама, як усе, і ад канонаў афармлення публікацый нельга было адмовіцца?

Бачанне літаратурнага працэсу, тым болей рэтраспектыўнае, у кожнага непазбежна сваё, з адпаведнымі акцэнтамі на тых ці іншых постацях, фактах, тэндэнцыях. І В.Рагойша ў раздзеле «Папярэднікі і сучаснікі» невыпадкова прыцягвае нашу ўвагу да такіх асоб, як Сяргей Палуян, Стары Улас, Валерый Маракоў, Пятрусь Броўка, Юрка Гаўрук, Максім Лужанін, Аляксей Зарыцкі, Язэп Семяжон, Міхась Ларчанка, Алег Лойка, Максім Танк. Па-рознаму прыпісаныя ў гісторыі літаратуры, яны высвечваюцца крытыкам так, каб паўсталі ў поўны рост і да нас павярнуліся незаўважанымі раней бакамі. Не ўсе, натуральна, меркаванні і высновы прымаюцца адназначна. Прынамсі, наконт захаплення В.Маракавым тэматыкай і паэтыкай С.Ясеніна, уласцівымі імажынізму, ды і саму гэтую плынь наўрад ці дастаткова проста азначыць як усесаюзную «паэтычную хваробу». Аднак тут важна ўжо тое, што з'ява ўзята супярэчлівая сутнасна і робяцца-такі захады па яе асэнсаванні.

Даўно лічыцца, што крытыка — самасвядомасць літаратуры. Ды ў любой праяве ўсіх відаў самасвядомасці самым складаным і самым далікатным застаецца размежаванне «сваё — чужое», кожны раз па-новаму актуалізаванае, прывязанае як правіла да пазалітаратурных, у нашым выпадку, чыннікаў. Аўтар зборніка «І адгукнецца слова ў слове...» прысвячае пытанням такога кшталту амаль цалкам два раздзелы засяроджваючыся ў першую чаргу на тым, што вызначае «роднасць», «братэрства», «пабрацімства», «дыялог дружбы», «вытокі прыцягнення» /з загалоўкаў/. Бадай, цяпер многія, калі і карыстаюцца такімі паняццямі, дык з іроніяй, расстаўляючы далёка не тыя, што раней, знакі. Але В.Рагойша ставіцца да іх з ухвальнай паслядоўнасцю. Яму больш даспадобы не самаедства, не клікунства, а спаконвеку ўласцівае беларусам памяркоўнае, паважлівае стаўленне да брата і суседа, сябра і часовага спадарожніка. Ужываючы ягонае ж азначэнне, ідэал — «сейбіт на ніве братэрства», асоба руплівая і мудрая, што не зблытае, не змяшае зерне з мякінаю ні ў час сяўбы, ні пасля жніва, што ўсведамляе розніцу паміж часовым і вечным, служыць якому закліканы ўсе літаратуры і ўсе сапраўдныя літаратары. Такі менавіта агульны падыход выяўляецца ў раздзеле «На скрыжаванні культур». Па многіх аб'ектыўных і суб'ектыўных прычынах асноўнае месца ў гэтым раздзеле займаюць пытанні сувязяў з блізкароднаснай украінскай літаратурай. Ды не толькі да іх прыцягваецца ўвага.

Магчыма, не ўсе чытачы кнігі згодзяц-

*Вячаслаў Рагойша. І адгукнецца слова ў слове... Мінск, «Мастацкая літаратура», 1992.*

# «НЯМА СМАЧНЕЙ ВАДЗІЦЫ, ЯК З РОДНАЙ КРЫНІЦЫ»

І вось новая сустрэча...

Ёй радуешся, як сустрэчы з добрым і мудрым сябрам-дарадцам, які прыходзіць на дапамогу, каб падтрымаць у любую хвіліну жыцця, асабліва самую скрутную і цяжкую, калі пятлёю душыць роздум над сэнсам жыцця і зямной сутнасці чалавека. І нібы адчуваеш на сваім плячы цёплую руку гэтага сябра, чуш яго суцешлівы голас: «Бяда бядою, але і дабра прычакаем», «Лепей жартаваць, чым гараваць», «Прыйдзе свята і на нашу вуліцу»... Можа, гэты спрадвечны аптымізм і вера ў лепшае і дапамаглі выжыць нашаму народу праз стагоддзі нават у самыя, здавалася б, безвыходныя гады ліхалецця.

Гэтая трэцяя сустрэча з Бібліяй народнай мудрасці радуе яшчэ і таму, што яна выгадна адрозніваецца ад першых двух. Калі ў другім выданні прыказак і прымавак, фразеалагізмаў было на 2200 фразеалагічных адзінак болей, чым у першым, то аб'ём трэцяга выдання павялічыўся ўжо на дзесяць аркушаў. І ў трэцім выданні, як і ў папярэдніх, заўважаеш, што многія прыказкі, прымаўкі, выслоўі пазначаны складальнікам зорачкай. Яшчэ ў «Слове складальніка да першага выдання» Фёдар Янкоўскі пісаў: «У выпадку, калі прыказка, запісаная мною, знойдзена ў якой-небудзь друкаванай крыніцы, яна не адзначаецца...» Аддамо належнае сціпласці і далікатнасці Фёдара Янкоўскага. Але ж... Але ж!.. Паўторны запіс, ды яшчэ ў іншым рэгіёне, той ці іншай прыказкі, прымаўкі хіба не сведчыў пра жывучасць таго, што колісь было сфармулявана ў народзе, скрышталізавана ў высокамастацкі творафарызм? Хіба не даказваў адвечнасць і непахіснасць вартаснасці народнага мудраслоўя? Але чытаем у «Слове...» далей: «Калі ж запісаная мною і надрукаваная з'яўляюцца варыянтамі, то выбіраў лепшы, ярчэйшы варыянт, і ён адпаведна адзначаецца ці не адзначаецца». Гэтага прынцыпу прытрымліваўся Ф.Янкоўскі, калі рыхтаваў другое выданне і калі пачаў работу над трэцім. Але няўмольны лёс не даў яму здзейсніць пачатае, увасобіць усе задумы. Засталася яго картатэка з запісамі больш чым дваццаці тысяч ідыём. І сёння мы маем нагоду нізка пакланіцца яго жонцы С.А.Янкоўскай — сяброўцы, нязменнай і нястомнай памочніцы за тую вялікую работу, якую яна прарабіла, закончыўшы падрыхтоўку трэцяга выдання. І не толькі вялікую — я сказаў бы, пакутлівую работу, бо трэба было не адысці ні на ёту ад прынцыпу Фёдара Міхайлавіча — «выбіраць лепшы, ярчэйшы варыянт» /ці варыянты/, не гнацца з амбіцыяй толькі за колькасцю, за аб'ёмам зборніка. /На жаль, выдавецтва забылася дзесьці пазначыць, чыімі намаганнямі гэтае выданне было дапрацавана і дапоўнена/.

У вельмі дыхтоўным і прачулым артыкуле-прадмове да зборніка — «Руплівец у матачніках роднага слова» — Уладзімір Калеснік акрэслівае шляхі станаўлення беларускай філалогіі ў пасляваенныя гады, адзначае выдатную ролю ў гэтым працэсе Ф.Янкоўскага. А разважаючы аб вартасцях кнігі, ён не толькі дае высокую ацэнку зборніку, але і адзначае яго адметнасць сярод аналагічных выданняў, робіць глыбокія тэарэтычныя высновы аб вартасцях беларускага фальклору і асабліва прыказак і прымавак. Я перакананы, што ў будучым ніводзін даследчык нашага фальклору /і не толькі нашага/ не зможа абысціся без гэтых глыбокіх па думцы, дакладных па сэнсе і змесце фармулёвак У.Калесніка. Прыказкі і прымаўкі — «матэрыялізаваная ў сціслым і зіхоткім слове народная душа, філасофія жыцця, апраўданне чалавечай прысутнасці на зямлі, абгрунтаванне сэнсу індывідуальнага, асабістага і грамадскага, гістарычнага існавання, духоўная хартыя народа, яго пашпарт на нацыянальную тоеснасць і несмяротнасць у свеце». «Кандэнсацыя думкі, зграбнасць формы, лаканізм і падтэкставае багацце, мудрасць высновы: «Сказаў, як звязаў», — вось сакрэты, пры дапамозе якіх палоняць і пераконваюць нас залатыя словы прыказак». «Нацыянальная прыказка — скарбонка духоўнай сілы народа, яго здольнасці арыентавацца ў складаным, супярэчлівым і многа дзе неспазнаным свеце».

Так, мы шчаслівыя, што маем такія скарбы фальклору, такое лексічнае багацце мовы — і ў гэтым неўміручасць народа. Ні старцаваць-жабраваць па суседніх народах нам не трэба, ні ісці да іх у пазычкі. Наадварот, стагоддзямі ў нас і пазычалі «безвозмездно», і беспардонна, бессаромна кралі, карысталіся нашымі скарбамі, выдаючы іх за свае. Не буду ўхіляцца ў гэтую тэму глыбока, яна прадмет асобнай гаворкі. Дазволю сабе тут толькі маленькае адступленне. Чуў аднойчы з Масквы перадачу пра веснавыя абрадавыя песні з заходняй Браншчыны. Каментатарка-«фальклярыстка» зроду не чула, што такое гуканне вясны, такіх песень амаль няма ў расейцаў. Яна не зразумела, што такое «гукаць», і чытала па напісаным тэксце «гуканне», выдаючы запісаныя песні за «исконно, издревле русские». А цёткі ж спявалі на чысцюсенькай беларускай мове! А цёткі ж не проста «гукалі», «гукаліся», цягнулі працяжна «гу-у-у-у» /дарэчы, «гукаюцца» на Случчыне гавораць толькі пра свіней/. Цёткі клікалі, звалі, гукалі вясну, каб хутчэй прыходзіла са сваім цяплом, з краскамі-кветкамі, з новым ураджаем, абнаўленнем жыцця, спадзяваннямі на лепшае будучае.

Гартаю зборнік, чытаю, перачытваю прыказкі... Зноў і зноў радуюся-цешуся, дзіўлюся асэнсаванню сутнасці чалавека, ахопу яго духоўнага і душэўнага стану, свету, жыццёвага вопыту, месца ў грамадстве. Не прайшлі па-за ўвагай народа сяброўства, вернасць, памяркоўнасць, гасціннасць, працавітасць, умельства, кемлівасць, дбайнасць, гаспадарлівасць, беражлівасць, аптымізм, вытрымка, адвага. Сям'я і радня, сваяўство, выхаванне ў сям'і, каханне, маладосць і старасць, розум і навука, вучэнне, мова і слова, песня. Праўда, здароўе, сіла, хвароба, смерць, знешнасць і сутнасць, відавочная ісціна... А колькі ўсяго пра заганы і хібы людскія! Не забыты гультайства, бестурботнасць, абыякавасць, безгаспадарчасць, свавольства, валацужніцтва, нездатнасць, няўменне, неахайнасць, бесталковасць, нікчэмнасць, сварлівасць, уедлівасць, упартасць і непамяркоўнасць, зайздрасць, прагнасць і скупасць, прыдзірлівасць і несправядлівасць, несамакрытычнасць, пераборлівасць, бесхарактарнасць, беспрынцыповасць, нерашучасць, баязлівасць, самахвальства, балбатунства, пляткарства, фанабэрлівасць, хлусня, падхалімства, махлярства, крывадушша, няўдзячнасць, самалюбства, недаверлівасць, здрада, нахабства, зладзейства, п'янства, курэнне, чалавечая віна і пакаранне і г.д. і да т.п.

Беларуса суправаджае народная мудрасць ад нараджэння да смерці і нават пасля смерці. І на ўсе выпадкі знойдзеш у народным мудраслоўі водгук, ацэнку, вывад-выснову, бо ўсё ўжо было, перажыў народ падобнае ці нават горшае, і ўжо людзі такія, з такімі якасцямі таптаді зямлю-матухну. «Бывае штосьці, пра што гавораць: «глядзі, вось гэта новае»; але *гэта* было ўжо ў стагоддзях, што прайшлі да нас» /Эклезіяст/.

Чытаеш, перачытваеш сабранае Ф.Янкоўскім — і як запавет мінулых пакаленняў нам, сённяшнім, на нашым цяперашнім раздарожжы гучыць напамінак: «Чужых слухай, а свой розум май», а то вельмі ж многа развялося і замежнікаў, і сваіх пярэкрутаў-манкуртаў, і прыхадняў-прыблудаў, што атабарыліся тут, ахвочых і скорых да парад, што і як нам рабіць. Радцы заўсёды застануцца з боку прыпёку, каб пахіхікаць, пацерці задаволена рукі, калі што не так атрымаецца, і тут жа папінуць беларусаў ў няздарнасці, няздольнасці. Ці не да няўдзячных імігрантаў-нахабаў стасуецца такая народная муднасць: «Пусці свінню пагрэцца, то не будзе дзе дзецца»? У перабудовачнай мітрэнзе можна згалець да таго, што будзе «ўсяго і запасу, што між зубоў». І чуеш нібы іронію на адрас некаторых членаў Садружнасці незалежных дзяржаў і не членаў гэтай суполкі, якія больш клапоцяцца пра амбіцыю, а не пра амуніцыю: «Хоць спіна гола, але свая воля». Але ж, калі ўжо дамагліся незалежнасці, калі ідзе адраджэнне мовы, культуры, то не адступаць, не гуляць у паддаўкі з ворагамі беларушчыны трэба: «Шануй сябе, то і людзі будуць шанаваць». З дзяржавамі-

*Беларускія прыказкі, прымаўкі, фразеалагізмы. Склаў Ф.Янкоўскі. Выданне 3-е, дапрацаванае і дапоўненае. Мн., «Навука і тэхніка», 1992.*

Васіль ВІТКА

# З кнігі «АПОШНІ АЎТОГРАФ ЧОРНАГА ДЗЯТЛА»



## НАТХНЕННЕ

Цураецца, абмінае
Мяне мая госця — натхненне.
Даруй, мая дарагая,
За тыдні, за годы знямення,

Што нават набыў — губляю,
А ўсё ж валаку свой воз,
Штосьці мыляю губамі
І мармычу пад нос.

*1992*

## ПАЭЗІЯ

*Аляксею РУСЕЦКАМУ*

Па праву вечнасці — для маладых,
Нам, старым жа — на адзін уздых,
Каб толькі вымавіць: даруйце
І ўнукам пажадаць: шчыруйце!

На полі слова новыя ўжо ратнікі,
Яе абраннікі, майстры, творцы.
Мы радыя б пайсці ў чаляднікі,
Ды ў нас яе няма ўжо, мы — ўдаўцы.

*11.06.1993*

## ДЫЯГЕН

Тры вякі і два тысячагоддзі.
Ну, здавалася б, даволі, годзі,

А яму не церпіцца, няймецца,
Нашчадку пантыйскай Грэцыі.

У радняна̂й, аж да пят сарочцы,
На задворках горада, у бочцы,

Выракшыся людскае кватэры
І выгод усіх, не адцураўся веры:

Быць не можа, выйшаўшы з Сінопу,
Абышоўшы Поўдзень, Поўнач,
Захад і Усход,

Азію, Афрыку, Амерыку, Еўропу,
Ва ўсім свеце не натрапіць на народ,

Дзе б няўрымслівы не ўзрадаваўся грэк:
«Вось ён той, каго шукаю, — чалавек!»

Вы не пасміхайцеся, не кпіце з дзівака,
Што дасюль не натамілася рука

У вандроўцы не з паэтавым пяром,
А штодня ўсё з ліхтаром і ліхтаром.

*13.05.1993*

## КАЛАРАДСКІ ПРЫМАК

Даўнюю прымаўку прыгадай:
Май — каню сена дай,
Сам на печ уцякай.
Праўда, нялішнім бываў і кажух.

Ды я пра іншае вам скажу
І словам добрым успамяну.
Успомніце самі, хто харашыў нам вясну?
Вядома, вядома ж, ён — майскі жук!

Каторую вясну,
Каторы май
Сэрцу балесна —
Хоць ты канай.

Змалку і век ён гудзеў увушшу —
Некаму ўжо абудзіць душу.
Падумаеш, скажаце, толькі б і клопату.
Можа, і лепш, што няма і почуту.

А як нам іграла вячэрняя ціішыня —
У сотні, у тысячы тонкіх смычкоў!
Так бы, здаецца, і слухаў да дня
Такі суладны аркестр скрыпачоў.

Але неўзабаве складуць яны скрыпкі
Да заўтрага зноў у футаралы.
Яблыні спяць, сціхлі вішні і ліпкі,
І спевакі, што адспявалі харалы.

Час, пашкадуй нашы бедныя душы,
Бярэзінак не калаці, не трасі ігрушы,
Не цешся, не смейся: — Вось знайшоў
дзівакоў,
Каб і мы шкадавалі пачэзлых жукоў.

Што ж, я сам нацярпеўся і жукоў,
і жучкоў,
Надворных хрушчыкаў і кормных
хрушчоў,
Аднак, не найлепшы і час, што прыйшоў
І больш ненажэрных прыдбаў
прымачкоў.

Адкуль бы ім чуць і ведаць адкуль бы
Смак нашае беларускай бульбы?
А ён тут, як тут — рызыкант,
Каторы ўжо год — акупант.

Сам сабе дзівіцца — не надзівіцца,
Жуюць — не нажуюцца сківіцы,
Трушчаць і цяўе, і карані,
І аніякай управы — ані.

Аніякае рады
На гада,
На жука-прымака
З Каларада.

*16.06.1993*

## ВЫДЫРГАНЦЫ

Вывертам, выкрутам
Стары самазванец
Рынуўся з прыступам
У новы танец

І аж да знямогі
Даваў выдырганцы —
Адтаптаў панам ногі,
Паненкам — пальцы.

Кавалеры пакіслі,
Уз'еліся дамы:
— Адкуль узяліся
Між намі хамы?

Дзядок усміхнуўся:
— Панове, не лайце,
Што не абуўся
У новыя лапці.

*23.06.1993*

## ЭНЕРГАНОСЬБІТЫ

Мы незалежныя,
Мы самастойныя,
Толькі вярніце
Застойныя стойлы нам.

Чым быць замежнымі,
Лепей жа — лежнямі.
Жывот не ўтхланіцца —
Некаму кланяцца.

Было б шыта-крыта:
Падкіньце ў карыта,
Паддайце гаручага —
І мы зноў жывучыя,
Вашыя просьбіты,
Энерганосьбіты!

*17.06.1993*

## РЭКЛАМА

Вось якая паэзія
Настырнай сляпіцаю лезе
З газет, балабоніць і меле
Па радыё і па тэле:

«Прадаю, купляю, мяняю», —
Аб'явы сучаснае явы.
Не мне вашы клопат і справы.
Няхай той мяняе, хто мае.

Машыну на дачу
І зяця ў прыдачу,
Царкву на касцёл,
А веру — на самагонны кацёл,

Гуманітарыя на пралетарыя,
Планетарыя на лупанарыя.*
Салют салюту!
Толькі на валюту!

Рахубу выгодную
Кожны шукае —
І той, і гэты
З абодвух бакоў.

Вунь маці родную
Сынок мяняе
На сваякоў
За рубяжом,

А мне як па сэрцы — нажом,
Бо нечага болей ужо мяняць,
Не слухаць
І не чытаць,
І не пісаць.

*26.06.1993*

*Lupanar /лац./ — публ. дом.

## ЧОРНЫ ДЗЯЦЕЛ

Слібізуйце, вычытвайце — наце,
Што надзёўб за свой век мой дзяцел.

У жыцці неўвішны, неправорны,
Як манах паміж дзятлоў, чорны.

І на словы не адмысловы,
Не стракаты, не каляровы,

А магчыма, паміж варон
Мог бы стаць нават белым ён.

*5.05.1993*

## МАЕ ЎЗНАГАРОДЫ

З'яўлюся з чэсцю на той свет
Пры ўсім, як ёсць, сваім парадзе:
З вялікім стажам тройчы дзед
І з невялікім — двойчы прадзед.

Вось вам мае тры ардэны,
Два залатыя медалі:
Унукі, праўнукі — яны
Дажыць мне веку памаглі.

Даруе Бог мне ўсе грахі,
Апроч неўпадабаных вершаў,
За што і буду, мабыць, першы,
Хто ў пекла трапіць без чаргі.

*1989*

## РУЖА

*А. С.*

Як сарву я ружу-кветку,
Дый пушчу на рэкі.
Плыві, плыві, мая ружа,
Не з вараг у грэкі,

А са Свіслачы на Іслач,
Дзе па-над вадою
Вербы ніцыя навіслі
І гавораць з ёю,

Не з вадою,
А з адною
Дарагой
Душою,

З той, з якой
Мая зраслася,
Як вярба
З вярбою.

Век сыходзіць
І па часе,
Па вірах,
Паўз кручы

Плыве ружа,
Праплывае,
Іслач, Свіслач
Прамінае

І, напэўна, нас чакае
Недзе ўжо на Случы.

*1992*

## ЗАЦВІЛА АКАЦЫЯ

*Я. П.*

Добрая прыкмета,
Мае рацыю —
На шчодрае лета
Зацвіла акацыя.

З мядовых суквеццяў —
Духмяная морач.
Помніце, дзецьмі мы
Смакталі слодыч

З пялёстак клейкіх
На доўгі запас.
Успомнім дабрадзейку
У наш горкі час.

*19.06.1993*

## ПЧАЛА

Сонца хмаркай выцірае пот з ілба
І яму, напэўна, млосна,
Ды і на зямлі спякота не наўда,
Бурштыновымі слязьмі сыходзяць
сосны.

На сланечніку, як на патэльні,
Пчолка мёду ўжо ні кроплі не знайшла.
Скрозь у свеце соладка не вельмі —
Са сланечніку на сонца паляціць пчала.

*1993*

## ПА ГАРОХАЎЮ, ПА ЯЧАННЮ

Змалку чары роднай мовы
І яе першаасновы...
Запяю — і чагось плачу я
Па гарохаўю, па ячанню.

Як сігнальны знак фатальны
Неразгаданае тайны,
Забываў патрохі я
Ячання, гарохаўя,

Бо па тэлебачанні
Яны ўжо не трапяцца,
Гарохаўе, ячанне
Назаўсёды страцяцца,

І хоць стратай мучылі,
Душы не абязгучылі,
Нечым ім удзячан я —
Гарохаўю, ячанню.

Колісь песня пелася,
Скласці верш хацелася.
Склаўся, як умелася —
Не з'яднаўся ў меласе.

Мабыць, марна трачу я
Намаганні надвая:
Я — ў пачатку ячання,
Я — ў канцы гарохаўя.

Хто ж я сам у такім разе —
Дбайны сейбіт, а ці блазен,
Што пяю і плачу я
Па гарохаўю, па ячанню?

*24.06.1993*

## ХТО АПОШНІ?

**Не француз, не чэх, не немец,**
**Я ў сваёй краіне чужаземец,**
**Хоць найменнем беларус завуся,**
**А мая радзіма Беларуссю.**

**Чэзне нарад мой і род,**
**Убывае з году ў год,**
**Самахоць канчае самагубствам.**
**Заступіся, Госпадзі, парупся.**

**Дзеці, юнакі, мужчыны і жанчыны,**
**Самі мы напагатове — дабравольцы,**
**Дзень у дзень пяюць асанну нам**
**забойцы:**
**«Слава вам! Загінулі вы за Айчыну!»**

**А якую,**
**За якую,**
**За якую?**
**Усё яшчэ за тую,**
**Усё за тую,**
**Дзе свой век ніхто не давякуе?**

**Кожнага чацвёртага ўзяла вайна,**
**Кожнага сустрэчнага — Чарнобыль.**
**Іншае ж у нас даўно няма,**
**І тае, каторая на карце, вобмаль,**

**Хіба толькі для магільніку,**
**Для таго ўжо бабыля,**
**Хто апошні ў чарнабыльніку**
**Ляжа паміж бадылля.**

*16.05.1993*

## КРЭСІВА

*Васілю ЗУЁНКУ*

**Агрэсія крэсіва, зацятасць крэменя —**
**Два полюсы, вы ў цемені маім,**
**І навакол мяне — у цемені,**

**Я падуладны вам, дваім,**
**Вы ж без мяне бездапаможныя,**
**Заўсёды між сабой варожыя.**

**Пераканаваны, што вас не змірыць,**
**Пачаў красаць, ілбамі біць,**
**І першай іскраю працяты,**

**Упэўніўся, што кожны атам**
**У асяродку між дабром і злом**
**Жыве, як душы нашыя, святлом.**

*7.07.1993*

## MORIAR STANDO

**Сам сабе вызначаю**
**Строгі свой мемарандум:**
**Без пакут, без адчаю**
**Moriar stando.**

**Калі маці прачыстая**
**Да пазваных далучыць,**
**Толькі б з годнасцю выстаяць,**
**Родных, блізкіх не мучыць.**

**Хто апошні, хто крайні? —**
**Яе не пытайма**
**І чаргі не займайма,**
**Даверымся тайне,**

**Што на свеце адзіная**
**І якой падуладны**
**Дзень з тваёю гадзінаю —**
**Moriar stando.**

**Бо душа разам з целам**
**У адной абалонцы**
**Не даляцела б**
**Ніколі да сонца.**

**Як зарок дапаможа,**
**Я і ўпаўшы, устаў бы.**
**Уздыхні вольна, ложак,**
**Moriar stando.***

*7.06.1993*

* *Паміру стоячы /лац./*

З дзённікавых запісаў

Іосіф ВАСІЛЕЎСКІ

## ЗЛОЕ ДРЭВА

Ля абочыны гарадской вуліцы добры чалавек пасадзіў вясной дрэва. Тоненькае, з ізумруднымі лісцямі, яно ласкава шалясцела пры кожным павеве ветру. Каб нікому не перашкаджаць сваім веццем, яно з усіх сіл цягнулася ўгору, штогодна адкладваючы кольца ў сваёй сарцавіне. Яму цяжка было расці на непрыгоднай глебе, дзе каменне перамешана з іржавым жалезам. Ды, каб жыць, трэба было ўтрымацца, і дрэва ўсім карэннем прабівалася ўглыб, з вялікай цяжкасцю здабываючы сабе спажыўныя сокі.

Доўга ніхто не звяртаў увагі на адзінокае дрэўца — расце сабе і расце. І гэта была самая шчаслівая пара ў жыцці маладой таполі. Толькі сонца і цёплыя дажджы не забывалі свайго выхаванца і ў цяжкую хвіліну заўсёды прыходзілі на дапамогу.

Але вось і людзі пачалі звяртаць увагу на прыкметна падужэлую таполю. Нейкі час хлапчукі зрывалі зялёнае лісце і спрабавалі сагнуць гібкі ствол, але дрэўца спружыніла і заўсёды выпрамлялася, з дакорам пахітваючы кронай.

Суседскі хлапчук, які ў сваім жыцці не пасадзіў ніводнага дрэўца, выпальваў штогодна на ствале таполі павелічальным шклом сваё імя, ды час, раўнадушны да зла і дабра і абыякавы да славалюбства, няўмольна сціраў гэтыя літары. Яны зарасталі карой, пакідаючы на ствале шурпатыя сляды. А калі вазак будкантоны воссю калёс садраў цэлы аскепак драўніны, час зарубцаваў рану толькі па краях, а ўсярэдзіне засталося дупло. Цяпер былыя саюзнікі дрэва, сонца і вецер, сталі яго непрыяцелямі і зусім несвядома падточвалі сілы дрэва.

Таполя не паддавалася часу і натужна рыпела, калі вельмі налягаў вецер, ды ніхто не прыслухоўваўся да голасу дрэва, людзі раўнадушна праходзілі міма.

Аднойчы ў буру дрэва пахіснулася і ўжо не змагло выпраміцца, марудна, з шумам, яно падала на тратуар, як толькі магло, папярэджвала прахожых аб небяспецы. Але і тут чалавек застаўся верны сабе: «Падумаеш, дрэва». І нават не пагладзеў угору. Гэта была апошняя памылка чалавека, ды выправіць яе было ўжо немагчыма. Чалавек і дрэва загінулі аднасачна. Каля іх таўкліся людзі, і хтосьці сярдзіта сказаў: «Якое злое дрэва!»

Чалавека павезлі на машыне, а дрэва стары вазак і вартаўнік парэзалі на дровы. Неўзабаве і пілавінне размяло ветрам.

Гісторыя гэта ўжо даўно забылася, нават пень выкарчавалі людзі. Стары вазак спаліў сухія дровы, успамінаючы злое дрэва. А дрэва ярка гарэла ў печы, абаграваючы людзей сваім цяплом. Нават згараючы, яно заставалася добрым.

## СНЫ

Прайшло шмат гадоў з той пары, як я пакінуў тэатр. Амаль ніколі не ўспамінаў свае першыя крокі на сцэне, звязаныя з боязню забыць тэкст. Майстэрства выцясняе нясмеласць, надае ўпэўненасці і спакою. Пачуццё трывогі з'явілася толькі пры ўводах у спектаклі і тэрміновых заменах. Мне і ў галаву не прыходзіла, што калі-небудзь буду ўспамінаць гэтыя трывожныя хвіліны.

Прайшлі гады, і вось нейк раптам і нечакана — сны, недарэчныя, трывожныя, неспакойныя.

Каторы раз бачу ў сне, што я на сцэне, перад вялікай аўдыторыяй. Я павінен штосьці гаварыць, штосьці выконваць, але што — мне невядома. Я не ведаю аніводнага слова, не ведаю п'есы, вакол мяне нейкія персанажы ў незнаёмых мне касцюмах, заслона адкрыта, мяне прыспешваюць — гавары, а я аглядаюся па баках, шукаю суфлёра, бездапаможны, разгублены. Страшна да немагчымасці. Прачнуўшыся, уздыхаю з палёгкай, забываю страшны сон, ды ён паўтараецца праз некаторы час. А было, асабліва пасля рыбалкі, лётаў у сне, лётаў і нават іншых вучыў лятаць. «Няўжо вы не можаце навучыцца, гэта ж так проста. Вось глядзіце, я набіраю паветра, разводжу рукі, штуршок і — паляцеў». Пасля такога інструктажа я пералятаў праз шматпавярховыя дамы, лёгка падскокваў і ляцеў далей. Прабуджэнне было звычайна вельмі прыемным, на душы — лёгка і хацелася яшчэ палятаць. Можна з упэўненасцю сказаць, што сны знаходзяцца ў прамой залежнасці ад стану фізічнага здароўя чалавека і адлюстроўваюць стан душэўнага жыцця. З узростам сны старэюць.

**Мне, як раней, не спіцца ноччу**
**летняю,**
**Лічы хоць сто, хоць тысячу сланоў.**
**Цяпер мне дорыць сон — адзін**
**эленіум.**
**На жаль, дзіцячых я не помню сноў.**
**Мінулае адрывіста ледзь свеціцца.**
**З-пад попелу, што стыне на зямлі...**
**А як жа касманаўтам там, пад**
**Месяцам,**
**Няўжо ім спіцца лепш у караблі?**

## ПЯКУЧАЕ СЛОВА

Крапіва... З дзіцячых гадоў знаёмае пякучае слова. Можа, таму і ў памяці глыбока засела гэтае слова, звязанае з імем народнага пісьменніка Беларусі Кандрата Крапівы, можа, таму і байкі помняцца з дзіцячых гадоў. Я любіў іх чытаць на сельскіх вечарах, у сельскіх клубах. А пасля, у Мінску, паступаючы на тэатральна-драматычныя курсы ў 1930 годзе, спачатку прачытаў байкі Кандрата Крапівы, што спадабалася экзаменатарам.

З творчасцю байкапісца, драматурга-камедыёграфа я неаднойчы сустракаўся, калі быў прафесійным акцёрам, і заўсёды натхняла неадольная праўда жыцця ў яго творах. І вось зараз /пісаў гэта, калі нашаму патрыярху перавaліла за дзевяноста/, мне ўспомніліся байкі, якія я палюбіў у трыццатыя гады. Прачытаў іх і пераклаў для кнігі «Калючы строй». Здарова, як і раней, апякаюць, пякучакалючыя. Быццам учора напісаны.

**Пячэ і здарова кусаецца...**
**Прачытаўшы, адчуеце вы,**
**Што галоснасць пачынаецца**
**З Крапівы.**

## РОЗНЫЯ ІМГНЕННІ

Чытаю Янку Брыля і ўспамінаю «Імгненні» Юрыя Бондарава. Якая розніца. І там і тут адрывачныя ўспаміны, назіранні. Ды ў Я.Брыля гэта проста і натуральна, лёгка кладзецца на душу. Думаецца, што і пісалася яму лёгка. А фраза Бондарава — складаная, састаўленая, успрымаецца не адразу, трэба ўвесь час вяртацца да прачытанага; цяжка засвойваецца, адчуваецца, што і пісалася яму цяжка. А гэта ж і тое і другое — сапраўдная літаратура, вартая ўвагі. Толькі ў маім успрыманні Янка Брыль глядзіцца прыгажэй, элегантней. Калі іх работу параўноўваць з фізічнай, то гэты працэс выглядае прыкладна так: Бондараў, аддыхваючыся, варочае цяжкія жорны, а Брыль круціць кавамолку, прынюхваецца з задавальненнем да водару кавы. Робіць ён гэта няспешна, смакуючы бадзёрасць напітку.

... Якой незвычайнай свежасцю вее ад кнігі Янкі Брыля «У пошуках слова». Здзіўляе яго ўменне знаходзіць патрэбнае, рэдкае слова там, дзе іншы не прыкмеціць нічога вартага ўвагі. Якая адданасць сваёй рабоце, веданне сябе і разуменне людзей. Гэта не проста прафесіяналізм, гэта патрэба душы. І ў кожным выпадку, у любым абразку — глыбокае даследаванне, мудрае абагульненне ў канцоўцы. І пачуццё радасці і спачування — усё знаходзіць дакладнае, адзіна дапушчальнае слова, падказанае пільным вокам і добрым сэрцам.

У заможным калгасе. «Пасля сходу льнаводкі і маладыя настаўніцы мятуць польку». Не танцуюць, а мятуць. Цудоўна!



Фота БЕРАЗНЯКА

# СЯМІГАДОВЫ МУЗЫКАНТ



Музыканта з Полацка завуць Уладзік. Уладзік Плігаўка. Яму сем гадоў, сёлета ён пойдзе ў першы клас. Але ўжо цяпер ён вучыцца... у Наваполацкім музычным вучылішчы, у сектары педагагічнай практыкі. Вучыць яго вядомы педагог Міхаіл Іванавіч Івашкін. Дарэчы, педагагічны стаж Міхаіла Іванавіча — трыццаць адзін год, але ён упершыню займаецца з сямігадовым вучнем і бачыць у ім вялікую будучыню.

Іхняя сумесная праца пачалася год таму. Цяпер Уладзік ужо выконвае на выбарным баяне паліфанічныя творы Баха, п'есы Шумана, Чайкоўскага, санаціны Кулау. У красавіку гэтага года Уладзік на канцэрце выканаў поўнасцю «Дзіцячы альбом» Чайкоўскага.

— Многія з тых твораў, якія іграе гэты хлопчык, — расказвае яго педагог, — вывучаюцца ў выпускных класах дзіцячай музычнай школы, а таксама ў вучылішчы. І вельмі рэдка хто з навучэнцаў можа, да прыкладу, цалкам выканаць «Дзіцячы альбом» на такім узроўні, як гэта робіць Уладзік.

Хлопчык і сам спрабуе ствараць музыку. У яго ўжо ёсць некалькі ўласных п'ес, апрацовак народных песень. Праўда, пакуль што яму цяжкавата запісаць свае ўласныя творы на нотным аркушы, бо яшчэ толькі нядаўна навучыўся чытаць ноты. Ён пачаў іх чытаць амаль адначасова: загадкавыя для большасці з нас нотныя рады і першыя словы ў звычайных кнігах, тых, якія даступныя для ўсіх нас.

Дык хто ж ён, маленькі палачанін Уладзік Плігаўка? Вундэркінд? Феномен? Будучая знакамітасць? Чалавек, які валодае рэдкім Божым дарам? Устрымаемся ад дылетанцкіх вызначэнняў. Час скажа сваё слова. Нам жа хіба што застаецца спадзявацца, што яшчэ няраз пачуем імя музыканта з Полацка Уладзіслава Плігаўкі і няраз пабудзем на ягоных канцэртах.

**І.СТУДЗЕНЬСКАЯ**

*Фота Э.ЦЕЦЯРЭЎСКАГА*

# ДОМ МІЛАСЭРНАСЦІ

У Менску, на Старабарысаўскай вуліцы, мяркуецца пабудаваць Дом міласэрнасці. Мяркуецца, што будынак зможа прыняць 100 чалавек — адзінокіх старых, сірот, дзяцей-інвалідаў. Аўтарам праекта Дом міласэрнасці ўяўляецца як вялікая сям'я, дзе людзі жывуць у адпаведнасці з хрысціянскімі прынцыпамі, дапамагаюць адзін аднаму. Пры доме будзе невялікая капліца.

Абшчына храма-помніка ў гонар Усіх Святых і ахвяр бязвінна загубленых, пры якой будзе створаны Дом міласэрнасці, загадзя ўдзячна ўсім, хто дапаможа сваімі ахвяраваннямі ў гэтай высакароднай справе.

Музыка

# ТАЛЕНТ МОЦНЫ І — БЕЗАБАРОННЫ...

***«Я ўхаплю лёс за глотку і не дазволю, каб ён мяне знішчыў!» — яны вельмі блізкія нам усім, гэтыя бетховенскія словы. Бо кожны дзень кожны з нас вядзе сваю барацьбу за права на шчасце... Адным шанцуе больш, і для іх змаганне абыходзіцца без цяжкіх страт і сур'ёзных выпрабаванняў. Лёс іншых — штодзённы «вечны бой», шлях пакутны, цярністы, які не заўсёды вядзе да зорак. Але многае залежыць ад самога чалавека, ад ягонай волі, ад настойлівасці ў дасягненні пастаўленай мэты, і — ад маштабу таленту.***



Мастацтва, безумоўна, патрабуе ахвяраў. Але для маладога гарадзенскага гітарыста Дзяніса Асімовіча гэтая ахвяра аказалася невымерна вялікай. Будучы трохгадовым хлапчуком, ён назаўсёды страціў магчымасць бачыць... І быццам бы выпраўляючы фатальную памылку, прырода надзяліла яго цудоўнымі музычнымі здольнасцямі. Праз свет гукаў, свет адмысловых пачуццяў і эмоцый Дзяніс перадае сваё ўспрыманне рэчаіснасці, усяго таго, што яго акружае. І робіць ён гэта надзвычай тонка і пераканальна, пры даламозе горача любімай гітары, якая вось ужо колькі гадоў з'яўляецца бадай што найлепшым сябрам.

Музыкай Дзяніс пачаў займацца падчас навучання ў Гарадзенскай школе для невідушчых дзяцей. Потым два гады — у сектары педпрактыкі пры Гарадзенскім музычным вучылішчы. Паступіў і ў самое вучылішча, у клас гітары вядомага музыканта Уладзіміра Захарава. Сёлета Д.Асімовіч атрымаў дыплом аб яго заканчэнні, дарэчы, з адзнакай.

Творчы шлях пакуль невялікі, але даволі паспяховы. Асабліва апошні год, які прынёс Дзянісу тры перамогі. Спачатку на абласным конкурсе юных талентаў «Новыя імёны», затым на 3-м Рэспубліканскім конкурсе выканаўцаў на народных інструментах імя І.Жыновіча, і, нарэшце, самае значнае дасягненне — 3-е месца на VIII Міжнародным конкурсе гітарыстаў у Кракаве. Чытачы «ЛіМа», можа, памятаюць, што летась на гэтым музыканцкім спаборніцтве ўдала выступіў У.Захараў, распачаўшы спіс беларускіх гітарыстаў — лаўрэатаў міжнародных конкурсаў. Прыемна /а можа, тое й невыпадкова/, што спіс гэты працягвае таксама гарадзенец, вучань У.Захарава — Дзяніс Асімовіч.

Конкурс адбыўся ў маі. Як заўсёды, аднačасова праходзіў фестываль гітарнай музыкі. Уражанні, вядома, незабыўныя, пра што паведамілі аўтару гэтых радкоў як сам Дзяніс, так і ягоная маці Галіна Міхайлаўна ды У.Захараў, якія па зразумелых прычынах таксама ездзілі ў Кракаў.

Запомнілася ім выдатная арганізацыя, якая была б немагчымай без самаадданага энтузіязму дырэктара фестывалю Чэслава Драздзевіча. /Кажуць, аднойчы, калі яго падвялі спонсары, ён прадаў усю радыёапаратуру з уласнага дому, але вытрымаў «марку»/. Канцэрты ішлі ў лепшых залах Кракава, у іх удзельнічалі музыканты вышэйшага ўзроўню, у тым ліку ўжо сусветна вядомыя. Так і на ўрачыстым адкрыцці, што ладзілася ў адным са старажытных касцёлаў, выступілі Камерны хор Кракаўскай філармоніі ды Пака Пенья /Іспанія/ са сваёй групай «Misa Flamenca». Фінальны канцэрт адбыўся ў зале філармоніі, дзе дэманстравалі мастацтва аркестр і хор Польскага радыё і тэлебачання ў Кракаве, а таксама цудоўны дуэт братоў-гітарыстаў з Бразіліі С. і А.Асад. У іншыя дні фестывалю гарадзенцам давялося пачуць такіх выдатных майстроў, як М.Лангер /Аўстрыя/, А.Вініцкі /Расія/, Д.Аскоўл /ЗША/, гітарныя ансамблі самых розных стыляў — класічныя, джазавыя, «фламенка» і г.д.

Не менш прадстаўнічым быў і сам конкурс. У ім удзельнічалі маладыя гітарысты з Іспаніі, Балгарыі, Аўстрыі, Чэхіі, Славакіі, Швейцарыі, Германіі, Венгрыі, Расіі, Украіны, усяго каля 40 чалавек. Многія з іх — неаднаразовыя наведвальнікі міжнародных конкурсаў, а часам і пераможцы. Члены журы — аўтарытэтныя музыканты: прафесар Варшаўскай акадэміі музыкі Р.Балалушка, рэдактар часопіса «Класічная гітара» К.Купер з Англіі, знакаміты кампазітар і віртуоз Х.Марэль з Аргенціны, дырэктар Асацыяцыі гітарных конкурсаў С.Кардэнка з Расіі і інш.

На III тур конкурсу былі дапушчаны толькі чатыры ўдзельнікі — два палякі /адзін — колішні выпускнік Варшаўскай АМ, другі — яе цяперашні студэнт/, іспанка /пераможца Міжнароднага конкурсу ў Кантабрыі, слухачка шматлікіх курсаў гітарнага майстэрства, якія наладжваюць вядомыя педагогі ў Іспаніі, Аргенціне ды іншых краінах/, а таксама наш Дзяніс Асімовіч. Згадзіцеся, кампанія пачэсная, і адчуваў сябе ў ёй гарадзенскі музыкант даволі ўпэўнена, асабліва калі меркаваць па выніках выступлення. Дарэчы, за выкананне твора І.С.Баха Дзяніс атрымаў асабістую падзяку ад К.Купера, аднаго з членаў журы. А між тым, транскрыпцыю дзвюх частак са скрыпічнай санаты ля мінор, што выконваў Дзяніс, зрабіў для гітары ён сам, па слыху, з пласцінкі.

Бясспрэчна, акрамя радасці засталіся і не зусім прыемныя ўспаміны. Напрыклад — пра шматлікія складанасці, якія заўсёды суправаджаюць падрыхтоўку да такіх мерапрыемстваў. Канешне, не абышлося без добрых людзей, што дапамаглі ажыццявіць мару. Пра іх Дзяніс гаворыць з вялікай удзячнасцю. Гэта генеральны дырэктар СП «Гродсоўп» М.Бакуновіч, яго намеснік Л.Гурына, старшыні рэспубліканскага і абласнога таварыстваў сляпых А.Нятылькін і З.Крупнік, Упраўленне культуры аблвы-

Тэатр

# «АДБІТАК МЯНЕ...»

***Тамара ТЭВАСЯН — адна з вядучых актрыс Брэсцкага абласнога тэатра лялек. Як падступ да творчага партрэта лялечніцы прапануем гутарку з ёю драматурга, загадчыка літаратурнай часткі тэатра Ігара СІДАРУКА.***

**— Шаноўная Тамара! У спектаклі «Тры казкі папугая» вы іграеце добрую, чароўную Фею. Аднак вось апушчана заслона, гаснуць сафіты, а вы і па-за сцэнаю застаяцеся ўсё такою ж феерычнаю: лёгкаю, чароўнаю, прывабнаю, абаяльнаю. Мяне вабіць ваша яскравая вобразнасць на сцэне, уменне знаходзіць не толькі трапныя і ўдалыя рашэнні роляў, але і заставацца добрым, прыцягальным чалавекам. Але як вы прыйшлі ў тэатр?**

— Як і шмат хто — у дзяцінстве... Праўда, я нарадзілася пад сузор'ем Блізнятаў, і маё захапленне тэатрам перапляталася з сур'ёзнымі заняткамі танцамі, фігурным катаннем, іншымі відамі спорту. Скончана школа... Мару стаць драматычнай актрысай. Але ў той год у Мінскім тэатральна-мастацкім інстытуце набіралі гераінь высокіх, мажных, «фактурыстых». Мяне паслухалі і... прапанавалі звярнуцца ў ТЮГ. А я... пайшла ў Тэатр лялек.

**— Вы памятаеце свае першыя ролі?**

— Так. Асабліва Дзяўчынку са спектакля па п'есе Анатоля Вярцінскага «Скажы сваё імя, салдат». Гэта, можна сказаць, мая першая вялікая работа, дзівосная і чыстая. Пасля яе адчула, што магу іграць не толькі вавёрчак ды зайчыкаў... Сёлета я скончыла Санкт-Пецярбургскую дзяржаўную акадэмію тэатра, музыкі і кіно. А ў той час, калі яшчэ працавала ў Беларускім тэатры лялек у Мінску, завочна заканчвала філфак БДУ. І жыла з нейкай раздвоенасцю: чаму аддаць перавагу? Школе? Тэатру?

**— Відаць, у вашым сузор'і перамог той з Блізнюкоў, якому ўсё ж бліжэй тэатральныя падмосткі?**

— Відаць!

**— З таго часу вам шанцавала на добрыя ролі?**

— Не зусім. Быў перыяд, калі работа ў тэатры перастала задавальняць. Здавалася, ужо нічога новага не будзе, спектаклі, за рэдкімі выключэннямі, падобныя адзін да аднаго і г.д. Захацелася зноў у школу. Пайшла кіраўніком лялечнага калектыву ў Брэсцкі Палац прафсаюзаў. Толькі... толькі зноў прыйшло разуменне. Я не магу кіраваць, мне больш даспадобы іграць самой.

**— А як да пераканання, што нічога новага ў лялечным тэатры нельга зрабіць?**

— На шчасце, я памылялася! І гэта дапамог зразумець рэжысёр Алег Жугжда. Вельмі шкада, што ён пакінуў наш тэатр... З ім мары пра добрую драматургію, добрыя ролі здзейсніліся. Ён — рэжысёр-інтэлектуал, які вядзе свае пошукі ад унутранай культуры, унутраных парыванняў — нешта падобнае ён шукаў і ў акцёрах. І, намацаўшы гэткую нітачку, ён цягнуў-цягнуў... Галоўнае, ён бачыў у табе асобу і прымушаў заставацца асобаю на сцэне, у кожнай ролі...

**— Якія з іх вам асабліва дарагія?**

— Адну вы ўжо назвалі: Фею з «Трох казак папугая». Лічу яе вялікай удачаю: у спектаклі добрая Фея-чараўніца расказвае дзецям казкі, і адначасова мне даводзіцца іграць усіх персанажаў — каля 14 роляў. Даволі цяжка фізічна... Але задавальненне ад працы, ад усведамлення, што гэта новая і нават нечаканая плынь у лялечнай драматургіі пераважае фізічнае цяжкасці. Вельмі люблю Анёла са спектакля «Рыгорка — Ясная Зорка» па п'есе А.Вярцінскага...

**— Нездарма на Луцкім міжнародным фестывалі тэатраў лялек «Калядная містэрыя» ваш Анёл быў заўважаны, адзначалася яго нейкая асаблівая «анёльскасць», мяккасць. А мне згадваецца яшчэ адзін спектакль: «Зязюлька» па п'есе У.Граўцова. Там вы іграеце шэраг роляў: Маці, Дачку, Сястру, Смерць. Вам не хацелася б зноў аднавіць гэтыя работы?**

— Хацелася б і вельмі. «Зязюлька», у якой лялька падаецца як знак, яшчэ раз падмацавала маё перакананне, што тэатр лялек — гэта не толькі шырмавыя спектаклі, гэта мора незвычайных формаў. Упэўнена, што ў тэатры лялек можна ставіць абсалютна ўсё! Толькі адна істотная агаворка: лялечны тэатр, як ніякі іншы, не церпіць халтуры, абыякавасці, тут усё павінна быць таленавіта.

**— Калі ў ім будуць працаваць такія людзі, як вы, то бясталентнасць наўрад ці будзе яму пагражаць. Кожнае ваша з'яўленне на сцэне /за шырмаю ці ў «жывым» плане/ — гэта маленькая яркая і радасная падзея. Нават другарадны персанаж у вашым увасабленні, з вашым голасам і падачаю ператвараецца ў забаўляльны і прыцягальны вобраз...**

— Калі ў мяне пытаюць «Як вы працуеце над ролямі?», я не магу дакладна расказаць аб гэтым. Для мяне кожная роля — нібы ўпершыню ступаеш на сцэну... Гавораць, тэатр лялек — гэта мастацтва паказу. Аднак я не хачу толькі паказваць, я хачу яшчэ разам са сваім героем пражыць, перажыць тое, што адбываецца. Мне самой важна, каб у ролі быў своеасаблівы рост: ад «а» да «б», ад «б» да «в» і г.д. Часта іду інтуітыўна, але ўсе мае ролі — гэта адбітак мяне самой. Маёй псіхікі, майго бачання свету, майго разумення дабрыні, іншых спрадвечных катэгорый.

**— Цяпер я разумею, чаму наш дырэктар Міхась Шавель сказаў пра вас: «Актрыса, якая можа іграць ролі ад Мышкі да Афеліі». Успамінаюцца і словы аднаго з крытыкаў: «Дзіця паглядзіць і скажа: «З гэтай цётай не страшна».**

— А я лічу, што любы персанаж, нават самы адмоўны, павінен быць у першую чаргу абаяльны: зрабіце зусім сур'ёзнымі, без добрай долі гумару Бабу-Ягу, Цмока, і будзе сумна, зусім нецікава... Дарэчы, гледачы, асабліва дзеці, гэта вельмі адчуваюць. Назіраю за дзецьмі не толькі ў тэатры, а і ў Брэсцкай

канкама і, канешне, выкладчык Дзяніса — У.Захараў. Дарэчы, на III туры Д.Асімовіч іграў «Грунвальдскую пастараль» свайго настаўніка і на ягоным жа інструменце. Добры інструмент — гэта палова поспеху, а Дзяніс пра такі пакуль толькі марыць. А наконт гітар, на якіх ігралі ягоныя канкурэнты, разважаць без уздыху немагчыма. Напрыклад, лаўрэат I прэміі М.Маерчык перад гэтым конкурсам перамог у Гданьску, так што ў Кракаве ўжо іграў на цудоўнай гітары коштам каля 9000 DM — тое была галоўная ўзнагарода гданьскага конкурсу.

Не хочацца ўспамінаць дарогу да Кракава. Увесь час на шляху ад Беластока да Варшавы давялося стаяць у тамбуры, бо ніхто не прапанаваў сесці невідушчаму хлопцу, магчыма, прыняўшы ўсю ягоную невялікую кампанію за звычайных «усходніх камерсантаў», якіх у Польшчы сёння шмат, і адносіны да іх адпаведныя. Ніякай паблажлівасці не было да Дзяніса ў час самога конкурсу, існаваў толькі адзіны крытэрый — майстэрства, а тут Дзяніс Асімовіч быў на вышыні.

Але ж, як вядома, для ўдасканальвання няма межаў, і ў Дзяніса наперадзе, здавалася б, цікавы і насычаны творчы шлях. Ды не ўсё так проста, шаноўныя чытачы. Трывіяльнае пытанне: «Куды пайсці вучыцца?», якое акурат зараз паўстала перад маладым музыкантам, не спяшаецца займець адказ. У Кракаве Дзяніс атрымаў запрашэнне на вучобу ў Варшаўскай акадэміі музыкі ад прафесара Р.Балалушкі. Але ж за навучанне замежнага студэнта хтосьці павінен плаціць. Ды й увогуле надта многа іншых складанасцей. Здавалася б, навошта лішнія праблемы? Беларуская акадэмія музыкі і бліжэй, і выкладчыкі тут не горшыя, і дарога адчынена, бо як лаўрэат Міжнароднага конкурсу Дзяніс будзе залічаны нават без экзаменаў. Не, аказваецца, і тут ёсць загвоздка.Існуе палажэнне, паводле якога інваліды па зроку абавязаны вучыцца толькі ў спецыялізаваных навучальных установах. А гэта... дзесьці ў Расіі /?!/

Дык няўжо зноў возьме верх чыноўніцкі падыход? Няўжо немагчыма зрабіць выключэнне для аднаго таленавітага хлопца, які ўжо неаднаразова даказваў, што выпрабаванні лёсу не паставілі яго на калені і ён яшчэ многае здолее зрабіць для нашай культуры, для нашага беларускага мастацтва, для дзяржавы, нарэшце? Трэба, каб і дзяржава трошкі дапамагла яму.

**Аляксей САЛАДУХІН**

*г.Гародня*

*Фота У.ВЫДЗЕРКІ*



гімназіі N 1, дзе паралельна вяду тэатральны калектыў, і пераконваюся яшчэ раз: вось дзе сапраўдныя індыкатары чысціні і фальшу, дабра і зла, веры і здрады. Непасрэдна ўспрымаць жыццё — гэтаму можна павучыцца толькі ў дзяцей.

*На здымку: Тамара ТЭВАСЯН /Сястра/ у спектаклі «Зязюлька» У.Грайцова.*
*Фота Алега ЖУГЖДЫ*

# ІХ БЫЛО МНОГА ТЫСЯЧ!..

## ЯК ЗАХАВАЦЬ СПАДЧЫНУ БЕЛАРУСКАЙ ЭМІГРАЦЫІ

***У самым сэрцы Парыжа, на вуліцы Гравіе, ад якой — рукой падаць да славутага цэнтра Пампіду, вядомага ўсяму свету Нотр-Дама і ганарлівага Луўра, у невялічкай кватэрцы на чацвёртым паверсе дома XVII стагоддзя па-беларуску сціпла прытуліўся маленькі куточак Бацькаўшчыны. Менавіта тут, у памяшканні беларускай каталіцкай місіі, размясцілася штаб-кватэра Саюза Беларусаў Францыі «Хаўрус». Уніяцкія абразы на сценах, бел-чырвона-белы сцяг на паліцы і кнігі, кнігі, кнігі на роднай мове. За вокнамі віруе тэмпераментнае, стракатае і шумлівае парыжскае жыццё, а тут цішыня, спакой і светлы скарынаўскі лік у прыгожай самаробнай рамцы...***

Нечакана, прарэзліва і настойліва зазваніў тэлефон і ў трубцы /якое гэта шчасце ў Парыжы!/ прагучала роднае і ціхае: «Добры дзень...». Французскія беларусы дамаўляліся аб сустрэчы ў сваім прадстаўніцтве, каб пагаварыць, разабрацца з узнікшымі пытаннямі, зноў паспытаць суму ўспамінаў і ў рэшце рэшт павячэраць разам за чаркай добрага віна ў кітайскім рэстаране насупраць.

Беларуская эміграцыя ў Францыі — бадай што адна з самых сталых і мае вельмі багатую і даўнюю гісторыю. Упершыню нашы суайчыннікі прыйшлі сюды ў адносна вялікай колькасці пасля 1812 года разам з адступаючай напалеонаўскай арміяй. Жылі ў большасці сваёй у Ліёне, але, не маючы арганізацыйных структур і свайго духавенства, не пакінулі аб сабе практычна ніякага следу.

Багата беларусаў уцякло ў Францыю пасля паўстання 1831 года. Тады нямала нашае шляхты затрымалася ў Парыжы. Сярод іх быў нават паэт Аляксандр Рыпінскі, які чытаў лекцыі па беларусістыцы і выдаў іх асобнаю кніжкай. Гэтая хваля эміграцыі характарызавалася моцнай спаланізаванасцю і таму хутка зацерлася ў шматлікай польскай грамадзе.

Досыць вялікая колькасць нашых суайчыннікаў прыехала працаваць у Францыю з Заходняй Беларусі пасля 1925 года. Менавіта ў гэты час пачалася руплівая праца па стварэнні першай беларускай арганізацыі, і ў 1931-м было афіцыйна зарэгістравана Аб'яднанне Беларусаў Францыі «Хаўрус». Падчас другой сусветнай вайны і нямецкай акупацыі ўсе суполкі, у тым ліку і беларуская, былі ліквідаваны, але пасля вызвалення дзейнасць «Хаўруса» зноў аднавілася. У той час наша дыяспара ў Францыі значна павялічылася і складала некалькі тысяч чалавек /больш 200 знайшлі прытулак у Парыжы і ў ваколіцах/. Усё мацнейшай рабілася патрэба іх юрыдычнай абароны. Гэтыя функцыі паспяхова выконвалі беларуская секцыя Французскага Хрысціянства Сіндыката Работнікаў, якім кіраваў інжынер Рыдлеўскі, «Хаўрус», Беларускае Каталіцкае душпастырства і яго рэктар — легендарная фігура ў гісторыі эміграцыі ўвогуле і французскай у прыватнасці айцец Гарошка. У многім дзякуючы ім, нягледзячы на шматлікія цяжкасці, усе нашы суайчыннікі знаходзілі працу, жыллё, мелі магчымасць атрымаць добрую адукацыю.

Хацелася б асабліва вызначыць велізарную ролю ў гэтай справе айца Гарошкі. Гэты надзвычай сумленны, адукаваны, цалкам адданы Богу і фанатычна ўлюбёны ў Беларусь чалавек вывеў у людзі не адзін дзесятак нашых суродзічаў.

Успамінае Міхась Навумовіч, прэзідэнт «Хаўруса», вядомы ў Парыжы мастак і скульптар:

— Многія з пасляваеннага пакалення беларускай эміграцыі могуць лічыць сябе дзецьмі айца Льва Гарошкі. Больш чым за трыццаць год свайго знаходжання на пасадзе рэктара Беларускага душпастырства ён зрабіў столькі, колькі здолелі б ну, можа, некалькі дзесяткаў чалавек! Акрамя рэлігійных спраў, ён дзень і ноч займаўся праблемамі дыяспары. Дзякуючы перш за ўсё яго намаганням, беларускія студэнты вучыліся і атрымоўвалі добрую грашовую падтрымку ва універсітэтах Францыі, Бельгіі, Іспаніі. Мы, маладыя, проста здзіўляліся апантанасці, працавітасці і добрай настойлівасці гэтага чалавека! Прыпамінаю такі выпадак. У 52-м годзе айцец Гарошка выехаў у Мадрыд, каб дамагчыся стыпендый для нашых юнакоў і дзяўчат. Вынік візіту быў такі — атрымана 5 стыпендый, нават больш, чым аказалася кандыдатаў на вучобу!.. Многія вядомыя навукоўцы, пісьменнікі, бізнесмены — эліта беларускага замежжа — пачыналі свой шлях на чужыне са сціплай заявы на імя рэктара з просьбай дапамагчы паступіць на вучобу...

Калі амерыканскія дабрачынныя арганізацыі сталі раздаваць эмігрантам гуманітарную дапамогу — адзенне, харчы і г.д., яна размяркоўвалася праз душпастырства. Для многіх маіх равеснікаў, хто ў тыя халодныя і галодныя часы купляў зямлю, будаваў дамы, гэтая помач з'яўлялася адной з галоўных крыніц існавання...

Горкі хлеб на чужыне, але такая ўжо натура беларуса, што ён хутка прыжываецца і ў Сібіры, і ў Амерыцы, і ў Аўстраліі. Пачалі пускаць карані нашы суродзічы і ў Францыі. Працавалі, будаваліся, нараджалі дзяцей. Далёкай і недасягальнай зоркай свяціла для іх родная Бацькаўшчына, дапамагаючы вытрымаць, калі гэта, здавалася, было ўжо немагчыма. Доўгія гады французскія беларусы, што тыя мурашкі, папаўнялі алтар яе незалежнасці. На грамадскіх пачатках і ў большасці на ўласныя грошы выдавалі часопісы «Божым шляхам», «Паведамленні», «Камунікаты». Стараліся данесці тамашняй грамадскасці як мага больш інфармацыі аб Беларусі. Гэта асобная гісторыя сапраўднай барацьбы — і цікавая, і трагічная. Вось толькі адзін маленькі яе штрышок. У чэрвені 1955 года апеку над уцекачамі ў Францыі пераняў спецыяльны «Офіс» для эмігрантаў пры міністэрстве замежных спраў, кіраўніцтва якога, чамусьці, пачало варожа ставіцца да беларускай дыяспары. Яе прадстаўнікам адмаўлялі ў выдачы даведак аб беларускай нацыянальнасці. Беларускае душпастырства і «Хаўрус» актыўна выступілі супраць дыскрымінацыі і дайшлі ажно да віцэ-прэзідэнта сената! У выніку ўжо ў лістападзе ўсе іх прэтэнзіі былі задаволены.

Успамінае Міхась Навумовіч:

Наша эмігранцкае жыццё ніколі не было лёгкім і не так фінансава, як маральна. Ранейшыя ўлады Францыі, напрыклад, прэзідэнт дэ Голь, падтрымлівалі добрыя адносіны з Масквою і, калі з візітам у Парыж прыязджала савецкае кіраўніцтва, то амаль усіх эмігрантаў — беларусаў, украінцаў, грузінаў, каб пазбегнуць дэманстрацый пратэсту і пацвердзіць лаяльнасць вялікаму суседу, проста вывозілі «на адпачынак» на Корсіку. Многія баяліся, што аднойчы такім чынам іх могуць «выпадкова» высадзіць і на Калыме... Таму з цягам часу большая частка французскіх беларусаў выехала за акіян — у Амерыку і Канаду. Засталося ж нас тут зусім небагата...

Сумна, пасля вайны нашых суродзічаў у Францыі налічвалася некалькі тысяч. Хто з'ехаў у пошуках лепшай долі ў іншыя краіны, а хто, вечная ім памяць, адышоў на той свет. Зараз іх тут жыве вельмі мала — чалавек дзесяць. Фактычна — дзве сям'і: Міхася Навумовіча і ягонага намесніка па «Хаўрусу» Лявона Шыманца і, дарэчы, цяпер дырэктара энергетычнага цэнтра Еўрапейскага Супольніцтва ў Мінску. Яны трымаюцца вельмі дружна і як могуць дапамагаюць роднай старонцы. Збіраюць сродкі на Чарнобыль, арганізуюць дастаўку гуманітарнай дапамогі, лекаў, прыцягваюць на Беларусь французскі капітал. Але ж ужо і ўзрост, і сілы не тыя. Іх жа дзеці, большасць з каторых, дарэчы, ведае беларускую мову, гісторыю, традыцыі, заняты сваімі справамі і праблемамі, якіх мноства. Хутчэй за ўсё яны, мабыць, ужо французы...

А час ідзе і ён няўмольны... І там, у Парыжы, ва ўтульнай кватэры на Гравіе, неяк падумалася: яшчэ дзесятак-другі гадоў — і ўсё... Гэта багацце — велізарны пласт нашай трагічнай гісторыі можа знікнуць, прапасці, адысці ў нябыт... Зрабілася непамысна! Якім будзе лёс гэтых кніг, рукапісаў, мемуараў, лістоў, падшывак газет, часопісаў, слоўнікаў, асабістых спраў французскіх беларусаў, фантастычна багатага архіва эміграцыі, што займае некалькі пакояў у доме Лявона Шыманца? Лістаю пажоўклыя старонкі. Антон Адамовіч, Вольга Багдановіч, Вацлаў Грыгаровіч, Леанід Норык і дзесяткі другіх. Дзе яны зараз? Мала хто ведае, калі ведае ўвогуле...

Давайце глянем на праблему шырэй. Галоўнае пытанне — як гэту ўсю спадчыну, што знаходзіцца зараз не толькі ў Францыі, а і ў Германіі, Бразіліі, Аргенціне, Новай Зеландыі і іншых краінах, куды лёс закінуў беларусаў, захаваць?

Вядома, што сёння ў рэспубліцы паасобку падтрымліваюць цесныя кантакты з эміграцыяй мноства арганізацый — Міністэрства замежных спраў, Міністэрства культуры, «Бацькаўшчына», Скарынаўскі цэнтр, Акадэмія навук, БНФ, Нацыянальная бібліятэка і цэлы шэраг іншых. Але, на жаль, праца гэта абсалютна не скаардынавана і ў большасці сваёй ідзе на грамадскіх пачатках. Галоўная прычына, вядома ж, у адсутнасці зацікаўленасці з боку дзяржавы. Шкада, што яе няма, бо менавіта зараз, ПАКУЛЬ ЖЫВЕ ЯШЧЭ ПЕРШАЕ ПАКАЛЕННЕ ЭМІГРАЦЫІ, жыве, цепліцца шанц вярнуць на Бацькаўшчыну духоўнае багацце замежжа з тых хаця б краін, дзе яно можа ў самым хуткім часе знікнуць і паціху ўжо знікае.

Думаецца, даўно наспела неабходнасць пачаць працу па стварэнні музея /альбо хаця б архіва/ дыяспары ў рэспубліцы, куды б паціху сцякаліся б матэрыялы. Магчыма, патрэбен нават камітэт па справах эміграцыі, каторы ў ліку іншых НА ДЗЯРЖАЎНЫМ УЗРОЎНІ займаўся б і праблемамі каардынацыі працы па захаванні яе спадчыны...

А пакуль пытанне застаецца адкрытым. Калі ім не заняцца сёння, то літаральна ўжо заўтра мы рызыкуем згубіць цэлы пласт нашай гісторыі, літаратуры, культуры — кавалачак саміх сябе, сваёй нацыянальнай свядомасці і моцы.

Згубім, а пасля апамятаемся, пачнём збіраць па кропельцы па ўсім свеце — купляць на аўкцыёнах, выпрошваць і ў рэшце рэшт зразумеем, што многага не ўдасца ўжо знайсці ніколі...

А вось гэтага гісторыя беларусам не даруе!

**Вацлаў БАГДАНОВІЧ**

Тэлебачанне

# А ВАРТА — І МАСТАЦКІ...

28 чэрвеня леташняга года, на пяцідзесятыя ўгодкі з дня трагічнай смерці Янкі Купалы, камісія па культуры БНФ і Літаратурны музей Янкі Купалы ладзілі жалобную грамадскую акцыю. Раніцою ў касцёлах і цэрквах служылі імшу. Удзень ля помніка Купалу збіраліся людзі, выступаў Васіль Быкаў. На Вайсковых могілках адпяваў нябожчыка ксёндз Міхал Сапель...

Гэтыя падзеі ажылі ў грамадскай свядомасці праз год, 28 чэрвеня 1993 года, калі БТ падало прэм'еру фільма рэжысёра У. Бокуна «Імша па Купалу» /аператары С. Фрыдлянд і Ю. Гарулёў, аўтары сцэнарыя Т. Процька і В. Скалабан/. Ужо спецыяльна для фільма даздымалі зімовыя Акопы, інтэрв'ю з Васілём Быкавым, спатканне з Ядзвігай Дзяўго, стрыечнай сястрой песняра. Купалавы вершы за кадрам чытаў сам рэжысёр Бокун.

Відавочна, што «Імша па Купалу», эфектна знятая і адметна пададзеная, па-свойму спрацуе на запаўненне нашай безнагляднай, шмат у чым па-дзікунску сфармаванай інфармацыйнай прасторы. Пакуль тое, пра што распавёў фільм, не адаб'ецца ў так званай масавай свядомасці, не зробіцца «інфармацыяй для роздуму», цяжка меркаваць пра культурны ўзровень нацыі. Гэта ж пацвердзілі званкі ў студыю пасля прагляду ў тры вечары запар трох фільмаў рэжысёра У. Бокуна колькі часу таму. Фільмаў — «Ніколі я не паміраў» /аўтары сцэнарыя Г. Колас, Т. Процька, В. Скалабан/, «Справа Ігнатоўскага» /адпаведна — А. Кароль, В. Скалабан, М. Токараў/, «Без эпітафіі» /гэтаксама — В. Скалабан, Э. Ялугін/. Гледачы то дзякавалі, то называлі фільмы лухтою, то абураліся, чаму пра падобнае расказана толькі цяпер, і ўсе міжволі сведчылі, што нават простае канстатаванне факта тым ці іншым выданнем /а шмат з ужытага ў фільмах у свой час праходзіла праз «ЛіМ»/, робіцца агульнадаступным ды агульнаўспрынятым толькі пасля многакратнага паўтору. Таму ўразіла дасціпнасцю меркаванне аднаго з гледачоў, пра якое расказваў гісторык Віталь Скалабан: маўляў, паводле ўсяго гістарычнага матэрыялу варта неадкладна зняць шматсерыйны тэлефільм. Натуральна, мастацкі. З мноствам дзейных асобаў, падрабязнасцямі з іхняга жыцця, крыху замаруджаным тэмпарытмам дзеяння. Фільм, які мусіў бы, не дужа супярэчачы фактам, падаваць мінуўшчыну па-мастацку.

Слушна?

**Ж. Л.**

# ЛЯ ВЫТОКАЎ НЁМАНА

## БІБЛІЯТЭЧНЫЯ СПРАВЫ УЗДЗЕНШЧЫНЫ

Штуршком да гэтых нататак паслужыў удзел нашай Уздзенскай ЦБС у рэспубліканскім конкурсе «Бібліятэка — асяродак нацыянальнай культуры», які праводзіцца Рэспубліканскім фондам культуры. Першы тур яго прайшоў летась, і хачу адзначыць, што ў ходзе конкурсу мы адчулі вялікую зацікаўленасць фонду культуры ў развіцці бібліятэчнай справы рэспублікі, адчулі, што нас, бібліятэкараў, сёння ўспрымаюць як кваліфікаваных, актыўных удзельнікаў у справе адраджэння беларушчыны.

Калі зыходзіць ад прымаўкі «Усяму пачатак — слова», то і мы ў сваёй рабоце па адраджэнні спадчыны пачыналі ад слова — роднага беларускага слова. Яшчэ ў 1990 годзе ў ЦБС была распрацавана праграма дзейнасці бібліятэк нашага раёна па рэалізацыі Закона аб мовах у Беларусі. У адпаведнасці з ёю ва ўсіх бібліятэках абноўлена эстэтычнае асяродзе з выкарыстаннем элементаў нацыянальнага каларыту, пераведзена справаводства на родную мову. Стала яна звыклай пры абслугоўванні чытачоў, правядзенні бібліятэчных свят, у час пасяджэнняў аматарскіх аб'яднанняў і клубаў па інтарэсах, на вытворчых нарадах бібліятэкараў, семінарах.

Безумоўна, сама па сабе мова не загучала б у нашым асяроддзі: давялося нямала зрабіць. Варта адзначыць конкурс-агляд краязнаўчых куткоў, конкурс на лепшы бібліяграфічны агляд краязнаўчай тэматыкі, экзамен-залік па краязнаўстве кожнай бібліятэкі. Усе гэтыя мерапрыемствы праводзіліся з мэтай актывізаваць краязнаўчы рух у раёне, прыцягнуць да яго ўвагу грамадскасці, мясцовых улад, абудзіць у людзей цікавасць да гісторыі свайго краю.

Інфармаванне аб паступленні новых даведнікаў, слоўнікаў, практычная дапамога ў пераводзе справаводства, службовых і асабістых дакументаў на родную мову, падрыхтоўка сцэнарыяў агеньчыкаў і іншых урачыстасцей для прадпрыемстваў, устаноў — усё гэта таксама бяруць на сябе нашы бібліятэкі. Шмат увагі ўдзяляюць яны стану фондаў беларускай і мастацкай літаратуры: няма недахопу ў творах як класікаў, так і сучасных празаікаў, драматургаў, паэтаў. Каб жа яшчэ мы мелі людскую інфармацыю пра кнігі да іх выхаду! На жаль: анатацыі ў выдавецкіх планах хварэюць на агульныя словы і падобны між сабой, як блізняты.

Складана з галіновай літаратурай. Калі яшчэ раздзелы мовазнаўства і літаратуразнаўства больш-менш адпавядаюць запытам чытачоў, то папулярнай літаратуры па гісторыі Беларусі, яе геаграфіі, прыродзе, аб грамадскім жыцці і нават па пытаннях культуры не хапае. Захапіліся нашы бібліятэкары, напрыклад, работай з народнымі ўмельцамі: вядуцца картатэкі, ладзяцца выставы, праводзяцца святы рамёстваў. Але сваю асноўную ролю — забяспечыць іх кнігай — бібліятэкары не могуць выканаць, бо кніг, практычных дапаможнікаў па дэкаратыўна-прыкладным мастацтве вельмі мала, іх можна пералічыць па пальцах, ды і тым дасведчанымі ў сваёй справе людзьмі не заўсёды даецца высокая адзнака.

Шмат увагі бібліятэкары ўдзяляюць узбагачэнню краязнаўчых фондаў. Збіраюцца творы пісьменнікаў-землякоў /а іх на Уздзеншчыне нямала/, літаратура аб іх жыцці і дзейнасці, вядуцца пошукі цікавых людзей — сведкаў важных гістарычных і грамадскіх падзей, гутаркі з імі запісваюцца.

Змястоўны краязнаўчы куток створаны ў Забалоцкай сельскай бібліятэцы, дзе працуе Дубовік Раіса Хведараўна, сапраўдны энтузіяст сваёй справы. Ведаюць у раёне і аматарскае аб'яднанне «Забалоцкія вячоркі», якое спалучае ў сабе формы бібліятэчнай і клубнай работы.

Адраджэнню нацыянальнай спадчыны актыўна садзейнічаюць аматарскія аб'яднанні і клубы па інтарэсах. Так, у Кухціцкай сельскай бібліятэцы працуе клуб забытых рамёстваў «Сузор'е». Сюды прыходзяць, каб даведацца пра старажытныя рамёствы і пазнаёміцца з людзьмі, якія і сёння імі валодаюць ды жадаюць перадаць сваё майстэрства маладзейшым.

Не пустуе выставачная зала пры Лошанскай сельскай бібліятэцы. У аснову яе экспазіцыі леглі мастацкія палотны ўраджэнца гэтых мясцін жывапісца І.Салаўя, які яшчэ пры жыцці падараваў бібліятэцы некалькі сваіх карцін. Астатнія ж апынуліся тут дзякуючы яго сыну Рыгору Іванавічу, мясцоваму ляснічаму і яго жонцы Людміле Васільеўне, што працуе ў бібліятэцы. Людміла Васільеўна — апантаны ў сваёй справе чалавек. За што ні возьмецца, усё ў яе ладзіцца, яна ўмее захапіць, зацікавіць людзей. Так атрымалася і з выставачнай залай.

Пры Цэнтральнай раённай бібліятэцы імя П.Труса вось ужо шосты год працуе клуб «Бацькаўшчына». Яго работа ажыццяўляецца па некалькіх напрамках: прапаганда беларускай літаратуры і мовы, пошукавая краязнаўчая работа, папулярызацыя творчасці мясцовых пісьменнікаў, мастакоў, народных умельцаў, удзел у правядзенні гарадскіх і раённых свят.

Надоўга запомнілі уздзенцы свята кнігі ў гонар першадрукара Ф.Скарыны; літаратурна-музычны вечар «Тут зямля спявае» па творчасці заслужанага дзеяча культуры Беларусі, самадзейнага кампазітара, нашага земляка П.Шыдлоўскага; свята вуліцы А.Бялевіча, прысвечанае 75-гадоваму юбілею паэта; літаратурны вечар «Крыніц жыватворных вытокі» да 70-годдзя з дня нараджэння А.Махнача; цыкл вечароў «Купала і Колас, вы нас гадавалі» — да 110-годдзя класікаў беларускай літаратуры; серыя выставак мясцовых мастакоў і народных умельцаў пад агульнай назвай «Рук залатых зямныя цуды». Гэта не поўны пералік асветніцкай дзейнасці членаў клуба «Бацькаўшчына», бо на яго рахунку і цікавыя артыкулы ў раённай газеце, і ўдзел у эстэтычным афармленні бібліятэк, і рух за вяртанне гістарычных назваў населеным пунктам.

Мабыць, тым, хто ведае Уздзеншчыну, яе багатую літаратурную спадчыну, цікава ведаць, а якое ж сёння тут літаратурнае асяроддзе. Даведацца пра гэта даволі проста: завітайце на пасяджэнне літаратурнага аб'яднання «Нёманец», якое працуе пры рэдакцыі раённай газеты «Чырвоная зорка» і цэнтральнай раённай бібліятэцы. Аб'ядноўвае яно людзей розных узростаў, розных прафесій, розных поглядаў на жыццё, але ва ўсіх іх ёсць адно — літаратурныя здольнасці і жаданне словам будзіць у людзей добрыя, высокія пачуцці. Аб плённай працы літаратурнага аб'яднання сведчыць штомесячная літаратурная старонка ў раённай газеце /кіраўнік аб'яднання — намеснік рэдактара райгазеты В.Сабалеўскі/. Сёлета, можна сказаць, збылася мара нашых мясцовых паэтаў: раённай бібліятэкай пры падтрымцы мясцовых улад выдадзены зборнік вершаў «Зямля мая, край маляўнічы». Маленькая, сціплая кніжачка, а колькі радасці яна прынесла і самім аўтарам і ўсім аматарам паэзіі, як з яе выхадам ажывілася літаратурнае жыццё ў раёне!

Хацелася б яшчэ сказаць, што нямала мерапрыемстваў прысвячаецца нашай славутай рацэ Нёман, якая бярэ свой выток на Уздзеншчыне. Кажуць, рэкі ўплываюць на лёсы людзей. І сапраўды гэта, мабыць, так. Нездарма ж ні адзін паэт-зямляк не абмінуў паэтычным радком гэтую раку, нездарма ўсё Панямонне квітнее таленавітымі людзьмі. Даволі прыгадаць Я.Коласа, Я.Нёманскага, У.Караткевіча...

Вось ужо некалькі гадоў у нашым калектыве жыве задума стварыць рух бібліятэкараў Панямоння. Колькі цікавых спраў можна зрабіць, аб'яднаўшы адзінай ідэяй культработнікаў вялікага рэгіёна рэспублікі. Такі рух, безумоўна, садзейнічаў бы адраджэнню нацыянальнай спадчыны.

**К.РОГАВА,**
**дырэктар**
**Уздзенскай ЦБС**

# ДЫЯЛОГІ З БОГАМ

*(Пачатак на стар. 5)*

не захацеў пашкадаваць аднойчы Адама і Еву. Больш за тое, Твой праклён зрабіўся генетычным наканаваннем усяго людства, і мы, колькі нас было, ёсць і будзе, павінны апраўдвацца за той адзіны грэх першае людзіны.

Нават самы жорсткі з нас, Сталін, любіў казаць: дзеці за бацькоў не адказваюць.

Мне і сёння, праз тысячы год, бывае балюча, калі я ўспомню, як Ты абышоўся з Адамам і Евай. Па сутнасці, Ты выкляў дзяцей /бо розумам яны і былі дзецьмі/ за іх дзіцячую цікаўнасць. Выкляў і выгнаў у сцюдзёную завіруху жыцця.

Ведаеш, у мяне таксама ёсць малыя. Цяпер яны падраслі і трохі пачалі слухацца бацьку. А раней, што ні кажы, усё наадварот зробяць. І калі б я, сыходзячы з дому, паклаў на відавоку крамяны яблык, хай сабе побач з папругай, то, мяркую, яблык не доўга б там улежаў.

Што тут казаць, было — так дапякуць, што лупцанеш пад гарачую руку. Але ж, натуральна, мне і да галавы не прыходзіла выкінуць іх на вуліцу і замкнуць дзверы, каб яны лямантавалі там у снегавой завеі. Як не прыходзіць гэта ў галаву ніводнаму нармальнаму чалавеку. А той, хто так зробіць, лічыцца сярод людзей нават не злачынцам, а вар'ятам.

Злачынца можа пакрыўдзіць, згвалтаваць, забіць чужое дзіця, а са свайго здзекуюцца толькі вар'яты.

Шкада, што я не псіхааналітык.

Толькі і без адмысловых ведаў бачна пэўная паталагічнасць Твайго духоўнага стану. Чаго вартае адно выпрабаванне Аўраама, а як Ты абыходзіўся з Ісусам?

Нематываванасць Тваіх паводзін, жорсткасць, садызм, а ў выпадку з Ісусам /паколькі Ён — гэта Ты/ — мазахізм, даюць усе падставы залічыць Цябе да памысліва-агрэсіўных істот, небяспечных для чалавечае супольнасці.

З гэтага вынікае пытанне: х т о нас будзе судзіць у гадзіну Твайго Другога Прышэсця?

— Ты нас будзеш судзіць?!

Ты, які выгнаў дзяцей у сцюжу.

Ты, які патапіў амаль усё людства, усё жывое з немаўлятамі і ягнятамі сусветным патопам.

Ты, які ўшчэнт пабурыў Садом і Гамору з кожным вінаватым і кожным бязвінным.

Ты, які прапанаваў Аўрааму забіць свайго адзінага, любага сына.

Ты, які прамаўчаў у адказ на адчайны лямант Ісуса: «Ілі, ілі! лена савахвані?»

Ты, які...

Зрэшты, каб пералічыць усё, давялося б ушчэнт высечы на паперу лясы і выскубсці чарот да апошняе чарацінкі.

Пэўна, трэба было б не чакаць Другога Прышэсця, а даслаць Табе позву.

Каб толькі ведаць куды?..

Здаецца, Стэндаль казаў: Бога апраўдвае адно тое, што яго няма.

Ты — не хрысціянін.

Калі тут гаворыцца, што Ты — не хрысціянін, што ад хрысціянскае маралі Ты далей за найвялікшага з нявернікаў, то гэта тая праўда, большае за якую амаль не бывае...

— А Ніневія?

Так, Ты пашкадаваў Ніневію і сто дваццаць тысяч яе жыхароў, Ты ўратаваў Ноя з сынамі, вярнуў Іову /пасля нялюдскіх здзекаў/ удвая багацця і здароўя... Можна згадаць яшчэ сёе-тое, але колькі ўсяго — хопіць пальцамі загарнуць. І кожная з тых дабрачыннасцей праўдзілася не літасцю сэрца, а прыхамаццю сваволі ці ідэалагічным разлікам. Ты ніколі не ведаў дабрыні як нязмушанага памкнення да шкадобы грэшнага чалавека. І таму нічым іншым, як татальным насланнём, нельга растлумачыць атаясамліванне Цябе з хрысціянствам...

за выняткам таго выпадку, калі Ты аднойчы пражыў чалавечае жыццё чалавекам.

Той момант, з якога боку ні глядзі — надзвычай цікавы. І аднолькава загадкавы. Хаця, мяркую, не аднаму мне жадалася б ведаць хіба адно:

— Што папраўдзе ссунула Цябе з нябёсаў на зямлю?

Кажуць, Ты прыйшоў да нас, каб надыктаваць новы запавет да лепшага жыцця. Магчыма. Але ў папярэдняй сітуацыі — з Майсеем — Ты абышоўся без антрапаморфных хітрыкаў /хаця і не ўнікнуў аргументацыі цудам/.

Кажуць, Ты прыйшоў да нас, каб на асабістым прыкладзе выкласці кодэкс паводзін чалавека гуманнага. Магчыма. Але Ты мог гэта зрабіць не калечачы падэшвы аб жарству. Як было ў цябе з Іовам.

Кажуць, Ты прыйшоў да нас, каб прыняць на сябе пакуты за грахі нашыя. Магчыма, і — дзякуй. Але за чые грахі гаравалі сціжмы Тваіх бязвінных папярэднікаў, што гінулі збітыя, ссечаныя, на крыжах, вогнішчах, у лютым холадзе і голадзе, на каламутным ветры і пад млявым сонцам?

Кажуць... Магчыма...

А мне чамусьці здаецца, што Ты прыйшоў пабыць разам з намі, каб хоць нейкім імгненнем свайго існавання прылучыцца да той гаротнай долі, якую Ты нам і наканаваў.

Іншыя запярэчаць — гэта зусім не так, але мне хочацца верыць, што аднойчы Ты адчуў сорам. Пякельны, невыносны сорам за тое, што вытварыў з Адамам і Евай, дапатопнай цывілізацыяй, Аўраамам, Іовам, месцічамі Садома і Гаморы... намі ўсімі, якія былі, ёсць і будуць.

Табе было нялёгка вырашыць, што можна зрабіць, каб хоць неяк апраўдацца перад чалавекам за ўсё ліха, да якога Ты прычыніўся.

Ты яшчэ многае мог, але нават Табе было не па сілах выцерці тыя слёзы з вачэй, што ўжо павысыхалі самі...

Верагодна, былі іншыя варыянты, аднак Ты спыніўся на гэтым: пражыць чалавекам ад пачатку да канца, нічога не праміналочы — ні задухі жаночага ўлоння, ні пякучае волі крыжа.

І вось аднойчы Анёл Гасподні паведаміў Іосіфу:

— Іосіфе, сыне Давідаў! Не бойся прыняць Марыю, жонку Тваю, бо зачатае ў Ёй ёсць ад Духа Святога.

Неўзабаве над Віфлеемам запалілася зорка, а праз нейкі час у Гефсіманіі праспяваў певень...

Так, пасля Галгофы ніхто не скажа, што Ты пакутаваў меней за каго з нас.

Ці лягчэй нам ад гэтага? Але Табе, магчыма, палегчала. Ты не толькі ўсчыніў нам ліха. Ты і сам трываў і адольваў яго. І мы на гэта ніколі не забудземся. У той а п о ш н і дзень, калі вострае лязо прысуду будзе няўпэўнена вагацца над Табой, шукаючы справядлівага апірышча, нехта з нас успомніць словы пра «семіжды сем», якія Ты вымавіў, пэўна, зважаючы найперш на Сябе.

Ты — белы аркуш паперы, на якім я пішу гэтыя словы.

Але з чаго тады цяжар нябёсаў і млосна на сэрцы?

***На гэтых могілках у мястэчку Бабоўня Слуцкага павета ёсць, размешчаныя амаль побач, дзве магілы. На адной добра захаваўся надмагільны камень з белага пясчаніку, на якім можна прачытаць час смерці спачыўшай 19-гадовай дзяўчыны — 1889 год. Другая магіла — салдацкая, часоў апошняй вайны. 9 мая 1949 года яе агарадзілі, паставілі драўляны помнік, правялі мітынг у гонар Перамогі. Сёння могілкі ў поўным заняпадзе. Над бэзам, які разросся па ўсёй тэрыторыі, узняліся дрэвы. Агароджа на магіле салдат згніла. Ужо мала хто з мястэчкоўцаў помніць, як мясцовыя кіраўнікі адзін перад адным кляліся ў дзень Перамогі вечна помніць безыменных салдат.***

# СВЯТАТАЦТВА

## РОЗДУМ НАД РАСКАПАНАЙ МАГІЛАЙ

Летам 1990 года на могілках адбылося нешта такое, што ўраз усхвалявала ўсіх жыхароў Бабоўні. Магіла пахаванай у мінулым стагоддзі дзяўчыны аказалася раскапанай — няйначай шукалі каштоўнасці. Выпадак у навакольных мясцінах мала сказаць — рэдкі, пра нешта падобнае ніхто ніколі не чуў. Могілкі гэтыя, дарэчы, даволі багатыя. Над кожнай магілай — помнік. У вайну частку іх вывезлі ў навакольныя вёскі на жорны, *падмуркі. Магіл, аднак, ніхто не раскопваў.* Нават багатых магіл святароў, пахаваных вакол касцёла. Нешта людзей стрымлівала цэлых сто год. Кажуць, вінаваты няпэўны час, у які мы жывём зараз. Але ж мы столькі дзесяцігоддзяў, здаецца, выхоўвалі сумленных людзей. Ва ўсякім разе так лічылася. Узнікае пытанне: дзе карані такога святатацтва?

Ніхто, пэўна, не стане аспрэчваць, што могілкі — частка нашай гісторыі і культуры. Дарэчы, у мястэчку Бабоўня іх аж 9. Трох самых старажытных ужо не існуе: адны раскапалі дзеля жвіру і спрамлення дарогі, на другіх пабудавалі стайню, а на месцы касцельных стаіць магазін і выкапаны калодзеж. Зусім занядбаны каталіцкія і яўрэйскія могілкі. Праўда, на вайсковых яшчэ стаіць помнік і зроблена агароджа...

Гісторыкі лічаць, што першапачаткова на нашай тэрыторыі жылі балты. Славяне прыйшлі сюды недзе ў шостым стагоддзі. У эпоху палеаліту на гэтай тэрыторыі нябожчыкаў хавалі проста на стаянках. Славяне ж гаршчок з попелам памерлага закопвалі пад парогам. Затым доўгі час памерлых хавалі ў курганах-жальніках, невялікіх пагорках, якія насыпалі над магілай.

У канцы мінулага стагоддзя гісторык Г.Татур у адной Мінскай губерні налічыў каля 60000 такіх курганоў і 1200 гарадскіх замчышчаў. Дарэчы, вядомы маскоўскі гісторык В.Сядоў лічыць, што курганы на Беларусі і Смаленшчыне адрозніваюцца ад Кіеўскіх, Ноўгарадскіх, Валынскіх і польскіх тым, што тут з нябожчыкамі пакідалі розныя ўпрыгожванні — каралі, культавыя змеі, грыўні на шыю. Такія самыя прадметы археолагі знаходзяць у курганах Летувы і Латвіі.

Сёння існуе закон аб зберажэнні помнікаў, у тым ліку і курганоў. Але хто забароніць трактарысту на магутным «Кіраўцы» патрошку адхопліваць кожны год ад гэтага кургана, пакуль ён не зраўняецца з полем? Зараз яшчэ дзейнічае саюзны закон, які забараняе самачынныя раскопкі курганоў. Наш Вярхоўны Савет неўзабаве павінен прыняць свой аналагічны закон. Нягледзячы на гэта, курганоў у нас застаецца ўсё менш і менш. На ўсю рэспубліку іх цяпер можна налічыць толькі каля шасці тысяч. Пахаванне ў іх рабілі не па-хрысціянску. Хрысціянскія святары нябожчыкаў загадвалі хаваць каля цэркваў і касцёлаў, каб усё было на вачах людзей. Аднак сам абрад пахавання і памінак з галашэннем, трызнай, багатым сталом, радаўніцай, дзядамі заставаўся ранейшым, дахрысціянскім.

З цягам часу могілкі былі дыферэнцыраваны на каталіцкія, праваслаўныя, магаметанскія /татарскія/, іудзейскія /яўрэйскія/. Кожная рэлігія мела свой адметны абрад.

На XVIII стагоддзе прыпадае крызіс сістэмы пахавання. Каля храмаў не стала хапаць зямлі. Акрамя гарадскіх ці манастырскіх з'явіліся вайсковыя, турэмныя і інфекцыйныя могілкі за горадам. Тут хавалі ахвяр эпідэмій, самазабойцаў, злачынцаў, пакараных смерцю, валацуг і артыстаў. Багацейшыя людзі хацелі быць пахаванымі каля храма ці замураванымі ў яго сценах.

Першая спроба вынесці могілкі за горад была зроблена ў Варшаве ў 1745 годзе. Але з гэтага нічога не выйшла. Толькі ў 1770 годзе князю Любамірскаму ўдалося вынесці могілкі за Варшаву.

Праблема гэтая была агульнаеўрапейскай. Вядома, што ў 1763 годзе справай могілак займаўся парыжскі муніцыпалітэт. Там *таксама не ўсё ішло гладка, знакамітыя могілкі* Пер-Лашэз арганізаваны толькі ў 1803 годзе. На гэты час прыпадае арганізацыя вядомых некропаляў і ў нашых суседзяў: Лычакоўскага ў Львове, Павянзкоўскага ў Варшаве, Байкавага ў Кіеве, Ракавіцкага ў Кракаве. У Вільні — нашай былой сталіцы — могілкі Росы вядомы з 1769 года.

У Мінску пакуль што самымі старымі застаюцца Кальварыйскія могілкі. На Залатой Горцы і Пярэспе, на стадыёне «Дынама», каля Палаца спорту намаганнямі нашых гарадскіх улад могілкі збульдозерылі, «как не имеющие исторической ценности».

*Пазней могілкі за горадам арганізавала* Вялікабрытанія, ЗША, Расія. У Расіі, трэба адзначыць, могілкамі займаўся сам цар Пётр І. Вядома, што указам ад 1715 года ён забараніў галашэнні, а з 1823 года — хаваць людзей /акрамя вельмі знатных/ у горадзе.

Паўсюдна на Літве-Беларусі пахаванне за горадам арганізоўвалі ўжо акупацыйныя ўлады пасля далучэння яе да Расіі. К таму часу гэтым займалася праваслаўная царква. Яна лічылася адзінай дзяржаўнай рэлігіяй, адным з аддзелаў бюракратычнага апарату. Царкоўнікі ад дзяржавы атрымлівалі адукацыю, даволі высокую аплату і абарону. За «богохульство» ў Расіі каралі нават смерцю. *Рэлігія ўкаранялася сілай.* Руская праваслаўная царква стала самай коснай структурай імперыі. У Крамлі, а потым у Пецярбурзе збіраліся каштоўныя рэчы, аздобленыя золатам і срэбрам іконы. З эканамічнага абароту бедная дзяржава забіраліся вялікія сумы. У богаслужэнні выкарыстоўвалася незразумелая стараславянская мова, святары пільна сачылі за выкананнем абрадаў, дралі грошы за хрышчэнне, шлюб, хаўтуры. Асаблівым клопатам была «благонадежность» вернікаў. Рускі філосаф Пётр Чаадаеў пісаў у адным з філасофскіх пісем яшчэ ў 1829 годзе, што царква нясе галоўную адказнасць за безнадзейную адсталасць Расіі. Наш сучаснік А.Салжаніцын таксама лічыць, што гісторыя Расіі была б куды больш гуманнай, каб праваслаўная царква не адмовілася ад незалежнасці. Ад рэлігійнага ўціску людзі з Расіі перасяляліся ў суседнюю Літву. На Гомельшчыне ці Віцебшчыне яшчэ і сёння можна ўбачыць продкі тых стараверваў-уцекачоў.

Пішу пра гэта таму, што, пачынаючы з XIX стагоддзя, праваслаўная рэлігія, як дзяржаўная, пачала дзейнічаць на нашай тэрыторыі. Яна праводзіла дзяржаўную палітыку ў грамадстве, і, вядома, на могілках. Каб пераканацца ў яе ідэйнай накіраванасці, зробім яшчэ невялікі экскурс у мінулае.

Экспансія на адносна слабую Літву ішла з боку Расіі і Польшчы праз рэлігію. Наш памяркоўны народ прыняў герб Пагоню-абарону і уніяцкую рэлігію — сярэдзіну паміж праваслаўем і каталіцызмам. Уніяцкімі рабілі новыя і пераарыентоўваліся існуючыя цэрквы. «Витебская старина» падае, што толькі з 1636 па 1755 гады сталі уніяцкімі 164 праваслаўныя цэрквы і 5 манастыроў. К канцу XVIII стагоддзя пераважная большасць насельніцтва краю было уніяцкім. Пасля акупацыі Літвы уніяцтва пачалі забараняць. Ужо з 1779 года па ўказе Кацярыны II не дазвалялася асобам рымскай і уніяцкай веры перасяляцца жыць у Расію. Далей былі ўказы аб забароне зносін уніятаў з Рымам, «упразднении лишних церквей», ахове праваслаўнай веры ад лацінян, богаслужэнні толькі парасейску і інш. Па ўсёй тэрыторыі Літвы з 1836 года забараняўся будаваць каменныя уніяцкія цэрквы. Нарэшце, у лютым 1839 *года, выйшаў Саборны акт аб злучэнні* уніяцкай і праваслаўнай цэркваў. Быў выбіты ганаровы медаль. Праваслаўе святкавала перамогу.

Трэба яшчэ адзначыць, што пасля паўстання 1830 года закрылі Віленскі універсітэт. Студэнтаў каго асудзілі, каго перавялі ў Кіеў. У Вільні пакінулі толькі ветэрынарны факультэт. У сістэму адукацыі і кіравання пачалі назначаць толькі расейскіх чыноўнікаў.

Пасля паўстання 1863 года ў кожную школу для нагляду за адукацыяй накіравалі праваслаўнага святара. Настаўнікам значна павялічылі ўтрыманне. Адукацыя павінна была *весціся толькі на рускай мове і рускімі.* Граматных беларусаў высылалі ў глыбінныя расейскія губерні. Аб гэтым прама пішa ў пісьме міністру народнай асветы А.Галавіну «О замене в Северо-Западном крае польских учителей русскими» папячыцель Віленскай акругі князь А.Шырынскі-Шахматаў у 1864 годзе. Генерал Мураўёў-вешальнік «повелел закрыть» шэсць гімназій, якіх, дарэчы, было зусім небагата. Тыя гімназіі, што засталіся, сталі прагімназіямі ці рэальнымі вучылішчамі.

Трэба адзначыць, што ў нашым краі к гэтаму часу інтэлігенцыя карысталася поль*скай мовай. Пачалося гэта з 1696 года, пасля* пастановы канферэнцыі саслоўяў Рэчы Паспалітай, дзе гаварылася: «Усе рашэнні дзяржаўных органаў і судоў павінны састаўляцца на польскай мове». У навучальных і адміністрацыйных установах, цэрквах і касцёлах усе павінны былі карыстацца таксама польскай мовай. Па-беларуску гаварылі толькі сяляне і тыя, хто меў з імі справу — вымушаны былі карыстацца іх мовай. На рубяжы XVII і XVIII стагоддзяў знікла беларуская літаратурная мова. Яна была заменена польскай ці лацінскай. За ўсё XVIII стагоддзе на беларускай мове не было надрукавана ніводнага твора.

У 1840 годзе *Расія скасавала* Статут 1588 года, па якім нашы продкі жылі датуль. Інтэлігенцыю пачалі пераконваць, «что русский язык и русская культура необходимые составляющие нашего духовного мира». Такім чынам, людзі нашага краю апынуліся ва ўладзе праваслаўнай царквы. Да таго часу 80 працэнтаў з іх былі уніятамі, 12 — католікамі і толькі 8 — праваслаўнымі. Цяпер усё змянілася. Папы ўзахлёб гаварылі, што сваё думкі — крыніца ўсялякага няшчасця і немачы, вера ў Бога павінна дамінаваць над розумам. Пасля паўстання 1794, 1830, 1863 гадоў і вайны 1812 года многія памешчыкі былі пазбаўлены маёнткаў і шляхецтва. Край апынуўся ў роспачы і жалобе. Нягледзячы на гэта, мараль у тагачасным грамадстве не прападала. Былі, вядома, такія, што маглі перажаць ці перакасіць адзін у аднаго, але ўжо ўкрасці каня — барані Бог. Пра магілакапальнікаў наогул ніхто не чуў. У людзей былі цвёрдыя маральныя прынцыпы. Тут трэба сказаць добрае слова пра ўсе цэрквы, яны не прапаведавалі людзям нічога несумленнага. Іншая справа, што праваслаўныя святары і рускія настаўнікі рабілі ўсё, каб людзі забыліся на сваіх продкаў, на сваю культуру. Асаблівы клопат — сцерці ў памяці ўсё пра інсургентаў /паўстанцаў/, нават пра іх магілы.

Каму пашанцуе лабачыць карціну І.Сабескага «Безымянная магіла», звярніце ўвагу. Зламаная агароджа, вялізны пахілены крыж, усё парасло травою. Як сімвал надзеі на справядлівасць, над магілай расце дубок. Некалі ўсё было зроблена з густам, але час нічога не шкадуе. Ды і людзі, мусіць, перасталі помніць змагароў за волю. Прапаганда рабіла сваю справу. З уніяцкіх цэркваў зніклі кнігі, дзе былі запісаны ўсе сялянскія радаводы. У 1812 годзе пры рабаванні Нясвіжскага замка ў рукі царкоўнікаў трапіў арыгінал Берасцейскай царкоўнай уніі 1596 года. Па сённяшні дзень невядома, дзе яна знікла. Сучаснікі казалі, што яе недзе замуравалі. Не хочуць міра святыя айцы. Улады як маглі падтрымлівалі царкву — яна дапамагала трымаць свой народ у паслушэнстве, дапамагала ў экспансіі чужых тэрыторый. Як жа ад яе адракацца ці рэфармаваць.

Вернемся, аднак, да нашай тэмы. У Расійскай імперыі могілкі знаходзіліся пад кантролем духавенства. Пахаванне нябожчыкаў не павінна было абыходзіцца без царквы. У мінулым стагоддзі толькі ў рэвалюцыйнай Францыі могілкі перадалі муніцыпалітэту. У нас — кожная рэлігія павінна была мець свае. Планаваць іх можна было ў горадзе за 100 сажняў ад жылля, у сельскай мясцовасці — за 250 сажняў. Законам 1889 года пра зямлю пад могілкі і рэжым на іх павінна клапаціцца Міністэрства ўнутраных спраў. Калі ж гаварыць праўду, дык аб іх ніхто не клапаціўся. Адвядуць зямлю, дачакаюцца, пакуль пампрэ жабрак ці бабыль, пахаваюць, асвецяць і — могілкі гатовы. *Адзінае, што добра рабілі — гэта санітарную* падрыхтоўку тэрыторыі. Іх акантоўвалі глыбокім ровам. Месца абавязкова планавалася на ўзвышшы, добра азеляняласяі. Але стан магіл заўсёды быў варты жалю.

У 1891 годзе беларускі мастак Генрых Вейсенгоф за карціну «Могілкі ў Русаковічах», экспанаваную ў Берліне, атрымаў ганаровую прэмію. Еўропа ўпершыню ўбачыла закінутыя, неабгароджаныя могілкі, з вялікімі драўлянымі крыжамі і старымі каменнямі ад жорнаў замест помнікаў. Смутку дабаўляюць восень з рыжай травою, шэрыя хмары, вароны. Цяпер карціна знаходзіцца ў Познані.

*Такія могілкі былі па ўсім* Паўночна-Заходнім краі — так тады называлі Беларусь. Улады не баяліся дэманстраваць сваю непавагу да падначаленых перад усёй Еўропай. Галоўнае было — буфер перад заходняй дэмакратыяй, перад рэлігійным рэфарматарствам. Для гэтага трэба было забыць, што ў нас некалі была свая дзяржава з самай дэмакратычнай для таго часу канстытуцыяй, са сваёй рэлігіяй — уніяцтвам. Падначаленыя час ад часу падымаліся на паўстанні і пацішу забывалі сваіх продкаў, сваю гісторыю, культуру. Гэта заўважыў яшчэ ў пачатку мінулага стагоддзя А.С.Пушкін: «падение нравственности начинается с забвения предков». Тут *асабліва завіхалася праваслаўная* царква. «Униатов нет и быть не может, есть только православие», — запісана ў тлумачэнні да тагачасных расейскіх законаў. Дарэчы, сённяшнія царкоўнікі на Беларусі ўспрымаюць уніяцтва як «анахронизм, который не имеет ни исторических ни логических прав». Можна дамысліць, што правы мае толькі праваслаўе. Тое, што нашы продкі амаль 250 год маліліся па уніяцкім абрадзе, а праваслаўе для нас — рэлігія акупантаў, ніхто не бярэ пад увагу. Прыемна адзначыць, што павуцінне на памяці ўсё ж пацішу рвецца. У Клецкім раёне каля вёскі Морач нядаўна адноўлены крыж, пастаўлены ў 1937 годзе на месцы бітвы касінераў Каліноўскага з расейскімі казакамі. На ўрачыстасці запалілі 40 свечак — па ліку ахвяр-паўстанцаў. Каб не адраджалася нацыянальная свядомасць, барані Бог, гэтак, як у палякаў, улады гамавалі нашу мову і культуру. Нават у канцы XIX стагоддзя беларускі буквар надрукавалі ў Кракаве — вымушаны былі. Пра беларускую мову і сёння можна пачуць, як пра «наречие Северо-Западного края». Тым больш не паважалі людзей з гэтай мовай у Расійскай імперыі. Але што зробіш? Буфер ёсць буфер. Самае страшнае, што прынёс царызм, — бездухоўнасць. Вядомы гісторык М.Карамзін у «Записке о древней и новой истории России» пісаў: «Везде грабят и кто наказан?» Далей пералічаны злодзеі — чыноўнікі і спосабы рабавання, казнакрадства і хабарніцтва. Дзекабрыст А.Бястужаў гаварыў на допыце: «В казне, в судах, в комиссариатах, у губернаторов, у генерал-губернаторов — везде, где замешан интерес, кто мог, тот грабил, кто не смел, тот крал». Калі на Беларусь прыйшлі расійскія чыноўнікі, яны шчыравалі ад душы. Помніце, у В.Дуніна-Марцінкевіча ў «Пінскай шляхце» — рублі для чыноўніка і капейкі для казны. Царскія чыноўнікі абагачаліся без усякай працы: дзе прымусам, дзе падманам, дзе змовай. Многія перасталі думаць пра пачэсную працу. З гэтага смяяліся, дакладней, прымушалі смяяцца М.Салтыкоў-Шчадрын, М.Гогаль, А.Чэхаў. Але цяга да нажывы смеху не баіцца. Магіл, праўда, яшчэ не раскопвалі.

На сярэдзіну мінулага стагоддзя прыпадае пачатак секулярызацыі — аддзялення інтэлігенцыі ад царквы. Нават А.Пушкін напісаў казку пра скупога недалёкага папа і яго разумнага парабка. Людзі цешыліся. Паспрабаваў бы ён у наш час напісаць негатыўна пра супрацоўніка ідэалогіі, пра

сакратара райкама. Тады гэта ўспрымалася як перадавы погляд, а ў наш зусім нядаўні час упяклі б у псіхіятрычную бальніцу. Секулярызацыяй інтэлігенцыі можна тлумачыць і паражэнне царызму ў 1917 годзе. У першую чаргу, гэта было ідэйнае паражэнне існуючай сістэмы. Больш таго, калі бальшавікі аддзялілі царкву ад дзяржавы і пачалі закрываць і рабаваць храмы, расстрэльваць святароў, праваслаўныя вернікі амаль не аказвалі ім супраціўлення. Нешта падобнае існуе і цяпер. Скажам, забойства святара А.Меня скончылася ціхай кампаніяй у прэсе. З другога боку — забойства ў 1982 годзе ў Польшчы ксяндза Папялушкі выклікала рэзананс вялікіх мас, улады знайшлі і асудзілі забойцаў. Мусіць, гэткая рэлігія патрэбна людзям. Ад праваслаўя яна не надта адрозніваецца. Каталікі прапаведуюць культ Дзевы Марыі, святы дух ад Айца і Сына, прычашчэнне прэсным хлебам, а не квашаным, цэлібат і Папу Рымскага як перaемніка апостала Пятра. Апошняе азначае, што рэлігія не падпарадкоўваецца дзяржаўнай уладзе. З-за гэтага і разлад у святых айцоў. Усе паўстанні на тэрыторыі былой Беларусі падтрымлівалі каталіцкія святары. Праваслаўныя былі па другі бок, дакладней — за царызм і прыгнёт. Не хочуць пазбаўляцца імперскіх звычак яны і сёння. Беларуская мова для іх чужая, вернікі — таксама. Акрамя таго, праваслаўныя святары цесна зліты з дзяржаўнымі структурамі. Гады тры ўжо, як у рускай прэсе ідзе абмеркаванне фактаў супрацоўніцтва праваслаўных дзеячаў з органамі КДБ. Нягледзячы на пераканаўчыя факты, каяцца і выбіраць новы курс ніхто не збіраецца. Больш таго, у апошнім нумары «Журнала Московской Патриархии» за 1992 год дыякан Андрэй Ларгус кінуўся апраўдваць даносы і, нават, расстрэлы 30-х гадоў. Усё гэта робіцца дзеля перспектывы царквы: «Деятельность КГБ, как ни парадоксально, может быть полезной для формирования внешней церковной, так и внутренней политики». А.Ларгус нават удакладняе, што КДБ «может помочь в вопросах взаимоотношений с католической церковью, в вопросах взаимоотношений с сектами... Помочь прежде всего аналитически, информационно. Отказаться от этой помощи, гнушаться такой помощью — неразумно». Карацей кажучы, КДБ і Праваслаўная царква ў Расіі будуць «маліцца» разам.

Раней было інакш. Адразу пасля кастрычніцкага перавароту царква была аддзелена ад дзяржаўных структур і працэсу навучання. Чаму так паспешліва? Царкоўныя догмы: «не убий, не укради, не пожелай осла и козла ближнего твоего» замінaлі новай уладзе. Наша грамадства пачало развівацца без аглядкі на маральныя праблемы. Дзеля ўмацавання новай улады можна рабіць усё — беспакарана. Гэты прынцып езуіта Ігнацiя Лайолы «мэта апраўдвае сродкі» мы адчуваем яшчэ і сёння. Тады відных царкоўнікаў адкрыта «судзілі за злачынствы» супраць народа. У Санкт-Пецярбурзе амаль усіх расстралялі. У пралетарыяту няма рэлігіі, акрамя камунізму. Няма радзімы, няма продкаў, ёсць толькі светлая будучыня, дзеля якой трэба заваяваць увесь свет. Каму патрэбны нейкія там святары ці могілкі?! Пад сацыялістычны бульдозер іх!

Пад выглядам барацьбы з голадам у 30-ыя гады пачалі канфіскоўваць царкоўную маёмасць. Спецыялісты лічаць, што рознымі шляхамі было ўзята 2,5—3 тысячы тон аднаго золата. Ёсць меркаванне, што яго было яшчэ больш. Адначасова ішоў працэс раскулачвання. Усіх, хто выкарыстоўваў працу наймітаў ці меў малатарню, веялку, млын, абавязкова адпраўлялі на Салаўкі ці ў Сібір. Турмы былі перапоўнены асуджанымі святарамі, кулакамі і падкулачнікамі, нязгоднай з новай палітыкай інтэлігенцыяй і, вядома, буржуямі. Самае страшнае, што большасць гэтых людзей была носьбітамі чалавечай маралі.

Разам з разбуранай царквою прападалі кнігі з запісамі сялянскай гісторыі. Тым, хто захапіў уладу, не было чым ганарыцца. Узровень іх адукацыі быў страшэнна нізкі. У нас ім дaручылі селекцыю беларускай нацыі. Хто не з намі — той супраць нас. Пад гэты прэс трапілі і былыя рэвалюцыянеры. У новых улад сумленне не працавала. У камуністычную партыю іх штурхала жаданне хутка ўзбагаціцца за кошт іншых людзей і дзяржавы. Сведкі раскулачвання расказваюць, што на Палессі актывісты беднаты зрывалі нават пафарбаваную ліштву з вокнаў і прыбівалі на сваю хату. Трагізм у тым, што зрываў гэта пляменнік-камсамолец у роднага дзядзькі. У каго было золата — цягалі ў ЧК: «Аддай на пабудову сацыялізму!» Многа яго прыліпала да рук і не даходзіла па прызначэнні. Узбагачалася новая праслойка людзей. Цяжкая праца рабочага, селяніна ці інтэлігента страціла матэрыяльны сэнс. Прапалі юрыдычныя каноны. Калі арганізаваліся калгасы, то першымі злодзеямі былі сакратары райкомаў і старшыні сельскіх Саветаў. Адчувалі яны сябе, як удзельныя князі. Не даў загадчык фермы, мой дзядзька Антон Аляксандравіч, япрука загадчыку сельскага Савета Пархомчыку, — адразу трапіў у турму за сувязь з польскай дэфензівай. Пасля, вядома, рэабілітавалі. Людзі баяліся. Усе маўчалі. Красці ў дзяржавы стала звыклай справай. Арганізацыя працы была жахлівая. Накормленая і дагледжаная дома жывёла ў калгасе знемагала і дохла. Красці паціху сталі ўсе. Помніце выслоўе: хто ў калгасе не злодзей, той дома не гаспадар? Дзяржава ўводзіла карныя меры. Пасля вайны за жменю каласоў у нашым мястэчку выязны суд судзіў семнаццацігадовую дзяўчыну. Далі дзесяць год. Прага хуткага ўзбагачэння падказала і гэтую жахлівую крыніцу — пачалі раскопваць брацкія магілы. Паэты і публіцысты пісалі палымяныя пратэсты. Толькі ніхто не хацеў рабіць аналіз гэтай з'явы.

У Мінску магілакапальнікі з'явіліся гады чатыры таму. Яны раскопвалі пахаванні нямецкіх салдат і афіцэраў 1944 года ва ўсходняй частцы горада. Хавалі іх як папала. Наогул, акупантаў у нас ніколі не хавалі з пашанай. Аднак ніколі не раскопвалі іх магілы.

Знішчэнне могілак набыло найбольшы размах у пачатку 60-х гадоў, калі вырасла абыякавае да ўсяго новае савецкае пакаленне. У той жа час пачалі аздабляць бязлікія вайсковыя могілкі — братнія магілы. У маім мястэчку пaставілі за кошт сельсавета ніштаваты помнік, але надпіс на ім, як усюды, стандартны. І ў зборы помнікаў гісторыі Мінскай вобласці пра гэтыя могілкі напісана абы-што. Маўляў, тут пахаваны 54 чалавекі. А месточкоўцы кажуць, што пахавана 29 чалавек. Сюды зносілі адзінокія магілы партызан, перанесены прах 11 чалавек, якія загінулі на граніцы яшчэ ў 1939 годзе. Звесткі гісторыкам даваў ваенкамат.

Такія безаблічныя брацкія могілкі ў нас паўсюль. Парадокс, але ў Польшчы, Венгрыі, Германіі ці былой Чэхаславакіі нашы загінуўшыя салдаты ўшанаваны лепш, чым дома. Там амаль заўсёды можна прачытаць прозвішчы пахаваных, дома — толькі «Вечная слава героям, павшим в боях за Родину 1941—45 годов». Для заграніцы гэта былі жывыя людзі, для нас — «живая сила».

Што робіць царква на Беларусі?

На жаль, рэспубліка становіцца арэнай рэлігійнай барацьбы. Каталіцкія святары нясуць польскія сцягі, праваслаўныя — расейскія. Не да маралі. Духоўнае выхаванне мае палітычную мэту ў абедзвюх рэлігій. Гэта не яднае Беларусь. Мне здаецца, што прадастаўленне Ватыкану раўназначных місіянерскіх правоў больш турбуе праваслаўных святароў, чым узлёт нашай бездухоўнасці. Цікава, ці адважацца яны ў гэтай сітуацыі перайсці на беларускамоўнае богаслужэнне, ці будуць працягваць русіфікацыю? Трэба мець на ўвазе, што сёння нават самыя шчырыя вернікі не вераць у барадатага Бога-Айца ці ўваскрэслага Хрыста: савецкая школа зрабіла сваю справу. Людзям трэба ўвесь той арсенал дабраты, чалавечнасці, што назапасілі 70 ці 80 аджыўшых пакаленняў. З-за гэтага яны ідуць да царквы. Дык дайце ім азірнуцца на сваіх продкаў, ушануйце іх! Аднаго памінання скорагаворкай ужо мала. Акрамя таго, царква, усё роўна якая, павінна ўключыцца ў барацьбу за духоўныя каноны ў нашым грамадстве. Карупцыю, крадзяжы, хабарніцтва трэба выкрываць усімі сродкамі. Тая царква, якая лепш арганізуе выхаванне нашай духоўнасці, заслужыць найбольшую пашану людзей.

Сёння многія і многія сельскія могілкі мала чым адрозніваюцца ад намаляваных Г.Вейсенгофам. Перад смерцю ў 1956 годзе Якуб Колас звярнуўся да ўрада з прапановай упарадкаваць могілкі. Была быццам нават пастанова, але абгарадзілі могілкі толькі ў Мікалаеўшчыне, на радзіме песняра. У сельскіх Саветаў няма грошай на каменную агароджу. Агародзяць штыкетнікам, а пафарбаваць няма за што. Колькі пастаіць той штыкетнік? А гэта ж не толькі павага да мёртвых — гэта павага да чалавека.

Асаблівую горыч выклікаюць шматлікія старыя могілкі. Куды ні загляні, усюды помнікі паваленыя ці ўкрадзены на перашліфоўку, магілы занядбаны.

Сёлета на Радаўніцу я з трыма сваімі стрыечнымі братамі ездзіў на вясковыя могілкі на Капыльшчыну. Прыбралі магілкі бацькоў: пафарбавалі агароджу, падмялі старое лісце. Пайшлі паглядзець магілы дзеда і прадзеда. Стала сорамна, што яны недагледжаныя. Мы, грэшна казаць, глядзелі на магілы продкаў ужо як на чужыя. Камуністычны рэжым закінуў абыякавасць у душы гэтых досыць сумленных людзей. Ім як камуністам забаранялася нават заходзіць у царкву ці касцёл памянуць продкаў. Потым гэта стала звычаем. Стаяў я там і думаў: прабачце мне, продкі. Хай Бог свеціць над вашымі душамі! Я — прадукт страшнай эпохі. Мяне гэтак выхавалі. На маіх вачах руйнавалі могілкі ў Мінску: польскія, нямецкія, праваслаўныя, яўрэйскія. Якая розніца, чые? Руйнавалі памяць аб людзях. Руйнавалі, як дзікуны. На месцы каталіцкіх могілак вакол касцёла Святога Роха пабудавалі гаражы і паставілі радыёглушыльнік, праваслаўныя могілкі вакол царквы Марыі Магдаліны перарэзалі велізарным дэфіле, экскаватары вычэрпвалі там чалавечыя косці, чарапы. Хто гэтак запланаваў? Праект выконвала архітэктурна-планіровачнае ўпраўленне, земляныя работы праводзілі работнікі камунальнай гаспадаркі. А ідэалагічнае забеспячэнне — аднайменны аддзел ЦК КПБ. І гэтак па ўсёй рэспубліцы.

Цікава, ці чулі былыя супрацоўнікі гэтага аддзела, як у 1985 годзе амерыканцы знайшлі на глыбіні двух кіламетраў параход «Тытанік», што патануў у 1912 годзе? Яго можна падняць, але людзі вырашылі не рабіць гэтага, каб не турбаваць душы 1500 загінуўшых. Згодна ж савецкай інструкцыі, могілкі дазваляецца ліквідоўваць праз 20 год пасля апошняга пахавання.

Памятаю, бульдозерылі яўрэйскія могілкі на вуліцы Сухой. Яўрэі арганізавалі дэманстрацыю. Знаёмы афіцэр міліцыі потым расказваў: «Паспрабавалі б яны падняць лозунгі ці мітынгаваць — мы б ім паказалі».

Нядаўна прачытаў, што ў Санкт-Пецярбурзе перад Вялікаднем разбурана 30 помнікаў на яўрэйскіх могілках. Гэта па-ранейшаму дзейнічае расавая ідэалогія.

Мне яе апалагеты, пэўна, не павераць, што ў Празе існуюць яўрэйскія могілкі з першай паловы XV стагоддзя. Помнікі розныя: з белага пясчаніка, ружовага мармуру — усяго каля 12000. Самае старажытнае пахаванне — равіна Каро 1439 года. Могілкі разам з сінагогай — частка дзяржаўнага яўрэйскага музея.

На мінскіх могілках было шмат помнікаў архітэктуры. Пасля іх знішчэння горад стаў бяднейшы на культурныя помнікі даўніны. Затое паставілі велізарны помнік М.І.Калініну. Колькім нявінным беларусам ён падпісаў смяротны вырак — наўрад ці хто падлічыць. Наогул, нашы прапагандысты дакладна падлічылі, колькі чалавек загубілі немцы ў Трасцянцы. І ніяк не падлічаць, колькі і каго закатавалі ў Курапатах. Дарэчы, гэтых Курапат на Беларусі яшчэ добра ніхто не шукаў. Старыя людзі паціху гавораць, што былі яны ў кожнай вобласці і кожным вялікім горадзе. Мне здаецца, калі сабраць усіх, каго раскулачылі і арыштавалі перад вайной і хто не вярнуўся дадому, то будзе болей, чым загінула ў вайну.

Сёння на палітыку генацыду беларусаў ужо ніхто не адважыцца, але аматараў духоўнага — хоць адбаўляй. Яны адразу паднялі галовы, калі Беларусь абвясціла незалежнасць, дзяржаўнасць роднай мовы. І тады, калі загаварылі пра нацыянальнасць уніяцтва. Апошняе атакавалі і справа і злева. А між тым, уніяцтва можа быць крыніцай нацыянальнага аб'яднання беларусаў. Гэтага не хочуць былыя партнаменклатуршчыкі, абруселыя чыноўнікі, вайскоўцы, каталіцкія і праваслаўныя святары. Што рабіць патрыётам Беларусі? Адраджаць культуру, эканоміку, мараль, прарываць блакаду галоснасці. Супраціўляцца тым апаратчыкам, якія ўвесь партыйны імпэт, стрыманы перабудовай, накіравалі ў актыўную камерцыю, прыватызацыю і грабеж. Рабіць гэта яны працягваюць і сёння. У абарот паўсюдна пускаюць дзяржаўныя грошы. Гэта таксама раскопванне магіл.

Што з намі будзе? Калі нашы сацыяльнаўплывовыя арганізацыі ці згуртаванні не возьмуцца за выхаванне маралі, наша грамадства чакае духоўная дэградацыя. Радасць узаемнай дапамогі, душэўная шчодрасць і давер, характэрныя для беларусаў, застануцца адно ў памяці. Пачнуцца сацыяльныя выбухі. Сёння капітал нажываюць людзі, якія маюць уладу ці знаходзяцца пад яе пратэкцыяй. Гэтая дзікунская дзяржаўная структура аднолькава раздражняе энергічных кааператараў, збяднелых служачых, увесь працоўны люд. Успомніце, колькі махінацый раскрылі журналісты пра аздараўленчыя паездкі за граніцу дзяцей чыноўнікаў. Будзем спадзявацца, што беларусы, як еўрапейскі народ, прывядуць нарэшце ў дзеянне свой калектыўны розум і пачнуць рабіць нейкі лад у сваёй краіне. Бо калі мы гэта не зробім, то станем адсталай краінай трэцяга свету.

Адной з умоў нашага духоўнага адраджэння павінна стаць і шанаванне нашых продкаў, іх старых магіл. І не дай Божа стаяць нам над раскапанымі магіламі...

**Вячаслаў ПІЛІПЧЫК**

**Марцін КОЎЗКІ**

# ДОЛЯ ПРАЎДЫ

Вельмі супярэчліва прырода нашага бурлівага быцця: сытае жыццё, а без свабоды ці свабода, а без сытага жыцця. Абяцаюць партыі народам сыты быт і поўную свабоду, непрыкметна блякне каларыт: паўсвабоды выдаецца за свабоду, паўгалодны — за нармальны быт.

●

На праспекце Машэрава жанчыны ўкладваюць асфальт. Побач напаўадзетыя прагульваюцца модніцы. «Не губляйце жаночай годнасці», — ушчувае путан сяржант. «А што — лепш укладваць асфальт?» — дапытваюць мента нягодніцы.

●

Мы і яны /з пачутага/. Мы Амерыку па зброі абганялі шмат гадоў. Маем мы цяпер затое федэрацыю «камкоў». Не раўнайце нас з Еўропай, слыннаю Амерыкай, мы па кмену і па кропу ўсё адно наперадзе. Латарэі робяць цуды, Пеця едзе на Бермуды, ён дазнаецца цяпер, ці ён «містэр» ці ён «сэр». Ходзіць кошка па раялю, людзі, дайце веры — Янка з Юркаю «раяля» ўзялі праз меру.

●

Старыя яўрэі ў Мінску, раней чым падацца «туды», збіраліся «ля Дзяржынскага», адвечнай пазбыцца нуды. Сядзяць сабе, галгочуць, што ў цэнтры — зважаць не хочуць. Насупраць шторы расшморгалі: абраза Феліксу Эдмундавічу, ворагі на парозе органаў, не хапае толькі Бунду. Было б яно раней, паслалі б пару «парней», а так пэцкацца неахвота, паслалі «сексота». «Што вы, — сказалі яўрэі, — мы людзі старыя, а побач туалет, у гэтым увесь сакрэт, усе даўно б ужо з'ехалі, дык у ОВИРу кажуць «нет». За шторы прабралася трывога, нашто нам тут сінагога? Выпусціць! Усіх! Спіскам! ... Так таварыш Дзяржынскі дапамог яўрэям у Мінску.

●

П'ём усё, што гарыць, зацягваемся немаведама чым. «Надакучыла жыць? — пытаюцца ўрачы. Урачы, не хвалюйце народ, трэба к хлебу і яд і смурод. Пра атруту з падобнай нагоды мы ўжо чулі: «Опіум для народа».

●

Каб усе нашы зоркі насілі касцюмы, як Эдзіта П'еха, спявалі як Ала Пугачова, ігралі, як «Віртуозы Масквы», — во былі б песняры!

●

Шчаня даражэй за цяля — такая ў часа адзнака. Ці не стане для нас залатым цяльцом пародзісты сабака?

●

Што навучыўся рабіць чалавек, калі злез з дрэва? Круціцца. Каб не злез, можа, даўно б ужо лётаў і пра неба не марыў? Але ці шчаслівейшыя за тых, што круцяцца, тыя, што лётаюць?

●

— Не мыслі багемна, а мыслі сістэмна, — вучыла мяне Несмяяна-царэўна. Што тая сістэма сама падсістэмна, дазнаўся, калі развітаўся з царэўнай. Прыватная тэма мая падсістэма, а стала адразу вялікай праблемай.

●

Жыццё — толькі міг між мінулым і будучым? Ці трапіш у рай ці ў пекла, залежыць ад таго, як той міг пражыў? І ў гэтым сутнасць веры? Не веру!

●

Людзі кажуць, што трафеі, здабытыя на апошняй вайне, генералы і палкоўнікі адпраўлялі дамоў у цынкавых трунах. Ці праўда гэта? Можа, адзін нейкі марадзёр? Але што так гавораць, невыпадкова. Мы ведаем цяпер пра армію тое, што раней старанна замоўчвалася. Была армія надзейным стаўпом рэжыму. Гніў рэжым, гніў і стоўп. І ўсё ж крыўдна за «непобедимую» і «легендарную». Там засталася і мая маладосць.

**Міністэрства культуры і Саюз тэатральных дзеячаў Рэспублікі Беларусь смуткуюць з выпадку смерці выдатнага балетмайстра, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР, вядучага саліста балета, народнага артыста Беларусі Сямёна Вульфавіча ДРЭЧЫНА і выказваюць глыбокае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.**

*Пошукі і знаходкі*

# СІБІРЫЯДА БРАТОЎ ЦЭЗІКАЎ

***Каму з шырокага кола чытачоў не вядомы кнігі «Крылатые слова» і «Куль хлеба» рускага пісьменніка і этнографа С.У.Максімава /1831—1901 гг./? Апрача названых і многіх іншых твораў, яго пяру належыць таксама трохтомнае выданне «Сибирь и каторга», у якім сабраны вялікія матэрыялы па этнаграфіі, гісторыі і статыстыцы катаргі. Асобна гэтая работа-даследаванне выходзіла ў свет тройчы /1871 г., 1880 г., 1900 г./ і адзін раз у поўным зборы твораў пісьменніка /1908—1913 гг./. У другім томе «Сибири и каторги» аўтар дае апісанне абвінавачаных правасуддзем царскага самаўладдзя.***

Як аб дзяржаўных злачынцах, вінаватых у вырабе фальшывых грошай, аўтар распавядае аб братах Ігнату і Феліксу Цэзіках, ураджэнцах Беларусі, канкрэтна — Случчыны. Асаблівая ўвага надаецца Ігнату, скульптурныя работы якога ўражваюць аўтара сваёй вытанчанасцю, почыркам надзвычай таленавітага майстра.

Даверымся У.Максімаву і разам з ім прыгледзімся да лёсу і некаторых твораў І.Цэзіка. Адначасова будзем зазіраць па меры неабходнасці і ў частку судовай справы, якая захоўваецца ў Цэнтральным Дзяржаўным архіве ў Мінску /фонд 76, опіс 2, адзінка захавання — 390—405/.

Ігнат Цэзік вывучыўся ў Вільні маляванню і ляпным работам. Жывучы там доўгі час, ён выявіў свае мастацкія захапленні і здольнасці. Потым па невядомай прычыне з Вільні перабраўся на радзіму, у наваколле Слуцка. У родным сяле разам з братам /адстаўным ваенным/ заняўся гаспадаркай. Ад мастацтва адышоў зусім. Потым ён становіцца членам нейкага тайнага таварыства. Захапіўшыся ідэямі гэтай арганізацыі, Ігнат вырашыў прыстасаваць свае веды і напаўзабытае мастацтва ў справе вырабу фальшывых грошай. Апрача асабістых інтарэсаў /палепшыць свой дабрабыт/, ён кіраваўся і той задачай, каб паслабіць крэдыт урада. Так была арганізавана фабрыка фальшывых грошай. Брат Фелікс тым грошам даваў жыццё — ён пускаў іх у абарот. Браты разлічвалі гэтым зрабіць паслугу вольнасці і свабодзе народа. Заўважым, што нарадзіліся яны /Ігнат — 1778 г., Фелікс — у 1781 г./ яшчэ ў Рэчы Паспалітай, г.зн. да яе 2-га і 3-га падзелаў. Некаторы час усё ішло добра. Але аднойчы злачынства было раскрыта і браты апынуліся ў турме /Бабруйскай крэпасці/.

У турме ў часе высвятлення іх справы Ігнат і Фелікс па звычаю многіх вязняў узяліся ляпіць фігуркі з цеста і хлеба. У адрозненне ад вырабаў іншых нявольнікаў, на вырабах Ігната Цэзіка ляжаў адбітак таленту. Яго работы звярнулі на сябе ўвагу наглядчыкаў і іншых турэмных служыцеляў. Яму палегчылі кайданы, дастаўлялі гліну. У хуткім часе па Бабруйску пачалі разыходзіцца прыгожыя гліняныя сасуды.

Бабруйскае зняволенне скончылася для Цэзікаў тым, што маёнтак іх быў канфіскаваны, самі яны пазбаўлены дваранства і прыгавораны адбываць катаргу ў Сібіры. Суд над братамі адбыўся ў 1828 годзе. Працэс праходзіў у Менскім галоўным судзе 1-га дэпартамента. Следства цягнулася ажно 13 год і склала не адзін дзесятак тамоў. Толькі ў Менску іх захоўваецца — 16. У часе гэтага працяглага даследавання некаторыя людзі, якіх падазравалі ва ўдзеле ў справе Цэзікаў, паспелі пабываць у турме ці на высылцы і выйсці на волю. Так, мастак Ян Дамель па лжывым абвінавачванні ў 1820 годзе быў на два гады высланы ў Сібір. Дарэчы, Ян Дамель быў пахаваны /1840 г./ пад алтаром Кальварыйскага касцёла ў Менску /касцёл тады быў драўляны/.

Гаворачы аб дваранскім званні Цэзікаў, неабходна ўказаць, што яго калісьці заслужыў іх прадзед — селянін Андрэй Цэзік. Ён атрымаў яго разам са званнем капітана ўказам караля Яна Сабескага за службу Айчыне ў часе вайны Рэчы Паспалітай з туркамі. Сыну ж Ігната Цэзіка ад першага шлюбу — Міхаілу Цэзіку ў прашэнні ад 1839 года на імя цара аб вяртанні яму дваранства было адмоўлена. І яшчэ — усе Цэзікі былі доўгажыхарамі. Так, у іх родзе была адна жанчына, якая пражыла 138 год.

У Табольску Цэзікаў /Ігната і Фелікса/ разлучылі. Фелікс пайшоў па этапе, а Ігнат, талент якога звярнуў на сябе ўвагу начальства, быў пакінуты ў Табольскай турме. Тут слава яго вырасла настолькі, што за ляпныя работы майстру-нявольніку плацілі добрыя грошы; іх нават адпраўлялі ў Маскву і Пецярбург для падарункаў і «на здзіўленне». «Вырабы, што выходзілі з рук Цэзіка, прыгажосцю фігур былі роўныя антыкам. Арнаменты кубкаў і ваз былі поўныя харaства і гатычнай фантазіі. Зробленыя з гліны карціны былі артыстычнымі тварэннямі сапраўднага майстра. Калі б ён не пакінуў пасля Вільні карыснага рамяства, калі б удасканальваўся і вучыўся далей і болей, з яго выйшаў бы незвычайны скульптар. Але лёс вырашыў інакш» — так сведчыць адзін са знаёмых васьмідзесяцігадовага Цэзіка.

Нястачы няволі вымушалі Цэзіка на рамесную паспешлівасць. Таму не ўсе яго вырабы маюць мастацкую каштоўнасць. Працаваў ён са звычайнай глінай, няўдзячны матэрыял яе не дазваляў яму надаваць вырабам належную закончанасць.

У Сібіры давялося Цэзіку паспрабаваць сябе і ў цвёрдым матэрыяле — мармуры. Але мармуровыя вырабы з прычыны іх высокай цаны не маглі там мець збыту.

*Пасля выбаўлення з турмы Цэзіку ў Табольску* жылося нядрэнна. Начальства апекавалася, пастаянна паступалі заказы. У яго ўжо было сваё жытло, а ў жытле —жонка-сібірачка, якая пакахала яго ўсім сэрцам, і два сыны. Завяліся прыяцелі, былі і добразычліўцы, адзін з каторых /Пётр Машчынскі/ назначыў яму нават штогадовую і пажыццёвую пенсію ў памеры 300 рублёў.

Але выгнанніцкі лёс не адрокся ад Цэзіка. Лоўкая рука з гліны перайшла на паперу і пачала выводзіць асігнацыі, адну з каторых сам паліцэйскі ўзяў і захаваў у якасці хабару. Гэта падбадзёрыла пасяленца і ён пачаў рабіць фальшывыя грошы і тут. Быў выкрыты, зноў пасаджаны ў турму, зноў асуджаны і прыгавораны да высылкі ў Нерчынскія заводы на Акатуі.

Брата там не знайшоў /той памёр к таму часу/, старога рамяства не пакінуў — рабіў і тут фальшывыя грошы. За гэта яго «саджалі» на ланцуг, прыкоўвалі да тачкі.

Праз некалькі год, вызвалены ад работ, ён пасяліўся пад Верхнеўдзінскам /сёння Улан-Удэ/, а ў 1857 годзе пераехаў у Іркуцк.

Тут Цэзіка запомнілі ўжо старым, з маршчыністым і бледным тварам, сівымі валасамі і барадою. Працаваў ён тут толькі для падтрымання сябе і сямейства. Жонка і *сын дапамагалі яму. Яны ляпілі па старых* мадэлях. Але работы гэтыя ўжо не мелі душы, не зіхацелі прыгажосцю мастацкай апрацоўкі.

За Байкалам ён спарадзіў пераймальнікаў. Праўда, гэтыя рамеснікі, хаця і спекулявалі яго імем, не дасягнулі яго ўзроўню, нават неспрактыкаванае вока лёгка адрозніць яго вырабы ад падробак.

Надзвычай удалая з яго работ — «Акатуйскі руднік». Змест гэтага твора наступны. У даліне — знакамітая турма, удалечыні — горнае паселішча, якое нібыта прыбудавана да рудніка. На гарызонце — сонца, якое апускаецца за гару, на небе — некалькі аблачынак. На пярэднім плане размешчана штольня і каля яе некалькі ссыльных з тачкамі. Ссыльныя вязуць сярэбраную руду. Уперадзе, на самым першым плане, — ён, Цэзік, прыкаваны да тачкі, напоўненай рудою. Работа выканана ў плоскай разьбе.

Як закончаныя мастацкія творы ўспрымаюцца яго некаторыя абразы /напрыклад, святой Варвары/, статуэтка Арыстоцель, які стаіць з кнігай пад дрэвам; Хрыстос, што бласлаўляе дзяцей.

А вось і сам майстар у няволі. Галава абаперлася на руку і павернута да крыжа-распяцця, што стаіць на століку. Пад столікам гуляюць мышы.

*Другая работа — таксама сам Цэзік, з* поглядам, поўным чакання. Вязень глядзіць праз краты вакна, да якога набліжаецца жанчына з двума дзецьмі на руках — няшчасная жонка шчаслівага на гэты момант мужа.

І яшчэ адна работа. У хаце са столі звісае шост, да якога прымацавана калыска. Побач на пасцелі сядзіць жанчына /няйначай жонка вязня/ і корміць грудзьмі дзіця. Каля сцяны — кудзеля з прасніцай, гаршкі і іншая дробязь. Усё гэта зроблена з фламандскім цярпеннем і чысцінёй. І гэтыя работы выкананы таксама ў плоскай разьбе.

Захаваліся такія работы Цэзіка. Першая: міфалагічны геній пускае мыльныя бурбалкі, а мноства вядомых у гісторыі вялікіх людзей ловіць іх. Паважны і над усім пануючы Час злосна пасміхаецца над натхненнем: маўляў, вось і слава такая ж, як і гэтыя мыльныя бурбалкі. Другая: птушка пелікан /сімвал мацярынскай любові/ корміць дзяцей крывёю, здабытай з уласнага сэрца. Трэцяя: рымлянка, дачка сенатара, асуджаная на галодную смерць у турме, корміць свайго бацьку ўласнымі грудзьмі. Чацвёртая: п'яніца верхам на скаціне. Тэхніка і гэтых работ — плоская разьба.

З гліны рабіў ён і партрэты: ссыльнага ў Табольску, Пятра Машчынскага, М.М.Мураўёва-Амурскага.

Рабіў ён статуі /свайго апекуна Пятра Машчынскага, Буды/, розных бажкоў на продаж буратам.

Але самая вялікая колькасць вырабаў — гэта забаўкі для ўпрыгожвання будуарных этажэрак: люлькі, цукерніцы, вазы. З вырабаў гэтага гатунку асабліва выдзяляюцца два: цыгарэтніца і паляўнічы кубак. Першае ў выглядзе ссыльнага, прыкаванага да тачкі, які адпачывае пад дуплістым дрэвам. Тачка прызначана для запалак, дупло — для цыгар. Кубак зроблены з чорнай гліны і ўпрыгожаны прыналежнасцямі палявання.

Кажуць, што некаторыя работы, як, напрыклад, дробныя ландшафты на люльках, Цэзік рабіў у адзіночным турэмным зняволенні, дзе няма нічога вострага. Рабіў чым давядзецца: рыбнай костачкай, аскепкам талеркі, шклянкі, аконнага шкла. Рабіў з аднолькавай лоўкасцю і нязменным мастацтвам.

Так, паводле Максімава і судовай справы, бачыцца нам лёс скульптара-вязня і яго мастацкай спадчыны. Што вядома яшчэ пра яго?

Цэзік быў у сяброўскіх адносінах з мастаком Янам Дамелем, аб чым сведчыць ліставанне паміж імі. Лісты іх прыкладзены да судовай справы Цэзіка. З яе відаць, што Цэзік адзін час працаваў у канцылярыі Віленскага універсітэта /1810—1811 гг./. У 1811 годзе быў залічаны ў студэнты універсітэта, але ў наступным годзе пакінуў яго і ў якасці пасэсара /арандатара/ пасяліўся ў маёнтку Старына на Случчыне, дзе і пачаў выпускаць фальшывыя асігнацыі. У судовай справе пералічваецца 1650 адзінак фальшывых асігнацый вартасцю ад ста да пяці рублёў пад рознымі гадамі /1789—1813 гг./, знойдзеныя пры вобыску.

Цікавая геаграфія адрасатаў Цэзіка. Гэта: *Менск, Слуцк, Вільня, Варшава, Паставы, Слонім, Халмагоры /Архангельская губерня/ і г.д.* Вялізная колькасць адрасатаў. Вось некаторыя: Я.Дамель, С.Нямчэўскі, Клімантовіч, Корзун, Магілянскі, Кажухоўскі, Тарноўскі. Не меншую цікавасць выклікае падбор кніг у хатняй бібліятэцы. Гэта, напрыклад: «Платон, диалоги», «Выборы лучших авторов из поэзии и прозы», «Страшный суд», падручнікі па геаграфіі і хіміі, «О военной тактике», «О варении пива», «О лечении лошадей», «О металлах», «Об Александре Меншикове», шматлікія разнастайныя слоўнікі і г.д. Валодаў Цэзік беларускай, расейскай, польскай, французскай і нямецкай мовамі.

Алоўкавы накід партрэта /як мяркуецца, Цэзіка/ змешчаны побач з аўтапартрэтам Я.Дамеля на канверце, у якім мастак атрымаў ліст ад сябра-пасэсара. Тут жа, у справе, знаходзіцца невядомы нават у навуковым ужытку добра захаваны партрэт М.Падалінскага /работа таго ж Я.Дамеля, зробленая ў Вільні ў 1813 г./.

Некаторыя з работ Ігната Цэзіка захоўваюцца ў запасніках Эрмітажа і Іркуцкага гісторыка-краязнаўчага музея.

Думаецца, сённяшнія мастацтвазнаўцы не могуць не зацікавіцца работамі нашага земляка. Ёсць неабходнасць пачаць іх пошук у музеях, сховішчах музеяў, у прыватных асоб і г.д. Геаграфія іх знаходжання, апрача Санкт-Пецярбурга і Іркуцка, вельмі вялікая. Гэта: Вільня, Слуцк, Бабруйск, Масква, Табольск, Улан-Удэ і іншыя мясціны.

**Яўген ГУЧОК,**
**старшы рэдактар выдавецтва «Народная асвета»**


**ЛіМ**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
**САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**





**АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.**

**Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі -- 33-24-61; намеснікі галоўнага рэдактара -- 33-25-25; 33-19-85; аддзелы: публіцыстыкі -- 33-25-25, пісьмаў і грамадскай думкі -- 33-19-85, літаратурнага жыцця -- 33-24-62, крытыкі і бібліяграфіі -- 33-22-04, паэзіі і прозы -- 33-22-04, музыкі -- 33-21-53, тэатра, кіно і тэлебачання -- 33-21-53, выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў -- 33-24-62, навін -- 33-19-85, мастацкага афармлення -- 33-24-62; фотакарэспандэнт -- 33-24-62; бухгалтэрыя -- 26-86-40.**





**Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах**

**Друкарня "Беларускі Дом друку"**

**Індэкс 63856. Наклад 12.000. Нумар падпісаны 5.08.1993 г.**

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12